УДК 821.161.3-32
ББК 84(4Беи)6-44
С41

Р э ц э н з е н т :
загадчык кафедры гісторыі і культурнай спадчыны
ВДУ імя П. М. Машэрава, кандыдат гістарычных навук,
дацэнт *А. М. Дулаў*

На вокладцы:
сядзіба ў Міжрэччы (здымак да 1939 г.)

**Сіўко, Ф. І.**
**С41** Што раньш было / Ф. І. Сіўко. – 3-е выд., удакл. і дап. – Віцебск : ВДУ імя П. М. Машэрава, 2024. – 100 с.
ISBN 978-985-30-0093-1.

У выданне ўвайшлі нарысы і матэрыялы краязнаўчага зместу, тэматычна звязаныя з рэгіёнам памежнага беларуска-латвійскага Прыдзвіння і прысвечаныя даследаванню сацыяльна-этнаграфічнага ракурсу яго існавання ад часоў пракаветных да сённяшняга дня. Багата ілюстраваныя дакументамі і фотаздымкамі тэксты разлічаны на ўсіх, каму неабыякавы лёс нашай культурна-гістарычнай спадчыны.

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)6-44**

**ISBN 978-985-30-0093-1**

## Змест

# Тапонімы
# ніжняга цячэння ракі Вяты
# ў даўнейшых і сучасных спісах, даведніках, слоўніках і сродках масавай інфармацыі

У агульным значэнні тапонім (грэч.: τόπος, όνομα – месца, імя) – назва геаграфічнага аб’екта пэўнай мясцовасці. Як вядома, адзінага падыходу да класіфікацыі тапонімаў на сённяшні дзень не існуе, навукоўцы падзяляюць іх паводле знешніх прыкмет на некалькі класаў*:

- гідронімы – назвы водных аб’ектаў: рэк (патамонімы), азёраў (лімнонімы) і г. д.;
- айконімы – назвы населеных пунктаў: гарадоў (асціонімы), сельскіх паселішчаў (камонімы);
- мікратапонімы – назвы невялікіх месцаў (студняў, крыніц, вадаспадаў і г. д.);
- урбанонімы – найменні ці назвы ў межах тапаграфічнага аб’екта;
- аронімы – назвы ўзнятых і ўгнутых формаў рэльефу (гор, узгоркаў, хрыбтоў, яроў, западзін і г. д.);
- ойкадамонімы – назвы будынкаў;
- эклезіонімы – уласныя імёны культавых месцаў.



*Рака Вята ў сярэдзіне ніжняга цячэння. Здымак А. Немянёнак. 2021 г.*

---

* У прыведзеным далей пераліку названыя толькі класы, якія сустракаюцца ў гэтым тэксце.

Тапонім можа шмат сказаць пра гісторыю мясцовасці і лад жыцця ды побыт яе насельнікаў. А праз ступень дакладнасці пры падачы на мапах, у выданнях практычнага прызначэння (даведніках, спісах, слоўніках) – пра стан тапанімікі як навукі.

У плыні адзначанага прааналізуем некаторыя тапонімы ніжняга цячэння калісьці паўнаводнай, багатай на рыбу, а сёння дарэшты абмялелай ракі Вяты (мясц. – Вяткі), што ўліваецца ў Заходнюю Дзвіну прыкладна на сярэдзіне адлегласці паміж мястэчкамі Друя (даўн. – Сапежын) і Лявонпаль, на ўскрайку аднайменнае вёскі Вяты Мёрскага раёна. Мясціны, куды, з прычыны яе аддаленасці ад буйных населеных пунктаў, нага тапаніміста калі і ступала, дык вельмі рэдка.



*Рыбаловы-аматары з крыгаю на рацэ Вяце ў сярэдзіне яе ніжняга цячэння. Пачатак 60-х гг. XX стагоддзя. Здымак са збору К. Каташук.*

## Рака Вята

Даўжыня ракі Вяты, левага прытока Заходняй Дзвіны, – 31 кіламетр. У пераліку на так званыя малыя беларускія вёрсты, якімі карысталіся нашы продкі да ўвядзення метрычнай сістэмы мер, гэта прыкладна 20 вёрстаў. Вята выцякае з возера Набіста (Дзедзіна, Дзедзінскае) ля вёскі Пераброддзе* Мёрскага раёна і да возера Шчоўна мае іншую назву (патамонім) – *Хараброўка*. У "Матэрыялах па гісторыі і геаграфіі Дзісенскага і Вілейскага паветаў Віленскай губерні" А. Сапунова і кн. У. Друцкага-Любецкага 1893 г. гэтая

* Пераброддзе – радзіма Міхаіла Шуманскага (1920–1982) і Васіля Юневіча (1917–1977), спевакоў, заслужаных артыстаў БССР.

назва, як і цяперашняя на ўказальніку ля вёскі Пераброддзе, падаецца з няпоўнагалоссем: *Храброўка*.



*Удалечыні праз пратоку – возера Набіста, з якога выцякае рака Вята (Хараброўка). Здымак В. Батуры. 2022 г.*

Паводле выдання І. І. Гашкевіча “Віленская губерня: поўны спіс населеных месцаў са статыстычнымі дадзенымі пра кожнае паселішча” 1905 г., усе населеныя пункты Друйскай воласці* ўздоўж левага берага ракі месцяцца па-над Вятай. У той час, як большасць вёсак і хутароў суседняй Лявонпальскай воласці, што знаходзяцца на процілеглым, правым беразе і часам літаральна за некалькі соцень метраў ад першых, – ужо чамусьці па-над Хараброўкай.

Гэткая недарэчнасць тлумачыцца, відаць, тым, што складальнік выдання карыстаўся пры падрыхтоўцы рукапісу да друку звесткамі з розных крыніц і на неадпаведнасць адных другім адносна аднаго і таго ж аб’екта належнае ўвагі не звярнуў.

У дадатак адзначым, што абодва адрэзкі ракі маюць кожны ў сваім цячэнні аднайменны ўласнай назве населены пункт: Вята – вёску Вяту, Хараброўка – вёску Хараброва.




*Указальнік ракі (з хібаю ў напісанні літары «ў») пры пратоцы паміж азёрамі Абстэрна і Набіста ля в. Пераброддзе. Здымак В. Батуры. 2022 г.*

* Воласць – найменшая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка часоў Расійскай імперыі і савецкага перыяду прыкладна да 30-х гг. мінулага стагоддзя.



*Нулявы польска-латвійскі памежны слуп. 1933 г.*

Як сцвярджаецца ў апісанні ракі Вяты ў Вікіпедыі, яна “ўпадае ў Заходнюю Дзвіну за 1 км на захад ад вёскі Вяты” (тут і далей падкрэсліванні аўтара. – *Ф. С.*). Хаця правільна было б – “крыху больш за 1 км на захад ад цэнтра вёскі Вяты”. Бо рака Вята, калі зыходзіць з запісаў у дакументах пра месцапражыванне насельнікаў мясціны пры яе ўтоку ў Заходнюю Дзвіну, – элемент краявіду не ваколіц вёскі, а яе самой.

Прыкладна на гэткай жа адлегласці ад ракі знаходзіцца ў вёсцы Вяце, крыху наўзбоч могілак у накірунку Заходняй Дзвіны, цяперашні беларуска-латвійскі памежны слуп. Надзейна схаваны ад старонняга вока паласою лесапасадкі, ён месціцца акурат там, дзе некалі месціліся пры мяжы Польшчы, Латвіі і СССР два тагачасныя нулявыя слупы: польска-латвійскі і польска-савецкі. Як выглядалі апошнія, даюць уяўленне старыя здымкі 1930-х гг. уверсе і ўнізе злева (крыніца: polona.pl).

Што да дзвюх назваў (патамонімаў) ракі – *Хараброўка*, *Вята*, – то такое ў яе ніжнім цячэнні і адносна назваў паселішчаў (камонімаў) таксама не рэдкасць.





***Злева:*** *усталяванне закладной (ніжняй) часткі нулявога польска-латвійскага памежнага слупа ў в. Вяце на мяжы Польшчы, Латвіі і СССР. Удалечыні ў верхнім левым куце, пры самым беразе Заходняй Дзвіны, – нулявы польска-савецкі слуп. 1933 г.*
***Справа:*** *тая самая закладная частка праз 89 год. Здымак аўтара. 2022 г.*




*Рака Вята і некаторыя населеныя пункты яе ніжняга цячэння на мапе польскага Вайсковага геаграфічнага інстытута 1932 г. Уверсе стрэлкаю ў накірунку Заходняй Дзвіны, якая ад гэтага месца на процілеглым, латвійскім баку называецца Даўгаваю, пазначаны пункт размяшчэння першых па ліку (нулявых) слупоў на тагачасных польска-латвійскай і польска-савецкай межах.*

Прыкладна за тры кіламетры ад вёскі Вяты да нядаўняга часу знаходзілася цяпер ужо згаслая вёска Міжрэчча* (мясц. – Мізарэча), перайменаваная гэтак у XVII стагоддзі з Дубровіцы (Дуброўкі). Назву якой не след блытаць з аднакарэннымі назвамі дзвюх яшчэ раней зніклых тутэйшых вёсак, што месціліся на беразе суседняй (упадае ў Заходнюю Дзвіну за чатыры кіламетры ад Вяты) рэчкі Мёрыцы: Надмірэчча (Надмерыца) і Надрэчча.

Назва ж вёскі Вяты, як убачым далей, калі і не мянялася ніколі кардынальна, дык трансфармавалася паводле нюансаў гучання неаднойчы.

## Кухальшчына

Маляўнічы ўскраек (урочышча) вёскі Вяты пры месцы ўпадзення ракі Вяты ў Заходнюю Дзвіну цяпер зусім бязлюдны, а яго старадаўняя назва *Кухальшчына* – мікратапонім, не проста абмінуты ўвагаю тапаністаў, краязнаўцаў і мапографаў, а і зусім забыты. Ад часоў распаду СССР гэта –



*Апошняя, ад не так даўняга часу спусцелая хата ў Кухальшчыне, у якой на момант нараджэння аўтара кватаравалі ягоныя бацькі. Належала селяніну Данату Анашку, затым – яго сыну Антону-Лявону (памёр у 2017 г.).*
*Здымак Д. Росала. 2021 г.*

* Віцебскі край. – 2021. – Т. 6. – С. 228–239.



*Фрагмент столі (мясц. – сталявання) хаты ў Кухальшчыне з крукам для прывязвання зыбкі немаўляці. Здымак Д. Росала. 2021 г.*

глухая пясчаная мясціна, густа зарослая хмызам і дрэвамі лесапасадкі частка памежнае паласы.

Сёння і ўявіць нават цяжка, што некалі тут, як і ва ўсёй Вяце, віравала жыццё: людзі гадавалі дзяцей, урабілялі зямлю, даглядалі статак, займаліся рыбалоўствам і плытагонствам, і нават дзейнічала, як сцвярджалі да адыходу ў іншы свет некаторыя старажылы, ткацкая (і быццам бы не адна) ці то мануфактура, ці то – хутчэй за ўсё – саматужная арцель.

На пачатку 30-х гг. мінулага стагоддзя мясцовыя сяляне сяліліся ў Кухальшчыне ўздоўж правага берага ракі згодна з аб'яўленай польскімі ўладамі праграмай хутарызацыі. Гэта быў час, калі ніводзін лапік зямлі так званых крэсаў не заставаўся без гаспадара, а хаты ды гаспадарчыя пабудовы тубыльцаў ва ўзгорыстым закутку паміж Заходняю Дзвіной і пятлястаю Вятай спраўна ляпіліся да кустоўя на высокім і часам надта ж стромым беразе прытока.

## Прудніцкае гарадзішча. Фартэцыя Вята

Вядомы па крыніцах з XVI стагоддзя (першая згадка датуецца 1515 г.) замак-фартэцыя Вята (Betha, Wetta, Viviata, Wieta, Wiata), ад якога цяпер застаўся, на жаль, толькі курган, знаходзіўся на Прудніцкім гарадзішчы, крыху менш за паўтара кіламетра ад сённяшняга цэнтра вёскі Вяты. Што і сталася прычынаю наяўнасці двух тапонімаў для абазначэння гэтага месца: *Прудніцкае гарадзішча*; *замак Вята*.

Калі для чалавека дасведчанага такое розначытанне не праблема, то для асобы, далёкай ад метамарфозаў тапанімікі, – відавочна. Тым больш, што ўзведзены Іванам Сапегам на старажытным гарадзішчы замак падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай у сярэдзіне XVII стагоддзя быў разбураны, а сёння здабыць дакладныя звесткі з яго папярэдняй і наступнай гісторыі не так проста.

Але, як бы ні было, кожная з дзвюх назваў мае права на існаванне. *Замак-фартэцыя Вята*, што месціўся на *Прудніцкім гарадзішчы*; *Прудніцкае гарадзішча*, на якім месціўся *замак-фартэцыя Вята*, – так, відаць,

будзе правільна казаць пры выкарыстанні назваў у спалучэнні аднае з другой. Для чалавека ж неабазнанага ў гісторыі мясціны гэты курган сёння – не больш як аронім, застылая ў часе ўзнятая форма рэльефу без зместу і прыкмет жыцця.



*Рэшткі Прудніцкага гарадзішча, сённяшні выгляд. Здымак Д. Росала. 2021 г.*

Бліжэйшымі да гарадзішча вяцкімі хутарамі ўздоўж ракі Вяты на пачатку 70-х гг. мінулага стагоддзя з'яўляліся хутары сем'яў Пётры (памёр у 1939 г.) і Марылі Дальшэўскіх, Антона і Станіславы (Стасі) Аніськаў, Юзафа і Веры (Вэрці) Аніськаў*. А даўжэй за ўсіх, амаль да пачатку 80-х гг. XX стагоддзя, пратрымаўся паблізу гарадзішча хутар былога фурмана двара Устжэжа Юзафа (памёр у 1970 г.) і Ганны (памерла ў 1974 г.) Анашкаў.



*Камены крыж пры гарадзішчы Пруднікі. Здымак аўтара. 2005 г.*
*Дзе цяпер знаходзіцца – невядома.*

* Звесткі паводле расповедаў жыхароў в. Пруднікі Тарэсы Янушкевіч (Дальшэўскай, нар. у 1932 г. у в. Вяце) і в. Вяты Броні (нар. у 1943 г.) і Зыгмунта Каскевічаў. Запіс 2023 г.

Ён туліўся на вяршыні высокай тэрасападобнай гары пры згібе ракі ў накірунку Кухальшчыны, прыкладна за паўкіламетра ад гарадзішча, абрысы якога ў яснае надвор’е былі бачныя з панадворка і вокнаў хаты.



*__Злева__ ў сярэднім радзе: Ільдэфанс (мясц. – І(А)льдэфанц, І(А)льдэфан, паводле пагаспадарчай кнігі 1946–1948 гг. – Эльдэфанс) і Валянціна Анашкі, жыхары ўрочышча Кухальшчына ў Вяце, сын і нявестка Юзафа і Ганны Анашкаў, апошніх жыхароў хутара паблізу Прудніцкага гарадзішча. Ніжэй – іх сын Янак. __Уверсе злева:__ сястра Ільдэфанса Яніна, побач з ёю – сястра Валянціны Рэня Мурашка. __Справа__ ў сярэднім радзе – сястра Ільдэфанса і Яніны Стафанія з мужам Янкам, жыхары Міжрэчча, на пачатку сужэнства – кватаранты ва ўрочышчы Кухальшчына. __Унізе__ іх дзеці Ірына і Франак. Здымак са збору аўтара. Каля 1959 г.*

## Папяровае (кардоннае) прадпрыемства, пазней – млын, гідраэлектрастанцыя ў фабрычнай асадзе* Міжрэчча

Прудніцкае гарадзішча – не адзіная мясціна ніжняга цячэння Вяты, назва якой часам патрабуе ўдакладнення. І найперш маецца на ўвазе маляўнічы куток пры згібе ракі ў месцы найбольшага перападу ўзроўню яе рэчышча крыху больш за паўкіламетра ад кургана. Сёння гэта ўлюбёнае месца адпачынку і спасціжэння хараства прыроды не толькі жыхароў Мёршчыны, але і іншых рэгіёнаў Беларусі.

* Асада – пасяленне, сядзіба асадніка – польскага ўрадавага пасяленца-каланіста на заходнебеларускіх, пераважна пагранічных землях у перыяд з 1920 па 1939 г.

У друкаваных выданнях і сеціве мікратапонім для яго абазначэння гучыць так: *вадаспад на Вяце*. Гэта правільна, аднак, раз-пораз мільгаюць і такія няслушныя назвы, як *вадаспад у Суромшчыне* (*Вяце*, *Пруднiках*, *Александрыне*). І нават, як, напрыклад, у прысвечаным Мёршчыне раздзеле кнігі “Гарады і вёскі Беларусі” 2019 г. выдання, – у *Мёрах*. Што прыкладна тое самае, як прыпісаць купалаўскую сядзібу ў Ляўках Оршы або Германавіцкі музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча – Шаркаўшчыне.

На мапе 1932 г. гэтае месца, як і двор (маёнтак), што знаходзіўся вышэй супраць цячэння ракі, прыкладна за кіламетр адсюль, названае Міжрэччам (гэта значыць кваліфікаванае як гаспадарчая адзінка, прыналежная да двара Міжрэчча), з пазнакаю-скаротам аб размяшчэнні тут папяровай фабрыкі (Międzyrzec Pap.). У спісе мясцовасцей Рэчы Паспалітай 1938 г. назва месца выглядае так: os. fabr. (osada fabryczna – фабрычная асада. – *Ф. С.*) Międzyrzecze.




*Сядзіба Міжрэчча (D. Międzyrzecz) і асада Міжрэчча (Międzyrzecz Pap.) на мапе 1932 г. Адлегласць паміж імі напрасткі – прыкладна кіламетр.*

Такая аднайменнасць двара і аднесенае да яго фабрычнае асады спарадзіла ў тагачасных даведніках і спісах пэўную блытаніну. Так, паводле спіса ўладальнікаў маёнткаў Лявонпальскай гміны** 1929 г., гаспадаром двара Міжрэчча з’яўляецца Альгерд Аскерка. А ў спісе крэсавых маёнткаў на верасень 1939 г. (але быццам бы паводле стану на 1928 г.) у якасці ўладальніка гэтага ж двара фігуруе Багдан Козелл-Паклеўскі (Bohdan Koziełł-Poklewski). У той час, як паводле спіса млыноў гміны 1938 г. яго цёзка па прозвішчы В. Козелл-Паклеўскі (W. Koziełł-Poklewski) з’яўляецца ўладальнікам млына ў фабрычнай асадзе Міжрэчча і, відавочна, ім жа на прадпрыемстве: Fabryka Międzyrzecze (Фабрыка Міжрэчча) паводле спіса парафіянаў ідолтаўскага касцёла канца 1920-х – пачатку 1930-х гг.

З улікам акалічнасці, што жонка Віктара Святаполк-Мірскага (роднага дзядзькі Альгерда Аскеркі) Тэрэса Марыя **(Дадатак 2.1)** акурат паходзіла з роду Козелл-Паклеўскіх, апошняе было б не дзіўна. Калі б не той факт, што бацька яе, ініцыял якога – W. (Władysław) і прозвішча – Koziełł-Poklewski – цалкам супадаюць з пададзенымі ў згаданых успамінах і спісе, не памёр яшчэ ў 1889 г.

Тады хто гэты Уладыслаў? Можа, хтосьці са сваякоў Тэрэсы Марыі, не абавязкова бліжэйшых? Балазе адзін такі, дарэчы, як і гаспадар млына (толькі чамусьці ва Устжэжы) ва ўспамінах М. Задоры-Цішэўскага **(Дадатак 1)** і ў прыведзеным ніжэй фрагменце спіса парафіянаў* ідолтаўскага касцёла, – стары кавалер, маецца, напрыклад, у Вялікай генеалогіі Мінакоўскага.

*Уладыслаў Козелл-Паклеўскі ў спісе парафіянаў Фабрыкі Міжрэчча.*

Ці так гэта насамрэч – сказаць цяжка. Як і цяжка пагадзіцца са складальнікамі спіса ўладальнікаў земскіх маёнткаў Браслаўскага павета 1930 г. наконт таго, што Міжрэчча ў пераліку двароў нават не ўзгадваецца.

З самых відавочных фактычных памылак датычна колішняй асады больш позняга часу варта адзначыць тую, што, з увагі на адносную (каля 1 км) аддаленасць фабрычнай асады Міжрэчча ад двара Міжрэчча, жыхары паваеннае аднайменнае вёскі адносілі асаду, а затым і штучны вадаспад пры руінах колішняй фабрыкі (млына, гідраэлектрастанцыі) не да свайго паселішча, а, як і М. Задора-Цішэўскі, да другой, крыху бліжэйшай да асады мясціны, – Устжэжа. І называлі яго, адпаведна, або Устжэжам, або – часцей за ўсё – гэтак, як названае яно ў спісе парафіянаў ідолтаўскага касцёла, – Фабрыкай (мясц. – Фабаркай).

## Устжэжа (Устжэж) і яго ваколіцы

Камонім *Устжэжа* на мапе 1932 г., у адраснай кнізе Польшчы 1929 г., у пераліку земскіх маёнткаў Браслаўскага павета 1930 г., у іншых крыніцах падаецца на польскай мове па-рознаму: *Ustrzesz, Ustrzeż, Ustrzerz*. Назва віда-

* У спісе парафіянаў стан сужэнства (як і ўзрост), як правіла, адлюстроўваецца. Напрыклад, у дадзеным спісе падаецца прозвішча і імя Станіслава Шаркеля з ліку абслугі, а ніжэй, з пазнакаю, што гэта яго жонка, – імя Францішкі з роду Лакоткаў. Сарачынская Ганна з абслугі, Казімір (магчыма, таксама з роду Козелл-Паклеўскіх) і сам Уладыслаў Козелл-Паклеўскі запісаныя без пазнакаў пра сужэнства.

вочна ўтвораная ад польскага слова ustrzec (*зберагчы, абараніць, увартаваць*) і звязаная з наяўнасцю паблізу маёнтка памежнай заставы (на мапе 1932 г. па-польску са скаротам – strażn.), што знаходзілася на тым жа беразе ракі, што і фабрыка, толькі за паўвярсты ніжэй па цячэнні, насупраць вёскі Пруднікі*.

Таму і пададзены складальнікамі кнігі "Памяць. Мёрскі раён" пераклад яго назвы паводле працы О. Гедэмана "Гісторыя павета Браслаўскага" як *Устраж*, хаця з пункту гледжання практыкі падачы тапонімаў іншамоўнага паходжання і некарэктны, аднак жа зместава ўяўляецца дакладным. Гэтаксама, як і пераклад назвы на рускую мову ў спісе населеных пунктаў Мёрскага раёна "Геаграфічнага ўказальніка да пагаспадарчых кніг" 2013 г. выдання – *Устреже (Устеже).*

Што да варыянтаў напісання камоніма ў сучасных выданнях без перакладу (*Устжэша, Устшэжа, Утжэша*), то гэта, з улікам згаданае адсутнасці адзінства ў напісанні назвы ў польскіх крыніцах і спецыфікі перадачы на пісьме некаторых спалучэнняў зычных гукаў у мове нашых заходніх суседзяў, быццам бы зразумела. З гледзішча ж патрэбы ўніфікацыі гучання і напісання назваў, канечне, непажадана.

*Устжэжа* – так падаецца найменне мясціны ў большасці вартых даверу крыніц, і такой яна павінна заставацца ў спадчыну нашчадкам.

Як ужо адзначалася, жыхары прылеглых да колішняе фабрычнае асады вёсак здаўна называлі яе проста Фабрыкай (Фабаркай). Пасля спынення з-за наступстваў пажару працы электрастанцыі на пачатку 1960-х гг. гэтая назва замацавалася за месцам знаходжання вадаспада. Гісторыя ж самой мясціны збольшага вядомая, хаця і ўдакладнення, зразумела, патрабуе.

Ад XIX стагоддзя тут дзейнічала фабрыка па вытворчасці кардону** і паперы для ўпакоўкі. З ваколіц вёсак Рачнёва, Павяцце і іншых населеных пунктаў сюды па Вяце сплаўляліся (дастатковы для сплаву ўзровень вады ў рацэ забяспечваўся дзякуючы запрудам пры млынах) асінавыя бярвенні даўжынёю да 2–3 метраў. Тут яны пілаваліся, пілаванае драбілася на шчэпкі, крышылася, малолася, молатае прасавалася ў пласты, якія затым сушыліся (сушарняў было дзве: адна ўнізе, на доле, другая – вышэй на ўзгорку, абедзве былі пашкоджаныя ў 1939 г. падчас моцнага дваццаціхвіліннага градабою) і, даведзеныя да належнае кандыцыі, адвозіліся ў Друю для далейшай адпраўкі на Вільню.

Затым фабрыка была перароблена на вадзяны млын***. Гаспадарамі яго, паводле І. І. Гашкевіча, з'яўляліся ўладальнікі Міжрэчча Мірскія, а напрыканцы 30-х гг. XX стагоддзя, калі даваць веры растыражаваным срод-

* Пруднікі – радзіма Казіміра Смулькі (1894–1965), дзеяча беларускага хрысціянскага руху, каталіцкага святара.

** Гарады і вёскі Беларусі : Віцебская вобласць. – Мінск : БелЭн, 2019. – С. 487.

*** Тамсама.

камі масавай інфармацыі звесткам паводле расповедаў некаторых тутэйшых жыхароў, – селянін па прозвішчы Казлоўскі.

Ці сапраўды гэта быў Казлоўскі, а не ўсё той жа згаданы вышэй У. (Уладыслаў) Козелл-Паклеўскі, якому млын належаў паводле спіса 1938 г. і падвойнае прозвішча якога дасціпныя тубыльцы ўпаўне маглі перарабіць на аднакарэннае, больш простае ў вымаўленні, – сёння спраўдзіць складана. Таму застаецца толькі спадзявацца, што сярод краязнаўцаў Мёрскага раёна маладзейшага веку знойдзецца з часам хтосьці, каму будзе цікава зрабіць гэта на карысць аднаўлення справядлівасці мясцовага, так бы мовіць, маштабу.

У 1995 г. вёску Сташулі* наведаў нехта К. Казлоўскі – унук колішняга ўладальніка сташулёўскага млына А. Судніцкага, які спачатку пераехаў з сям’ёю са Сташулёў у Друю, а затым у сярэдзіне 1960-х гг. – з Друі ў Польшчу. Але ці мелі продкі гэтага чалавека дачыненне да міжрэчанскага млына, уласнікам якога калісьці быццам бы з’яўляўся яго цёзка па прозвішчы (а ці, можа, сваяк?), – невядома.



*Жыхарка в. Сташулі і яе абраннік з в. Рыбакі напярэдадні шлюбу. Каля 1920 г.*

Затое вядома, што ў першай палове 1930-х гг. пэўны час працаю млына кіраваў выпускнік Друйскай гімназіі імя С. Баторыя Антон (Антоні) Пупін, пазней – загадчык Міжрэчанскай пачатковай школы, які памёр у 1982 г.,

* Сташулі – радзіма Галіны Тычкі (нар. у 1955 г.), літаратуразнаўцы.

пахаваны на могілках вёскі Бабарыкі. (Дарэчы, у запісе размовы аўтара з А. Пупіным у 1980 г. маецца згадка пра нейкага Казлоўскага, афіцэра з Будслава, і сям'ю яго жонкі Алены Каральчонак з вёскі Шальціны. На жаль, пазнака, у сувязі з чым гэтая асоба падчас размовы згадвалася і ці мае яна якое дачыненне да Міжрэчанскага млына, у запісе адсутнічае.)

Да слова, заробак кожнага з работнікаў млына складаў каля 30–40 польскіх злотых, на якія ў той час можна было купіць каля 20 пудоў хлеба. Без працы ж прадпрыемства не прастойвала, бо вальцаваць (плюшчыць) і малоць зерне ды часаць воўну прывозілі сюды нават з Латвіі. Пазней, калі млыны на рацэ Вяце перасталі дзейнічаць, наадварот, мясцовае насельніцтва пачало вазіць малоць збожжа і даводзіць да ладу воўну ў Латвію*.

Лічбы на мапе 1932 г. сведчаць, што ў фабрычнай асадзе Міжрэчча былі 4 хаты. Паводле выдання "Пералік мясцовасцей Польскай Рэчы Паспалітай" 1938 г., тут (толькі ўжо не пры кардоннай фабрыцы, а пры млыне) меліся 4 будынкі і 7 жыхароў. Як і ўсюды па-над Вятаю, хаты пасялення месціліся ўздоўж правага берага ракі.

Двор Устжэжа на мапе 1932 г. пазначаецца толькі як маёнтак, без згадкі пра фабрычную асаду. Гэта значыць, да Устжэжа апошнюю прылічаць, як гэта заўсёды рабілі жыхары паваеннае вёскі Міжрэчча, і, адпаведна, Устжэжам называць – няправільна.

У раздзеле "Пералік земскіх уладальнікаў у гміне Лявонпаль" з адраснай кнігі Польшчы 1929 г. уладальнікам маёнтка Устжэжа з надзелам 410 га названы Віктар Святаполк-Мірскі. Які годам раней, у пераліку 1928 г., фігуруе ў аналагічным пераліку ў якасці гаспадара фальварка ў суседніх Чамярах. Зразумела, гэта не памерлы ў 1892 г. і пахаваны на могільніку вёскі Сташулі Віктар Святаполк-Мірскі, а, мабыць, яго сын Віктар (1860–?) або ўнук (таксама Віктар, 1890–1939). У спісе ж крэсавых маёнткаў на 1 верасня 1939 г. гаспадыня Устжэжа – Ядвіга Ліхтаровіч **(Дадатак 2)**.



*Помнік на магіле В. Святаполк-Мірскага ў в. Сташулі.*

Што да Мірскага, дык, магчыма, складальнікі пераліку, як і складальнікі спіса млыноў 1938 г., карысталіся старымі звесткамі.

* Звесткі паводле расповедаў жыхароў вёскі Міжрэчча Антона Пупіна (нар. у 1912 г., запіс прыкл. 1980 г.) і Івана (Яські) Голуба (запіс 2007 г.).

Але гэта, з увагі на грунтоўнасць апісанняў і ахопу гэтымі апісаннямі нашых тагачасных паселішчаў польскімі навукоўцамі ды статыстыкамі і, на жаль, адсутнасць такога ахопу з боку пазнейшых айчынных, беларускіх спецыялістаў, агрэх не такі ўжо недаравальны.

З прыходам саветаў ва Устжэжы быў арганізаваны адзін з першых у Мёрскім раёне калгасаў. Улетку 1940 г., падчас падрыхтоўкі саветаў да акупацыі Латвіі (пра гэта, толькі ў дачыненні да іншае мясцовасці, згадвае ў сваіх успамінах "Пад знакам Пагоні" ўраджэнец Прывяцця Язэп Малецкі) ва Устжэжы часова асела частка адселенага з меркаванняў бяспекі насельніцтва з прымежнае Вяты. Каля дзясятка сем'яў пасяліліся тады ў пакінутым гаспадарамі маёнтку (пакоях) і жылі там да прыходу немцаў і затым пэўны час і пры немцах. Апроч прасторнае аднапавярховае драўлянае панскае сядзібы, ва Устжэжы меліся на той час яшчэ дзве хаты для работнікаў (афіцыны*)**.



*Рэшткі фабрыкі (млына, электрастанцыі) у былой асадзе Міжрэчча.*
*Здымак Д. Росала. 2021 г.*

На прыкладзе Устжэжа і яго ваколіц можна прасачыць працэс каланізацыі земляў былой Заходняй Беларусі ў паваенным часе. Так, паводле пагаспадарчай кнігі мясцовасці, у 1947–1948 гг. ва Устжэжы пражывала, апроч рэгістраваных тут раней выключна беларусаў і палякаў, ужо некалькі асобаў рускай нацыянальнасці з нязвыклымі для вуха тутэйшага чалавека імёнамі Ціхан, Сяргей і прозвішчамі кшталту Зубакін, Каралёў і да т. п.

* Афіцына (польск. oficyna, мясц. – афіцыйня) – флігель.
** Звесткі паводле расповедаў жыхаркі в. Вяты Альбіны Анашкі (нар. у 1930 г., запіс 2021 г.) і жыхаркі в. Пруднікі Тарэсы Янушкевіч (нар. у 1932 г., запіс 2023 г.).

А пры пачатковай школе ў Міжрэччы за прыбіральшчыцу, а разам і памочніцу сям'і настаўнікаў Пупінаў у вядзенні школьнай і іх асабістай прысядзібнай гаспадаркі служыла ўраджэнка Расіі Антаніна Шульгіна.

Мяняўся час – мяняліся дэкарацыі, мяняўся склад насельніцтва. Традыцыйны лад жыцця аўтахтонаў ніжняга цячэння ракі Вяты няўмольна трансфармаваўся, рушыўся.



*Рэшткі фабрыкі (млына). Здымак Д. Росала. 2021 г.*

## Вадаспад – Міжрэчанскі!

Заключная фаза выкарыстання чалавекам патэнцыялу воднае стыхіі ракі Вяты ў фабрычнай асадзе Міжрэчча – гідраэлектрастанцыя. Афіцыйна называлася яна *Міжрэчанскай* і, напрыклад, у 1948 г., праз год пасля пуску, выпрацавала, сумесна з Мёрскай станцыяй, 45300 кВт/гадзін электраэнергіі. Прадпрыемства было зачынена ў пачатку 1960-х гг.

Апошнім, хто заставаўся пры будынку былой электрастанцыі пасля яе спынення, быў Іван (Янка) Альхімовіч, які стала жыў непадалёк на хутары на другім баку ракі, у накірунку вёскі Суромшчыны. Ён жа распараджаўся і хатаю, што стаяла амаль усутыч з будынкам (літаральна за некалькі метраў ад яго) і ў часы функцыянавання фабрыкі і млына служыла, відаць, жытлом ды канторaю для адміністрацыі і прыстанкам для завознікаў*, а падчас працы электрастанцыі – жытлом для спецыяліста-электрыка**.

Паводле прыпаміну сваячкі Альхімовічаў, ураджэнкі гэтых мясцін Юліі Блажэвіч, бацькоўскі хутар якой знаходзіўся на тым жа баку ракі,

* Завознік – той, хто прывозіць збожжа для памолу.

** Звесткі паводле расповеду краязнаўца Альфрэда Тычкі (нар. у 1941 г. у в. Мілашова).

што і суромскі хутар Янкі Альхімовіча, хата пры фабрыцы на момант гаспадарання ў ёй Альхімовіча належала аднаму са сваякоў яго жонкі. Нізіна (дол) з тылу хаты аж да 80-х гг. XX стагоддзя апрацоўвалася, выкарыстоўвалася ў якасці агарода ці сенажаці.

На гэтым жа баку ракі, што і гідраэлектрастанцыя, толькі вышэй, крыху воддаль ад схілу гары, месцілася хата апошніх жыхароў былое фабрычнае асады Міжрэчча Альжбеты (памерла ў 1970 г.*) і Станіслава (Стася, памёр у 1985 г.) Анашкаў. Яна стаяла справа на ўзгорку пры пад'ездзе да фабрыкі з боку вёскі Александрыны і хутара Навінкі** і была ажно да зносу на мяжы 1980–1990-х гг. адзіным напамінам пра тое, што тут, пры сутыку земляў дзвюх гаспадарак (калгасаў "Светлы шлях" і "Гігант"), калісьці жылі і працавалі людзі.



*Міжрэчанскі вадаспад, як ён выглядаў адразу па закрыцці электрастанцыі і каля 20 год таму, з яшчэ не разбуранымі велічнымі каменнымі мурамі абапал патоку, што ў спалучэнні з мостам уверсе, зладаваным са сцягнутых жалезнымі рэйкамі жардзін і дошак (збураны на пачатку 80-х гг. XX ст.), надавалі месцу выраз строгае таямнічасці. Здымак аўтара. 2005 г.*

* Згодна з запісам у пасведчанні аб смерці, памерла ў Вяце, хаця сканала ў той самай хаце ў асадзе Міжрэчча, у якой пражыла ўсё жыццё. Казус здарыўся ў выніку пераразмеркавання прымежных земляў паміж калгасамі.

** Навінкі – хутар справа прыкладна на палове шляху ад фабрыкі да вёскі Александрыны, насупраць паўночна-заходняга ўскрайку вёскі Міжрэчча.

Апошнім бліжэйшым (мясц. – сама бліжэйшым) да былое асады жытлом на правым беразе ракі Вяты, метраў за 350–400 ад яе ў накірунку вёскі Чамяры, доўгі час заставалася хата Чэслава (памёр у 1997 г.) і Тамары (памерла ў 2002 г.) Анашкаў. Іх хутар, які тэрытарыяльна адносіўся да вёскі Вяты, лічыўся адным з самых заможных у наваколлі і знік на пачатку XXI стагоддзя.

На процілеглым, левым беразе ракі Вяты найбліжэй да асады месціўся хутар Віталя (памёр у 1993 г.) і Станіславы (Стасі, памерла ў 2007 г.) Блажэвічаў, які тэрытарыяльна адносіўся да вёскі Суромшчыны, а адміністрацыйна – да саўгаса "Мёрскі" і спусцеў з пераездам гаспадыні да дачкі ў горад.

Сёння бліжэйшымі да колішняй асады населенымі пунктамі на левым беразе ракі Вяты з'яўляюцца вёскі Пруднікі і Суромшчына, на правым – Вята і Александрына.

У беларускамоўнай версіі апісання вёскі Вяты ў Вікіпедыі сцвярджаецца, што ў міжваенны перыяд тут дзейнічалі школа, карчма і кардонная фабрыка. Што да карчмы – сапраўды, такая гандлёва-піцейная кропка, і нават (у розныя часы) не адна, у вёсцы мелася, пра што ўзгадваецца ў выданні І. І. Гашкевіча. Мелася таксама і школа, але яна была напрыканцы 30-х гг. XX стагоддзя перанесеная ў вёску Чамяры, дзе праіснавала каля 30 год.

А вось прылічаць да Вяты і фабрыку (млын, электрастанцыю) не след. Тым больш, што і польскія даследчыкі, і складальнікі мапы 1932 г., як і кіраўніцтва ды прэса Мёрскага раёна паваеннага часу, называючы тутэйшую электрастанцыю не іначай як *Міжрэчанскай*, тым самым адназначна адносяць яе да Міжрэчча.

Неабвержнае сведчанне апошняга – і асабістыя дакументы Станіслава і Альжбеты Анашкаў ды іх дзяцей, паводле якіх месцам іх жыхарства (а дзяцей – і нараджэння) з'яўляецца менавіта Міжрэчча. А, напрыклад, у пагаспадарчай кнізе вёскі Міжрэчча за 1949–1951 гг. месцам працы іх сына Антона (нар. у 1930 г.) называецца *Міжрэчанскі млын*, дзе малады чалавек быў на той час памольшчыкам*.

Дык і атрымліваецца, што, нягледзячы на звычку насельнікаў паваеннае вёскі Міжрэчча называць гэтую мясціну *Устжэжам*, або, без спасылкі на прыналежнасць да канкрэтнага абназоўленага месца, проста *Фабрыкай*, праўдзівая назва яго ўсё-такі – *Міжрэчча*. А сённяшняга вадаспада, адпаведна, – *Міжрэчанскі*. Ці, калі прывязваць назву мясціны да назвы ракі: *вадаспад на Вяце*. (Дадамо, між іншым, што ні ў атласе БССР 1958 г. выдання, ні на генеральнай мапе "Беларускія землі ў пачатку XX ст." Устжэжу і Міжрэччу, у адрозненне ад старых польскіх мапаў, месца не знайшлося.)

* Памольшчык – работнік млына, які займаецца памолам.



ЧЛЕНСКАЯ КООПЕРАТИВНАЯ
КНИЖКА № 221
Фамилия Анашко
Имя Альжбета
Отчество Петровна
Член кооперации с Александрии
Местожительство Междуречье
Книжка выдана 12.XI.48

*Фрагмент членскай кааператыўнай кніжкі жыхаркі Міжрэчча (у дакуменце па-руску з памылкаю: Междуречe) Александрынскага сельсавета Альжбеты Анашкі, хата якой месцілася прыкладна за паўтары сотні метраў ад цяперашняга вадаспада. 1948 г. Дакумент са збору Т. Вароňкі.*

Сённяшнія руіны фабрыкі (млына, гідраэлектрастанцыі) – толькі аддалены напамін пра тое, што тут было якіх-небудзь 50 год таму: дыхтоўны, крыху змрачнаваты прадаўгаваты фабрычны будынак з трывалейшай



*Міжрэчанскі вадаспад сёння – звычайны вадзяны паток без аздобы ў выглядзе каменных муроў абапал. Крыніца: poshyk.info.*

чырвонай цэглы, хата пры ім; аблямаваны з бакоў магутнымі каменнымі мурамі вадаспад з дрогкім драўляным мостам уверсе; чысцюткая вада, у якой вольна пачуваліся ракі ды шчупакі, сноўдалі ў пошуку спажывы самавітыя акуні, курмялі, язі, плоткі, ментузы, ліні, якіх можна было лавіць вудаю нават без паплаўка, на вока, стоячы на выступе мура, а па вірах непадалёк часам траплялiся ў брэдзень (мясц. – бродзень) або крыгу вугры (мясц. – угорычы); абрысы глiністае Чырвонае гары метраў за 120 ад моста па цячэнні ракі; усюды па надрэччы – сцежкі, пратаптаныя сярод хмызу нагамі руплівых, знэнджаных нясконччаю калгаснаю працаю міжрэчанцаў, іх няўрымслівай, дапытлівай дзятвы і статку. Увесну – квецень чаромхі, улетку ўранні – туманы, што гайдаюцца па-над вадою і берагам пухнатаю зыбкаю коўдрай – такой застанецца гэтая мясціна ў памяці тых, каму пашчасціла быць сведкам яе хараства ў пару першароднае некранутасці.

## Капліца ці касцёл?

З тапонімаў сучаснай вёскі Вяты найбольшую цікавасць уяўляе эклезіонім (назва, тытул) размешчанай на прыгорку наўзбоч вясковага могільніка культавай драўлянай каталіцкай пабудовы ў гонар Святога Яна Хрысціцеля. Святыня з вежаю паводле праекта віленскага архітэктара Тадэвуша Ясінскага з'явілася тут на пачатку 30-х гг. мінулага стагоддзя,



*Капліца Святога Яна Хрысціцеля ў Вяце. Здымак Д. Росала. 2021 г.*



*Капліца Святога Яна Хрысціцеля ў Вяце. Фрагмент інтэр'ера. Здымак Д. Росала. 2021 г.*



*Звон імя Ю. Пілсудскага. Цяпер знаходзіцца ў касцёле ў Мёрах.*

фундатарам яе пабудовы быў вядомы ксёндз Юзаф Бародзіч*, працамі па ўзвядзенні займаўся лявонпальскі святар Ян Завістоўскі**.

Мясцовыя жыхары заўсёды называлі яе і працягваюць называць выключна *капліцаю*, у той час як у некаторых сродках масавай інфармацыі яна рэпрэзентуецца як *касцёл*. Прынамсі ў артыкуле сяржанта мясцовай стражніцы Корпусу аховы памежжа (месцілася ў в. Чурылава Далёкае) Юзафа Трыянкоўскага пра пасвячэнне ў святыні 24 чэрвеня 1937 г. звона імя маршалка Юзафа Пілсудскага, змешчаным у 5 нумары выдання "Wiarus" за той жа год, яна называецца *касцёлам*. З увагі на тое, што адна з адметнасцей капліцы – адсутнасць алтара, гэта правільна, бо ў вяцкім храме маецца не толькі алтар, але і амбон – узвышэнне (катэдра) для прамаўлення казанняў.

* Віцебскі край. – Т. 6. – С. 256–266.

** Ян Завістоўскі (1894–1967) – пробашч Лявонпальскай парафіі ў 1930–1937 гг.

У польскамоўным календары Лявонпальскай парафіі, да якой належала Вята пасля таго, як паводле рашэння духоўнага суда – дваццацю шасцю галасамі супраць трынаццаці – адышла на пачатку тых жа 30-х гг. ад парафіі Друйскай* (справа ўскосна датычыла прабеларускай дзейнасці друйскіх святароў, апісанай ва ўспамінах а. А. Надсана), святыня ў Вяце называецца *капліцай*. Што, з улікам наяўнасці ў парафіі галоўнай (цэнтральнай) святыні і таго, што службы ладзіліся ў будынку не рэгулярна, цалкам зразумела.

Гэтаксама капліцаю называецца яна і ў пераліку каталіцкіх святыняў Мёрскага дэканата 1928 г. У той час, як бажніцы ў Паташні (у “Вялікім гістарычным атласе Беларусі” 2016 г. па-руску – *Поташная*) і Узмёнах фігуруюць у тым жа спісе, у адрозненне ад таго, як падпісаныя яны на здымку ў парафіяльным календары, у статусе філіяльных касцёлаў.







***Злева:** вокладка календара Лявонпальскай парафіі за 1938 г. (знойдзены на гарышчы хаты жыхароў в. Рыбакі Юльяна і Галены (Глены) Сіўко, знаходзіцца ў фондзе музея сярэдняй школы № 3 г. Мёры).*
***Справа:** змешчаныя ў выданні здымкі парафіяльных капліц у Вяце, Паташні і Узмёнах.*

* Звесткі паводле аўдыёзапісу размовы аўтара з апошнімі жыхарамі вёскі Вяты ўлетку 2002 г. (знаходзіцца ў фондзе Мёрскага гісторыка-этнаграфічнага музея).

# Млыны

Як ужо згадвалася, ніжняе цячэнне ракі Вяты даўней было багатае на млыны. На адлегласці ў 10 кіламетраў іх было ажно пяць: у Павяцці (паводле выдання Гашкевіча, гаспадар – Панізнік, загадчык у 2-й палове XX ст. – Мечыслаў Альхімовіч); Рачнёве (загадчыкі-млынары ў 2-й палове XX ст. – Пётр Савуць і Мечыслаў Альхімовіч); Аблятове (закладзены ксяндзом Ю. Бародзічам, у слоўніку мясцовасцей Польскага каралеўства фігуруе ў статусе папяровае фабрыкі, па стане на 1905 г. – вадзяны млын, у 2-й палове XIX ст. гаспадар – Марціноўскі, у 1-й палове XX ст. – Зыгмунт Абранпальскі (у адраснай кнізе Польшчы 1928 г., відаць, памылкова – Обенпальскі. – *Ф. С.*), млынары паваеннага часу – Клеафас Альхімовіч, Пётр Цярэшка); Сташулях (гаспадары: па стане на 1905 г. – Вялічка, у адраснай кнізе Польшчы



*Чалавек у муцэ – млынар Мечыслаў Альхімовіч ля дзярэй млына з рэшткамі газеты "Советская Белоруссия". Загадваў млынамі ў Рачнёве і Павяцці ад канца 1950-х да пачатку 1970-х гг. XX ст. Сямейную справу – млынарства – пераняў ад бацькі Клеафаса (мясц. – Клямпаса), які млынарыў у Аблятове. Здымак са збору К. Каташук. 2-я палова 1960-х гг.*

1928 г. – Антон Судніцкі **(Дадатак 3)**, у пагаспадарчай кнізе паводле стану на 1949–1951 гг. – Уладзіслаў Юхневіч) і Міжрэччы. (Гаспадары млыноў, як і млынары, зразумела, маглі мяняцца.)

Апроч названых, паводле польскага адраснага даведніка 1931 г., яшчэ два млыны дзейнічалі ў цэнтры гміны – не так далёкім Лявонпалі (мясц. – Люмполе, даўнейш. – Лількі, Чурылавічы, у А. Сапунова – Леонъ-Поль, у Вінцука Адважнага* – Леанполь) і адзін (у перыяд да першага падзелу Польшчы) – на хутары Юзэфова (2 хаты, 15 жыхароў) наўзбоч балотца на ўскраіне Сташулёў. А таксама па адным у Багданаве на рацэ Мёрыцы і ў Ільмовіках на рацэ Волце.



*Руіны млына ў Рачнёве.*
*Здымак А. Немянёнак. 2021 г.*

Усе яны не толькі спраўна выконвалі сваю непасрэдную функцыю – малоць зерне, з іх дапамогаю рэгуляваўся ўзровень вады ў рацэ ў адпаведнасці з гаспадарчымі патрэбамі, напрыклад, з тым жа сплавам асінніку на фабрыку ў Міжрэчча, пра што згадваюць у кароткай характарыстыцы ракі Вяты А. Сапуноў і кн. У. Друцкі-Любецкі.

Адметнасцю некаторых найбольш буйных з названых млыноў з'яўлялася іх шматпрофільнасць, якая дасягалася дзякуючы наяўнасці некалькіх колаў, што прыводзілі ў рух не толькі жорны, але і станкі для часання воўны, пілы. Так, млыны ў Міжрэччы і Аблятове **(Дадатак 3)** займаліся і часаннем воўны, на млынах у Сташулях і Ільмовіках была наладжана сукнавальная (валюшная) вытворчасць. Таму не дзіўна, што карысталіся іх паслугі ў насельніцтва вялікім попытам.

З поступам часу запатрабаванасць млыноў знізілася, на многіх з іх на змену вадзяному колу прыйшоў хаця і больш выдаткоўны, але ж і больш мабільны рухавік – матор трактара. А неўзабаве і наогул дзейных млыноў на рацэ Вяце не засталося.

Сёння пабачыць наяве, а не толькі даведацца з расповедаў старэйшых тубыльцаў, якіх ужо на пальцах адной рукі пералічыш, ці прыблізных (часта далекаватых ад праўды) апісанняў у таблоідах, як некаторыя з тых старых млыноў маглі выглядаць, можна на прыкладзе аднаго – у Аблятове.

* Вінцук Адважны – літаратурны псеўданім Язэпа Германовіча (1890–1978), беларускага грэка-каталіцкага святара.



*Каркас былога млына ў Аблятове. Здымак А. Немянёнак. 2021 г.*

Каркас гэтага ўнушальнага будынка, што месціцца на беразе Вяты (а не Волты, як гэта чамусьці пададзена ў згаданым “Слоўніку мясцовасцей Польскага каралеўства”, а затым – няйначай па інерцыі – у “Кнізе назваў населеных пунктаў Беларусі. Віцебская вобласць” 2009 г., бо Волта цячэ паралельна Вяце за добры дзясятак кіламетраў ад яе), наўзбоч колішняга маёнтка (фальварка) Марціноўскіх (пазней – Абранпальскі) за паўкіламетра ад вёскі Якужы*, на фоне тутэйшых несамавітых хат па-ранейшаму ўражвае і кожны раз нагадвае пра значнасць нашай страчанай матэрыяльна-гаспадарчай спадчыны. Якую мы не здолелі захаваць і з-за ўласнае абыякавасці, і з-за трагічнага збегу абставінаў.

Такіх, напрыклад, як паводка на Заходняй Дзвіне ўвесну 1931 г., калі яе воды пачалі падымацца па прытоках, утвараючы лядовыя заторы, што пашкодзілі, а то і наогул знеслі некалькі млыноў. Большасць з якіх былі драўляныя, а значыць – вельмі ўразлівыя да падобных стыхійных катаклізмаў.

## Мікратапонімы вёскі Міжрэчча і яе ваколіц

### Воўчы ручай

Шырокі, парослы хмызам ручай – працяг логу – на паўночна-ўсходнім ускрайку вёскі Міжрэчча. Упадае ў раку Вяту метраў за 150–200 ад былой панскай сядзібы.

* Якужы – радзіма Язэпа Малецкага (1906–1982), беларускага грамадскага дзеяча, рэдактара і выдаўца, лекара.

## Двор

Сядзіба і жылыя ды гаспадарчыя будынкі абапал яе ў вёсцы Міжрэчча. Мікратапонім (як і ўсе наступныя) утвораны шляхам пераходу агульнага імя ў асабовае.

## Імшара (Амшара)

Парослае кустоўем мохавае балота наўзбоч колішняга хутара Юзэфова, прыкладна за 1 кіламетр ад ракі Вяты ў накірунку вёскі Александрыны.

## Лінія

Дарога ад Крыжа да Ляда (у накірунку в. Рыбакі*) у вёсцы Міжрэчча на месцы колішняй таполева-дубовай алеі.

## Лог

Разгалістая лагчына на пачатку Воўчага ручая ў вёсцы Міжрэчча.

## Лука

Мыс пры дугападобным павароце ракі Вяты прыкладна на палове адлегласці ад вёскі Міжрэчча да вадаспада. У паваенным часе выкарыстоўваўся ў якасці пастаўніка для кароў на час дзённага даення.

## Ляда

Імшыстая дзялянка высечанага хмызняку (высека) прыкладна на траціне адлегласці паміж вёскамі Міжрэчча і Рыбакі, за 1 кіламетр ад ракі Вяты. Цяпер – пустка.

## Ніз

Вольны ад зарасніку прырэчны дол шырынёю прыкладна 200 метраў у вёсцы Міжрэчча пры спуску да броду праз раку паміж колішнімі будынкамі афіцыны і лазні.

## Халуй

Мясціна-трохкутнік на згібе ракі Вяты пры былой сядзібе ў вёсцы Міжрэчча. Гэтае месца, у якім пасля веснавой паводкі на рацэ застаецца шмат рознага друзу, калісьці з'яўлялася часткаю парка, а пясчаны ўскраек яго пры самай вадзе служыў гаспадарам двара купальняю.

* Рыбакі – адна з першых у наваколлі абязлюдзелых вёсак. Паводле стану на 2023 г. – хутар.

**Лямус**

Двухузроўневая гаспадарчая пабудова для захавання харчовых прадуктаў, адзення, збожжа, прылад працы, а таксама для жылля ўлетку пры сядзібе ў вёсцы Міжрэчча.



*Лямус у Міжрэччы. Здымак да 1939 г. Крыніца: Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4: Województwo Wileńskie. – Wrocław, 1993. – С. 223.*

## Белыя плямы

Аналізуючы тапонімы мясцовасці, нельга не звярнуць увагу і на некаторыя іншыя, апроч ужо згаданых, недакладнасці ў іх апісанні ў дасавецкай (той жа польскай) тапанімічнай навуцы. Напрыклад, адносна месцазнаходжання возера *Мядзведзь (Miadźwiedź, Miedźwiedź)*. Паводле “Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства”, адразу аж дзве вёскі Лявонпальскае гміны месціліся пры ім – Сташулі і Суромшчына. (У спісе мясцовасцей Віленскага ваяводства 1938 г. са спасылкаю на звесткі 1865 г. пададзена праз зноску па-польску і старадаўняя назва апошняй – Surowszczyzna (Суроўшчына). На генеральнай жа мапе “Беларускія землі ў пачатку XX ст.” гэты камонім падаецца па-руску праз літару “о” ў першым складзе: *Соромщина*.)

Адлегласць паміж вёскамі Сташулі і Суромшчына, аднак, – не менш за два кіламетры, так што на беразе аднаго і таго ж возера яны знаходзіцца, зразумела, не могуць. Да таго ж, Сташулі месцяцца па-над ракою Вятаю, а возера там наогул няма. Праўда, ёсць тое самае згаданае балотца, што, можа, і магло калісьці з’явіцца на месцы менавіта возера, але ж ці так яно

было – невядома. Што да *Суромшчыны*, то сумнеў развейвае ўсё тое ж выданне 1905 г. І. І. Гашкевіча, якое ва ўнісон з традыцыяй тубыльцаў называе возера гэтаксама, як гучыць сёння назва вёскі: *Суромшчына*. Так што лімнонім *Мядзведзь*, калі ён сапраўды існаваў, на сённяшні дзень відавочна можна залічыць да страчаных.

Белых плямаў у падачы тапонімаў ніжняга цячэння ракі Вяты польскімі тапанімікамі, складальнікамі і выдаўцамі мапаў і атласаў, слоўнікаў ды спісаў дастаткова. Аднак, зноў заўважым, каштоўнасці іх прац гэта не перакрэслівае. Як і не паніжае заслуг перад нашчадкамі такога аддананага свайму краю даследчыка, якім быў А. Сапуноў. Бо менавіта дзякуючы высілкам гэтых людзей мы можам сёння хаця б збольшага ўзнавіць нашы старыя назвы і тыпы паселішчаў.

Напрыклад, такога невялічкага, на шэсць хат (паводле мапы 1932 г.), засценка*, як Каснарэўшчына. Праўдзівая назва якога, паводле “Спіса мясцовасцей Рэчы Паспалітай” 1938 г., – Красна(о)ўшчына (даўн. – Краснарэўшчына), а магчыма, як пазначана з пытальнікам у дадатку да назвы ў “Геаграфічным слоўніку Польскага каралеўства”, – Каспарэўшчына.

Паводле выдання І. І. Гашкевіча, гэта – Крсноревщина (з пропускам літары “а”) ці наогул – Цегельня.

Апошняе дзіўна, бо гэткі камонім (*Цагельня*) у слоўніках больш нідзе датычна Каснарэўшчыны, апроч выдання “Гарады і вёскі Беларусі. Віцебская вобласць”, аўтары якога ўпаўне маглі скарыстаццва звесткамі Гашкевіча, не сустракаецца. Затое на мапе 1932 г. ён сустракаецца (з пазнакаю, што гэта – леснічоўка) аж двойчы за добры дзясятак кіламетраў ад засценка, побач з Лявонпалем. Што, з увагі на наяўнасць у мястэчку па стане на 1886 г. цагельні, не дзіўна. Гэтаксама двойчы, пад назвамі Цагельня Новая (Cegielnia Nowa) і Цагельня Старая (Cegielnia Stara) фігуруе ён з тою ж пазнакаю і ў спісе 1938 г.

## Рачнёва

Апроч функцыі рэпрэзентатыўнай, тапонім (айконім) выконвае функцыю дакументальнага замацавання (праз запіс у метрыцы, пашпарце, іншых дакументах) асабістых дадзеных чалавека. Таму, зразумела, дакладнасць яго напісання – справа важная. На жаль, і ў буйных гарадах скажэнне асціонімаў ды ўрбанонімаў не рэдкасць, пра камонімы ж такіх закінутых мясцін, як ніжняе цячэнне ракі Вяты, і казаць не выпадае.

---

* Засценак – паселішча, што засталося па-за межамі земляў феадальнага маёнтка, арандаваных шляхтаю ці заможнымі сялянамі. Паводле польска-рускага слоўніка – паселішча дробнапамеснай (дробнамаёнткавай) шляхты.

Яскравы прыклад – вёска Рачнёва, што знаходзіцца прыкладна метраў за 700 ад аблятоўскага млына. Дакладней – дзве аднайменныя вёскі: Рачнёва-1 і Рачнёва-2. Раздзеленыя толькі ракою Вятаю, яны ўспрымаюцца як адзінае цэлае, а вось жа паводле дакументаў – гэта зусім не адно і тое. Больш за тое, аднойчы нейкаму неахайнаму службоўцу собіла памяняць назвы месцамі, у выніку чаго ў жыхароў абодвух Рачнёваў з'явіліся нязручнасці пры афармленні актаў куплі-продажу, ці наследавання, ці нейкае іншае нагоды.

Як і назвы іншых паселішчаў ніжняга цячэння ракі Вяты, назва Рачнёва таксама за час свайго існавання ператрывала некаторыя змены. Так, паводле "Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства і іншых славянскіх краін" гэта дзве вёскі: Rakszniewo (Ракшнева, цяпер Рачнёва-1) і Rakszniewo Zarzeczne (Ракшнева Зарэчнае, цяпер Рачнёва-2), з недакладнасцю ў вызначэнні адлегласці паміж імі (дзве вярсты, у той час, як насамрэч – метраў 150). Абедзве адносіліся да двара Аблятова, і назва іх і па-руску, як, напрыклад, у метрычнай кнізе ідолтаўскага касцёла за 1919 г. – Ракшнёво **(Дадатак 11)**, – гучала і пісалася адрозна* ад таго, як гучыць і пішацца сёння.

Затое ў прысвечаным паселішчам Віленшчыны раздзеле "Даведніка мясцовасцей Рэчы Паспалітай" паводле стану на 2021 г. (т. 7, ч. 2), то бок усяго праз два гады пасля запісу ў згаданай метрычнай кнізе, назвы абедзвюх вёсак, наадварот, падаюцца па-польску ва ўнісон з іх сённяшнім напісаннем: Raczniowo-1 (Рачнёва-1), Raczniowo-2 (Рачнёва-2). Што лішні раз пацвярджае, наколькі важна пры вызначэнні аўтэнтычнасці наймення звяртацца да як найбольшай колькасці крыніц і дакументальных сведчанняў.

## Чурылава

Хаця вёскі Мёршчыны з гэткаю часткай у назве месцяцца воддаль ад ракі Вяты, гісторыя іх іменаслову так заблытаная, што патрабуе хаця б павярхоўнага тлумачэння.

У працы А. Сапунова і кн. У. Друцкага-Любецкага пры ўпамінанні месца ўпадзення ракі Волты ў Заходнюю Дзвіну згадваецца вёска Чурылава Бліжняе. Нязначна адрозным камонімам – *Чурылава Блізкае* – пазначаная яна і на мапе 1932 г. На той жа мапе за некалькі соцень метраў ад яе знаходзіцца вёска Чурылава Далёкае (у спісе І. І. Гашкевіча – Чурылава Дальняе). Абедзве назвы прысутнічаюць і ў "Спісе мясцовасцей Рэчы Паспалітай" 1938 г. У 1975 г. дзве гэтыя вёскі паблізу Лявонпаля** былі аб'яднаныя ў адну пад назваю Чурылава Дальняе.

* Напрыканцы 1930-х гг. у спісах ідолтаўскага касцёла па-польску – Raczniowo (Рачнёва).

** Лявонпаль – радзіма Галіны Загурскай (нар. у 1945 г.), паэткі.

Назва ж Чурылава Бліжняе, аднак, таксама не знікла, бо дзеля зручнасці перайшла да Чурылава, што знаходзіцца на беразе аднайменнага возера за больш як дзесяць кіламетраў ад прыдзвінскіх “цёзкаў” і аднасілася калісьці, у адрозненне ад іх, не да Лявонпальскай, а да Мёрскай воласці. У кнізе “Памяць. Мёрскі раён” яно называецца па-ранейшаму – Чурылавам, так, як называецца і вёска на супрацьлеглым ад Чурылава Бліжняга баку Заходняе Дзвіны, у Бігосаўскім сельсавеце Верхнядзвінскага (раней – Дрысенскага) раёна. А вось, напрыклад, у раскладзе руху транспарту Мёрскай аўтастанцыі яно падаецца як Чурылава Бліжняе.

Што ж, тапаніміка таксама не стаіць на месцы і мусіць паспяваць за пераменамі, якія ўносіць час у наша жыццё.

## Сельсавет Аляксандраўскі (Александроўскі) ці ўсё-такі Александрынскі?

Вёска Александрына (мясц. – Ле(і)ксандрына), якая знаходзіцца прыкладна за два з паловаю кіламетры ад ракі Вяты і за гэтулькі ж ад ракі Мёрыцы, у паваенным часе з’яўлялася цэнтрам сельсавета і ў дакументах толькі так, без варыянтаў – Александрынаю – і называлася. У “Геаграфічным слоўніку мясцовасцей Рэчы Паспалітай” яна мае назву *Aleksandryno*. Амаль гэтаксама – Александрино – называецца яна і паводле выдання Гашкевіча.

На мапе 1932 г. і ў “Спісе мясцовасцей Рэчы Паспалітай” 1938 г. гучанне камоніма, хаця і лацінкаю, але выключна беларускае – *Aleksandryna*. Гэткі ж камонім (толькі кірыліцай) і вытворная ад яго назва сельсавета (*Александрынскі*) фігуруе ў кнізе “Памяць. Мёрскі раён” і на сучасных дарожных указальніках пры ўездзе ў населены пункт і пры выездзе з яго. *Александрина* – так пазначана па-руску вёска на Генеральнай мапе “Беларускія землі ў пачатку XX ст.”. Праўда, на мапе “Беларускія землі ў канцы XVIII ст.” па-беларуску яе назва пададзена іначай: *Александрыя*.

Адносную адзінадушнасць у падыходзе да спаконвечнай назвы Александрыны парушаюць складальнікі Атласа БССР 1958 г., якія, пераблытаўшы яе з іншым паселішчам, што месціцца кіламетраў за дванаццаць адсюль і за сем ад Мёраў, змяшчаюць на мапе пад назваю Александрова. І робяць гэта, відаць, невыпадкова, бо, калі даваць веры спісу населеных пунктаў Мёрскага раёна ў “Геаграфічным указальніку да пагаспадарчых кніг” 2013 г., ад самага пачатку ўтварэння ў раёне ў кастрычніку 1940 г. дзевятнаццаці органаў мясцовага самакіравання сельсавета з назваю *Александрынскі* сярод іх не было. Затое як існы падаецца тут скрозь сельсавет *Александроўскі* (у спісе па-руску – *Александровский. – Ф. С.*), што быццам бы існаваў да 1960 г.

Як такое магло стацца, калі ў дакументах насельніцтва і раённай прэсе **(Дадатак 8)** усюды разборліва пішацца назва Александрынскі, а вёска Александрова* яшчэ ў 1949 г. адышла да сельсавета Павяцкага? Адказ магчымы адзін з двух: або пры замове сельсаветаўскай пячаткі неахайна ўтварылі прыметнік ад назвы населенага пункта, або дзесьці пры передруку папер савета паставіліся да напісання назвы няўважліва. Вынік жа ў любым выпадку відавочны – поўная неразбярыха.


Месца рэгістрацыі
Место регистрации Александринский с/с
(назва і месцазнаходжанне
Миорского района Полоцкой
бюро ЗАГС—наименование
области Б.С.С.Р.
и местонахождение бюро ЗАГС)
Дата выдачи 3 мая 1951 г

*Фрагмент пасведчання аб шлюбе бацькоў аўтара. 1951 г. Месца рэгістрацыі – Александрынскі сельсавет Мёрскага раёна Полацкай вобласці.*

Узяць хаця б пагаспадарчыя кнігі рэгіёна пасляваенага часу. У якіх толькі варыянтах не пададзена тут назва Александрыны ў спалучэнні з найменнем утворанага ад яе сельсавета. Дык тое, што, напрыклад, на вокладцы кнігі за 1946–1948 гг. яго назва (Аляксандраўскі) не адпавядае назве ўнутры кнігі (Александрынскі), пры гэткай бязглуздзіцы нават і не здзіўляе. Тым больш, калі ўлічыць, што ў інфармацыі пра фонды Занальнага дзяржаўнага архіва ў г. Глыбокае, у якім захоўваюцца пагаспадарчыя кнігі сельсавета пасляваеннага часу, на старонцы “Архівы Беларусі. Фондавы каталог дзяржаўных архіваў у Рэспубліцы Беларусь” і сама назва вёскі Александрыны пададзена па-руску няправільна: Александрово.

Як бы ні было, заганную практыку перайначвання назвы, хай сабе і ненаўмыснага, падхопліваюць складальнікі выдання “Гарады і вёскі Беларусі”, падаючы як галоўную высмактаную з пальца назву *Александроўскі*, а сапраўдную – *Александрынскі* – пішучы чамусьці ў дужках. Ім падтакваюць – толькі ўжо без дужак – складальнікі даведніка “Адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне БССР” 1987 г. (выдадзены па руску. – *Ф. С.*).

Так канчаткова замацоўваецца ў сродках масавай інфармацыі і на інтэрнэт-пляцоўках (напрыклад, у Вікіпедыі) відавочная лухта – Аляксандраўскі

* Александрова – радзіма бл. Юрыя Кашыры (1904–1943), рыма-каталіцкага ксяндза-марыяніна, спаленага немцамі разам з вернікамі ў Росіцы ў 1943 г.

сельсавет. Што нават у дачыненні да Александрова з націскам на перадапошнім складзе было б няправільна, не кажучы ўжо пра Александрыну.




*Фрагмент цяперашняга дарожнага ўказальніка пры ўездзе ў в. Александрыну. Здымак Д. Росала. 2021 г.*

Сённяшні статус большасці паселішчаў ніжняга цячэння абмялелай ракі Вяты, як і яе бліжэйшай суседкі Мёрыцы і больш дальняй Волты, – зніклыя. Аблятова, Аніські, Бабышкі*, Бакшы**, Грузды, Дарожкі, Каснарэўшчына, Міжрэчча, Навіна, Навінкі, Надмірэчча, Надрэчча, Пагулянка, Паршэлева, Рыбакі, Сташулі **(Дадатак 4)**, Тararакі, Устжэжа, Чамяры, Юзэфова, Якужы – усім ім было наканавана лёсам адысці ў нябыт, пакінуўшы пасля сябе сведчанні бытавання і мыслення насельнікаў – гістарычныя назвы **(Дадатак 7)** ды фотаздымкі і запісы ў дакументах (калі такія захаваліся).

На чарзе і Вята **(Дадатак 6)**, і Лупаўшчына, і Александрына, і Папкі, і Пруднікі, і Шальціны***, і Чарнілова, і, напэўна, некаторыя іншыя. Ды што казаць пра паселішчы малыя, калі нават такая калісьці шматлюдная вёска, як Бабарыкі****, званая суседзямі за адносную заможнасць насельніцтва *Амерыкай*, і тая ўжо ледзь-ледзь ліпіць.



*Хата ў Пrudніках. 2021 г.*

Таму гэтак важна сёння захаваць усё, што можа стацца ў будучыні матэрыялам для вывучэння акалічнасцей існавання, крутых паваротаў гісторыі усіх гэтых населеных пунктаў. Канечне ж, захаванне праўдзівага, на грунце ўдумлівага аналізу

---

* Бабышкі – радзіма Сяргея Панізніка (нар. у 1942 г.), паэта, празаіка, публіцыста.

** Бакшы – радзіма Пятра Пупіна (1912–1979), каталіцкага святара.

*** Шальціны – радзіма Антона Цвячкоўскага (псеўд. Антон Кумша, ?–1974), рэлігійнага дзеяча, літаратара, педагога.

**** Бабарыкі – радзіма Ігната Жаўняровіча (1890–1937), каталіцкага святара заходняга

крыніц, што яшчэ не канулі ў Лету пад ціскам капрызлівых павеваў часу. Сярод якіх галоўная – наша памяць, што, як у гэтым вершы-прысвячэнні паэта Міколы Намеснікава, не толькі поўніць душу смуткам ад ўсведамлення страты, але і дае надзею:

Вята

*Францу Сіўко*

…а рэчка тая ўсё яшчэ жыве.
Там кнігаўка натомленая плача,
Блукае ў векапомнае траве
Сабака, што кляне свой лёс сабачы.

Там можна Бога стрэць на паплавах,
Дзе вецер з палыновым смакам долі.
І да Яго злятае шызы птах
Ды асцярожна возьме хлеб з далоняў.

А толькі назбіраецца раса
Ў траву начную блізу пераправы,
Пагладзіць Ён сабаку з-пад крыса
І знікне ў прысмерку лазовым за атавай.

І зоры — на адлегласці рукі,
Калі на шлях Альгердаў пракаветны
Сыпнуць з ваколіц раптам светлякі
Чародкай літар залатога запавету.

Нібы радкі, што здолелі сабраць,
Сяйвом пайшлі скрозь пальцы над вадою…
Даруе Госпад. Хлеб штодзённы дасць…
…І ранак з векапомнаю травою.

---

абраду, удзельніка беларускага хрысціянскага руху.



*Рака Вята пры ўтоку ў Заходнюю Дзвіну. Здымак Д. Росала. 2022 г.*

*Пераклад з рускай мовы Людмілы Сіманёнак.*

1. Административно-территориальное устройство БССР : справочник : в 2 т. / сост.: С. Д. Гриневич [и др.] ; редкол.: В. А. Круталевич [и др.]. – Минск : Беларусь, 1987. – Т. 2 : (1944–1980 гг.). – 283 с.
2. Атлас БССР : Витебская область / редкол.: С. Н. Малинин [и др.]. – Минск – Москва : Академия наук БССР ; Главное управление геодезии и картографии МВД СССР, 1958.
3. Виленская губерния : полный список населенных мест со статистическими данными о каждом поселении, составленный по официальным сведениям И. И. Гошкевичем. – Вильна, 1905. – С. 140–143, 151–153, 157–159.
4. Гарады і вёскі Беларусі : Віцебская вобласць. – Мінск : БелЭн, 2019. – Кн. III : Мёрскі раён. – С. 323–586.
5. Географический указатель к похозяйственным книгам : в 3 ч. / Зонал. гос. архив в г. Глубокое ; [сост.: Н. А. Боровик и др. ; редкол.: О. В. Пашкевич, С. В. Рублевский]. – Минск : Медисонт, 2013. – Ч. 3 : Список населенных пунктов Дисненского, Миорского, Шарковщинского районов (1944–2006 гг.). – 390 с.
6. Ермалёнак, В. Чароўных вандровак пярсцёнкі : Краязнаўчыя маршруты па Мёрскаму раёну / В. Ермалёнак. – Мінск : Капитал Принт, 2017. – С. 77–88.
7. Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае (ЗДА ў г. Глыбокае). – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 2.
8. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 35, 39.
9. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 5.
10. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 1.
11. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 12.
12. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 7, 45, 58.
13. ЗДА ў г. Глыбокае. – Ф. 1617. Воп. 2. Спр. 109, 167, 204.
14. Зборны аркуш генеральнай карты “Беларускія землі ў пачатку XX ст.” // Вялікі гістарычны атлас Беларусі : [у 4 т.]. – Мінск : Белкартаграфія, 2016. – Т. 3. – С. 158–159.
15. Малецкі, Я. Пад знакам Пагоні / Я. Малецкі // Спадчына. – 1994. – № 2. – С. 113–131.
16. Надсан, А. Беларускае рэлігійнае і культурнае жыццё : Гісторыя і асобы / А. Надсан // Выбранае. – Мінск : Кнігазбор, 2014. – С. 169–472.
17. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь : Віцеб. вобл. : нармат. даведнік / У. М. Генкін, І. Л. Капылоў, В. П. Лемцюгова ; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск : Тэхналогія, 2009. – С. 318–333.
18. Наместников, Н. Вята / Н. Наместников // Листопад исповедальный. – Минск : Издатель И. П. Логвинов, 2008. – С. 21.
19. Памяць : Мёрскі раён : гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал.: Г. М. Маняк [і інш.] ; уклад. Л. А. Матэленак ; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мінск : БелЭн, 1998. – 630 с.
20. Сапунов, А. Река Западная Двина / А. Сапунов. – Витебск : Типо-Литография Г. А. Малкина, 1893. – С. 65, 133.
21. Сапунов, А. и кн. Друцкий-Любецкий, В. Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии / А. Сапунов и кн. В. Друцкий-Любецкий. – Витебск : Губернская Типо-Литография, 1896. – С. 16.
22. Сіўко, Ф. Капліца ў Вяце / Ф. Сіўко // Ave Maria. – 2002. – № 11 (90). – С. 20–21.
23. Ткачоў, М. А. Замкі і людзі / М. А. Ткачоў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991. – С. 158.
24. Штыхаў, Г. В. Крывічы : па матэрыялах раскопак кurганоў у Паўночнай Беларусі / Г. В. Штыхаў. – Мінск : Навука і тэхніка, 1992. – 191 с.
25. Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. – Wrocław, 1993. – T. 4 : Województwo Wileńskie. – S. 221–224.
26. Baza miejscowości kresowych. – Warszawa : Wojskowy inctytut geograficzny, 1932.
27. Księga adresowa Polski. – Warszawa : Towarzystwo reklamy międzynarodowej, 1928.
28. Księga adresowa Polski : Wykaz właścicieli ziemskich w gminie Leonpol. – Warszawa, 1929.
29. Rokicki, J. Majontki kresowe, stan na 1 września 1939 r. : Majątki ziemskie i nieruchomości miejskie – woj. Nowogródzkie, Lwowskie, Poleskie, Stanisławowskie, Tarnopolskie, Wileńskie i Wołyńskie.
30. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – Warszawa, 1880–1902. – T. I–XV.
31. Teresa Maria Kozieł-Poklewska h. wł. [Электронны рэсурс] // Wielka Genealogia Minakowskiego. – Рэжым доступу: https://sejm-wielki.pl/b/12.136.168. – Дата доступу: 28.01.2023.
32. Tryjankowski, J. Poswięcenie dzwonu im. Marszałka Piłsudskiego ufundowanego przez podoficerów. – Wiarus, 1937. – Nr 30.
33. Wiktor Światopełk-Mirski h. Białynia [Электронны рэсурс] // Wielka Genealogia Minakowskiego. – Рэжым доступу: https://sejm-wielki.pl/b/11.270.1062. – Дата доступу: 30.01.2023.
34. Wykaz miejscowości Rzeczypospolitej Polskiej. – Warszawa, 1938. – T. 1 : Województwo Wileńskie. – S. 4–5; 7–8.
35. Hedemann, O. Historja powiatu Brasławskiego / O. Hedemann. – Wilno, 1930. – S. 392–394, 415–416.

## "Куба" – любоў мая...

*Хіт А. Пахмутавай і М. Дабранравава з С. Грабеннікавым пра Востраў Свабоды, створаны імі да візіту ў СССР у 1962 г. Фідэля Кастра, у савецкія часы не чуў, бадай, толькі зусім глухі. Нават жыхары такой аддаленай ад цывілізацыі вёскі, як Міжрэчча (мясц. – Мізарэча) на Мёршчыне, што знаходзіцца (цяпер ужо, на жаль, – знаходзілася) прыкладна за тры кіламетры ад беларуска-латвійскай мяжы, дакладна яго чулі. І не толькі чулі, але і, натхнёныя прыкладам спевакоў М. Магамаева ды І. Кабзона, заўзята спявалі. Балазе вёска мела мянушку, цалкам адпаведную назве далёкай заакіянскай дзяржавы, – "Куба", якую яна ахвотна апраўдвала быццам знарок для гэтага дадзеным ёй Богам месцазнаходжаннем: на вузкім, акрэсленым межамі іншых гаспадарак лапіку зямлі, наводшыбе ад вірлівых шляхоў і падзей свету. Вось і спявалі міжрэчанцы (мясц. – мізарачане) як адмыслова пра іх і для іх створаную песню на зайздрасць жыхарам суседніх Сташулёў і Каснарэўшчыны, якім, хоць і мелі яны мянушкі не менш гучныя за міжрэчанскую – "Абісінія" і "Кітай", – на ўвагу знакамітых тагачасных аўтараў-песеннікаў не пашанцавала.*



*Сядзіба ў Міжрэччы. Здымак да 1939 г. Крыніца: Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4: Województwo Wileńskie. – Wrocław, 1993. – С. 222.*

Паводле польскага даследчыка Рамана Афтаназі, вёска Міжрэчча (руск. – Мижречье, Междуречье) узгадваецца ў дакументах ад XVI стагоддзя. Першая яе назва – Дуброўка. Паселішча пераходзіла ад аднаго гаспадара да другога, цэнтрам яго з'яўлялася панская сядзіба (мясцовыя жыхары называлі яе пакоямі) – прыстанак то магнатаў Сапегаў, то Валасоўскіх, то Мірскіх. Апошняя гаспадыня сядзібы Ядвіга Аскерка (1862–1940) з роду Свя-

таполк-Мірскіх **(Дадатак 2.1)** памерла ў высылцы на поўначы Казахстана. А яе сын з жонкаю, унук і дзве ўнучкі па дэмабілізацыі з войска генерала Андэрса пераехалі ў 1948 г. з Палесціны на сталае жыццё ў Аргенціну*.



*Сям'я апошняй гаспадыні сядзібы Міжрэчча Ядвігі Аскеркі (справа налева): сын Альгерд, унук Юры (Ежы), унучка Ізабэла (Іза), нявестка Францішка, унучка Марыя. Здымак з хатняга збору Аскеркаў, зроблены ў Палесціне па дэмабілізацыі з войска Андэрса. Дасланы нашчадкамі сям'і з Аргенціны ў 2021 г.*

Згодна са звесткамі ў "Геаграфічным слоўніку царства Польскага і іншых славянскіх краін", у 1865 г. толькі сукупнае мужчынскае насельніцтва (так званыя рэвізскія душы) міжрэчанскага (мізарэцкага) двара і вёсак Аніські, Вята, Рыбакі, Сташулі, Тараракі і Чамяры, што да яго належалі, складала больш за дзве з паловаю сотні чалавек. А ўжо праз паўтара стагоддзя ўсё сукупнае насельніцтва згаданых населеных пунктаў налічвала жыхароў у дзесяць разоў меней.

Па-беларуску адметнасці і гісторыя сядзібы ў Міжрэччы пададзеныя краязнаўцам Вітольдам Ермалёнкам у кнізе "Памяць. Мёрскі раён". А звесткі пра найбольш цікавыя мясціны з яе наваколля (Прудніцкае гарадзішча з каменным крыжам ля ўзножжа, вадаспад пры руінах папяровай (кардоннай) фабрыкі ў прыналежнай да сядзібы аднайменнай асадзе Міжрэчча) – у кнізе таго ж аўтара "Чароўных вандровак пярсцёнкі". Мы ж засяродзімся ў гэтым нарысе на рэаліях вёскі Міжрэчча другой паловы XX – пачатку XXI стагоддзя, часу яе росквіту і паступовага заняпаду.

У 1949 г. Міжрэчча стала цэнтрам сельгасарцелі з неарыгінальнаю назвай "1 Мая". Пачаўся новы этап жыцця вёскі і, адпаведна, пакояў. Частку верхніх памяшканняў сядзібнага дома, у якіх падчас Другой сусветнай вайны жыў куратар Цішэўскі з бацькамі і знаходзілася школа**, а адразу

* Крыніца звестак і здымка: Мёрская даўніна. – 2021. – № 7. – С. 5–6.

** Звесткі паводле расповеду жыхара вёскі Міжрэчча Івана (Яські) Голуба. Запіс 2007 г.

пасля вайны месціліся (да пераезду ў асобныя будынкі) школа і калгасная кантора, і жытло для чэлядзі і сезонных работнікаў двара (афіцыну*) прыстасавалі пад інтэрнат, частку – пад клуб, у якім аж да канца 50-х гг. ладзіліся пад кіраўніцтвам аматаркі мастацкай самадзейнасці Стасі Завілейскай з суседняй вёскі Сташулі мерапрыемствы культурніцкага накірунку і вечарыны**. Частку ніжніх – пад гаспадарчыя патрэбы, напрыклад, пад малачарню, дзе малако не толькі пераганялі, але і выраблялі з яго марозіва ды казеін***; пазней – пад загародкі (мясц. – зыгарадкі) для авечак і стойлы для цялят.

Падземную, выштукаваную з каменю частку размешчанага побач з домам лямуса, пабудовы для захоўвання харчу, адзення, зерня, надземная частка якой улетку магла выкарыстоўвацца і ў якасці жытла, пераўтварылі ў яму для захоўвання сіласу для калгаснага статку. Унізе ўздоўж ракі пабудавалі даўжэзныя аборы, якія пазней, пасля пераносу цэнтра гаспадаркі ў іншы населены пункт, сталі выкарыстоўвацца ў якасці сховішчаў для саломы і льнотрасты. Праз ярок леваруч ад прысядзібнага пляца, пасярод зараслае дэкаратыўным кустоўем горкі, усталявалі сцэну, дзе ўлетку адбываліся шматлюдныя фэсты з гандлем ласункамі, інсцэніроўкамі, арэлямі ды рознымі іншымі немудрагелістымі забавамі.



*Каменныя калоны і лоджыя над імі пры ўваходзе ў пакоі з боку ракі Вяты. Здымак*** да 1939 г.*

Дэталі краявіду паваеннага Міжрэчча – раскіданыя наўзбоч пакояў яблыні і грушы былога панскага саду, дубы і срэбналістыя надвісленскія таполі (мясц. – тофілі) **(Дадатак 14)** на пачатку колішняй кіламетровай алеі (Лініі) у накірунку вёскі Рыбакі, рэшткі прастакутных ліпавых, арэхавых і бэзавых прысадаў і так званы "квятовы сад" – засаджаны дэкаратыўным кустоўем стромы ўзгорак паміж сядзібаю і ўзвышкам левага берага Воўчага ручая.

* Месцілася на ўскрайку долу ля ракі. У паваенным часе выкарыстоўвалася ў якасці часовага жытла для прыбылых на сталае жыхарства.

** Пазней вечарыны (вельмі шматлюдныя) пачалі ладзіцца ў суседніх вёсках Сташулі і Суромшчына. Самым вядомым у наваколлі музыкам быў скрыпач Антон Ломаш (Антышка).

*** Казеін – бялковае рэчыва, якое ўтвараецца пры ствараЖэнні малака.

**** Крыніца: Aftanazy Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4: Województwo Wileńskie. – Wrocław, 1993. – С. 222.

У вёсцы мелася бібліятэка. Да 1987 г. функцыянавала пачатковая школа, у якую сцякаліся дзеці з усяго наваколля і колькасць якіх у класах у найбольш “ураджайныя” на вучняў гады дасягала 10–12 чалавек.

Насельніцтва Міжрэчча ў паваенны, савецкі перыяд ніколі не складала аднагачасова больш за паўсотню чалавек. Галоўным чынам гэта былі, за малым выключэннем, прыбышы з навакольных вёсак або хутароў, што ў пошуку сталага месцажыхарства паквапіліся на адносна ўрадлівую панскую зямлю. Некаторыя аселі ў Міжрэччы назаўсёды, некаторыя часова, у выніку склад насельніцтва вёскі пастаянна мяняўся.

Усе – католікі з уласцівымі тубыльцам прозвішчамі Альхімовіч, Голуб, Дарожка*, Жукоўскі, Лабэцкі, Кашкур, Цярэшка, Ломаш, Пупін, Сіўко(-а), Франс(ц)кевіч, Лаўрыновіч, Маляўка і характэрнымі для заходнікаў імёнамі, некаторыя з якіх пры называнні асобаў мужчынскага і жаночага полу ў дадзенай мясцовасці гучаць аднолькава (Віця, Антоля, Юзя). Выключна каталіцкі іменаслоў **(Дадатак 10)** трываў (і пераважаў) у Міжрэччы і яго ваколіцах ажно да пачатку 70-х гг. мінулага стагоддзя.

Вёска прытрымлівалася традыцыйнага, выразна хрысціянскага ладу жыцця. Напрыклад, шлюб **(Дадатак 11)** абавязкова мусіў быць касцёльным. Абавязковымі з’яўляліся сакраманты (таінствы) хросту, пакаяння (споведзі) і бежмавання (канфірмацыі), а таксама захаванне посту паводле вызначаных літургічным календаром тэрмінаў. Хавалі чалавека па магчымасці з удзелам ксяндза пасля адпявання адмысловымі спевакамі (мясц. – успяв*а*камі).

У паўсядзённым жыцці ўхваляліся і цаніліся працавітасць, дбайнасць і руплівасць. Пустадомства, ляніўства і няўмельства рашуча асуджаліся. Жытло, агарод і статак павінны былі даглядацца бездакорна. Соткі часам абгароджвалі лазовымі або альховымі



*Парафіяльны касцёл Маці Божай Шкаплернай у в. Ідолта.*

* Дарожка Бярнард (мясц. – Барнась) – прадзед пісьменніц Алены Масла (нар. у 1967 г. у в. Мілашова) і Наталлі Бучынскай (нар. у 1970 г. у в. Ідолта).

суплётамі, для звязвання якіх між сабою выкарыстоўваліся жардзіны, прымацаваныя цвікамі да ўбітых у глебу слупкоў з некапрызлівага дрэва сямейства вярбовых пад назваю жалівіца* (жыльвіца, жульвіца). Апошнія хутка пускалі карэнне, прарасталі, утвараючы жывы плот.

Пра такія з'явы, як крадзеж і разбой, міжрэчанцы ведалі галоўным чынам з расповедаў. Дзверы хат і гаспадарчых будынкаў рэдка замыкаліся. Але прадметам асаблівага гонару гэта сярод вяскоўцаў не было. Бо існаваў няпісаны кодэкс прыстойнасці, да выканання і захавання якога ставіліся як да чагосьці належнага, што і абмеркаванню не падлягае. Напэўна, з гэтае прычыны і сваркі, нават пры вострым недахопе пожняў для касьбы (мясц. – дзялак), якія адчуваўся ў Міжрэччы заўсёды, узнікалі рэдка.

Надзейным абярэгам ад здзяйснення кепскага ўчынку адносна суседа міжрэчанцу заўсёды служыла перанятая ад дзядоў-прадзедаў боязь трапіць у сітуацыю, калі будзе няёмка (мясц. – няспрытна) перад людзьмі.

Як і ўсюды ў вёсках у той час, транспарт у Міжрэччы быў гужавы (падвода, лінейка, сані) або – ровар. У цёмны час сутак памяшканні асвятляліся кнотавымі лямпамі або ліхтарамі ці нават свечкамі. Электрычнасць (мясц. – алектарка) з'явілася ў хатах на пачатку 60-х гг. XX стагоддзя. (Працэс электрыфікацыі на Мёршчыне пачаўся ў 1956 г.**)



*З гасціны ад сваякоў з в. Рыбакі – на падводзе. Здымак Т. Сіўко. Каля 1961 г.*

* У Тлум. слоўніку бел. мовы пад рэд. К. К. Атраховіча назва адсутнічае.

** Звесткі паводле кнігі "Памяць. Мёрскі раён".

Такую папулярную ў беларусаў свойскую жывёліну, як каза, міжрэчанцы ігнаравалі. Гадавалі кароў, часам – коней і асабліва шмат – авечак. Настрыгшы з авечак воўны, насілі яе часаць на млын у асаду Міжрэчча або, пакінуўшы частку дзеля вырабу валёнкаў (мясц. – вайлакоў), вазілі мяняць на гатовыя ніткі ў Латвію, у Варнавічы ля Краславы. З птаства аддавалі перавагу курам, індыкам, гусям.

Зерне вальцавалі, малолі і пытлявалі на млынах у Сташулях і ў асадзе Міжрэчча. Пасля таго, як абодва перасталі дзейнічаць, – у Аблятове. Яшчэ пазней, пасля зачынення аблятоўскага млына, паўразбураны каркас якога захаваўся па сённяшні дзень, пачалі вазіць збожжа на млын у Латвію, у вёску Коськаўцы (Кошкаўцы). Як правіла, рабілі гэта ўзімку, пераязджаючы праз замерзлую Заходнюю Дзвіну конна на санях.

Моладзь, што, пабраўшыся шлюбам, асела пасля Другое сусветнае вайны ў Міжрэччы, была поўная надзей на шчасце не толькі для сябе, але і – найперш – для дзяцей. Можа, таму, нягледзячы на цяжкую працу за пустыя працадні і на побытавыя цяжкасці (адно нашэнне вады з рэчкі на кароміслах да пары, пакуль у вёсцы не ўсталявалі чатыры калонкі, вунь колькі сілаў



*Жыхары в. Міжрэчча, Сташулі, Навінкі, Каснарэўшчына падчас пасадкі бульбы. Каля 1965 г.*

адымала, асабліва ўзімку, калі і прабіць пролубку* ў лёдзе, і потым штодня даглядаць яе трэба, каб не замерзла), яна заўсёды выглядала вясёлаю і жыццярадаснай. Пра гэта сведчаць фотаздымкі адзінага на той час у наваколлі фатографа (мясц. – знёмшчыка) Івана (Янкі) Кашкура, шматдзетнага сямейніка, уважанага ў "Кітаі" за Мао Цзэдуна, дзякуючы старанням якога хоць нешта са штрыхоў жыцця мясцовасці сярэдзіны ХХ стагоддзя застанецца ў аналах гісторыі. (На "Кубе" правадырыў, вядома, Фідэль – дзядзька Пётра Альхімовіч. Ніводная з гэтых мянушак абразлівага падтэксту не мела.)

Ці то падчас цераблення лёну, ці то ў сезон парадкавання сена або пасадкі і прыбірання бульбы, буракоў, бручкі (мясц. – грыжыны, вымаўляецца з выбухным "г") – заўсёды міжрэчанцы, як і іх суседзі сташулёўцы ды каснараўшчане, з выразам зычлівасці і ўсмешкаю на тварах. Выходзілі на палеткі (ірваць або церабіць лён, прыбіраць тую ж бульбу, ці буракі, ці грыжыну, ці кукурузу) і сем'ямі. Часам з песняй, у тым ліку і «Куба – любоў мая» з усімі яе жартоўнымі варыянтамі.

Гэта – у прыпарную пару, улетку ці ўвосень. Узімку ж, на рэпетыцыях вясковага хору пры школе гучала пад пасвіст завеі і пошчак марозу на двары іншае, кшталту незаменнае ў рэпертуары любога тагачаснага спеўнага калектыву "Ленин всегда живой".



*Ксёндз Баляслаў Заёнц.*

Нягледзячы на працяглае прабыванне пад Польшчаю, Міжрэчча па польскай мове не настальгавала. Хаця набажэнствы ў парафіяльным касцёле Маці Божай Шкаплернай у вёсцы Ідолта (мясц. – Удоўта), пробашчам якой ад 1946 г. да самага адыходу ў вечнасць у 1984 г. з'яўляўся ксёндз Баляслаў Заёнц, званы парафіянамі ласкава Зайчыкам, ладзіліся на той час, як і ўсюды на тутэйшых абшарах, выключна па-польску, у штодзённым жыцці міжрэчанцы размаўлялі на мясцовым дыялекце мовы беларускай.

Пра родную мову не дыскутавалі, ёю, з яе адметнаю мясцоваю лексікай ды дзіўнымі словазлучэннямі кшталту "быў сказаўшы (прыйшоўшы, ажаніўшыся, памёршы)",

* Пролубка (мясц.) – палонка.

штодзень карысталіся. Дзеці адмалку гадаваліся ў натуральным беларускамоўным дыялектным асяроддзі, азы ж роднай мовы літаратурнай, гэтаксама, як і рускай, пачыналі спасцігаць у школе. Насуперак распаўсюджанаму меркаванню пра адданасць тутэйшага насельніцтва пальшчызне, яго стаўленне да польскай мовы (як і да рускай) было хутчэй абыякавым, калі наогул не скептычным.

Затое выразы і найменні свае, звыклыя, хоць, можа, калісьці продкамі і запазычаныя, наадварот, былі ў пашане. Манерка (металічная пляшка), пошар (травяны корм для жывёлы, сена), пеліна (прыпол; напрыклад, пра дарослае дзіця іранічна: вазьмі, мамка, малёначка на пеліну), канка (каністра), трасотнік (месца пры пуні ці павеці, дзе пілуюць, шчапаюць дровы), кает* (сшытак), турэбка** (торбачка), конча (у значэнні *абавязкова*), строна (у значэнні *дзеля*), некаторыя меры вагі: пур (бульбы; 1 пур = 3 пуды), беркавец (сена; 1 берк. = 10 пудоў) – усе гэтыя і многія іншыя словы **(Дадатак 12)** пакаленню міжрэчанцаў маладзейшага веку пашчасціла ўведаць не са слоўнікаў, а з вуснаў людзей старэйшых і, што вельмі важна, – адначасова са зведаннем саміх паняццяў. Многім з якіх, гэтаксама, як і іх носьбітам, як і асялку, вакол якога ладзілася штодзённае вясковае існаванне, – пакоям, жыццё было наканавана нядоўгае.



*Жанчыны вёсак Міжрэчча і Сташулі падчас парадкавання лёну. Фрагмент здымка. Каля 1978 г.*

Хаця адметнаю адукацыяй вяскоўцы, зразумела, пахваліцца не маглі, чытаннем, аднак, не грэбавалі. З тагачасных свецкіх перыядычных выданняў найбольшаю папулярнасцю карысталіся ў Міжрэччы якраз беларускамоўныя: часопісы "Работніца і сялянка", "Вожык" і раённая газета "Сцяг працы" (раней – заснаваная ў 1941 г. і ўзноўленая ў 1944 г. "Бальшавіцкая трыбуна", у 1952–1962 гг. – "Зара камунізму" **(Дадатак 8)**, з 2001 г. – "Мёрскія навіны"). Не пакрываліся, аднак, пылам забыцця і старыя выданні

* Польск. *kajet* (устар.).

** Польск. *torebka*.

польскіх часоў – польска- і беларускамоўныя (лацінкаю) малітоўнікі, календары і інш., што з часам перакачавалі з хат на гарышчы, робячыся прынадным рарытэтам для збіральнікаў мінуўшчыны наступных пакаленняў.



— 6 —

ad I wydańnia (ad 1926 h.) źjaŭlalisia ŭ časopisiach i adbitkach. Nie pamiaściŭ ja „Darohi Kryža“, „Ražanca“, „Pieśniaŭ žalu“, kab lišnie nie pašyrać raźmieru knižki, jakaja i raźmieram swaim pawinna być prydatnaj dla moładzi. Pakul wyjdzie abšyrnaja knižka da nabaženstwa dla narodu, abyjmajučaja ŭsiu Službu Božuju, hetaj knižycaj mohuć karystacca i starejšyja.

Niachaj-ža heta knižyca budzie puciawodnaj zorkaj u relihijnym adradženni Biełaruskaha narodu.

Ks. W. Hadleŭski.

— 7 —

Časć I.

PACIERY I KATECHIZMY.

PACIERY.

Kožny dzień, rana i wiečaram, starajsia adhawaryć paciery i hetym spoŭniš swoj abawiazak pierad Boham. Kali-b nia mieŭ času, zmoŭ prynamsi „Ojča naš“, Prywitana budź“ i „Chwała Ajcu“.

Znak kryža światoha.

† U imia Ajca i Syna i Ducha Światoha. Amen.

Malitwa Hospadawa.

Ojča naš, katory jość u niebie. Świacisia imia Twajo. Pryjdzi waładarstwa Twajo. Budź wola Twaja, jak na niebie, tak

*Старонкі 2-га выдання беларускага (лацінкаю) малітоўніка “Голас душы” кс. Канстанціна Стэповіча (Казіміра Сваяка). Падораны Язэпам Малецкім жыхарцы в. Аблятова Тэсі Немянёнак (у сужэнстве Кашкур), сяброўцы гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры* ў в. Шальціны з надпісам “Дарагой суседцы Тэсі ад Юзафа Малецкага”. Перададзены аўтару Тэсяй Кашкур у 1989 г. Знаходзіцца ў прыватным зборы Алены Масла.*

Другою крыніцай атрымання ведаў пра свет у датэлевізійныя часы з’яўлялася ў Міжрэччы радыё (мясц. – радзіва; форма выказвання пра факт радыёперадачы: надаваць праз радзіва). Асабліва ж шмат удзячных слухачоў з ліку вяскоўцаў знаходзілі радыёінсцэніроўкі літаратурных празаічных і драматургічных твораў, а таксама вершаваныя падборкі айчынных паэтаў. Родная мова пачувалася ў Міжрэччы гаспадыняй.

Падлогі ў хатах у Міжрэччы былі і дашчаныя, і земляныя. Апошнія, як правіла (найперш з меркавання супрацьпажарнае бяспекі), – у кухнях.

* Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (БІГіК) – культ.-асветн. арганізацыя ў Зах. Беларусі. Дзейнічала ад чэрвеня 1926 г. (у Шальцінах – ад студзеня 1932 г.) да 4 снежня 1936 г.

Такі прадмет сялянскага побыту, як кросны, меўся толькі ў адной хаце, сваячка гаспадароў прывезла іх з сабою падчас пераезду ў Міжрэчча на дажыванне з хутара Аблятова. Затое калаўротам магла пахваліцца амаль кожная гаспадыня.

З гаспадарчых пабудоў узводзіліся хлявы і пуні, прычым слова *адрына* ў значэнні *пуня* ў вёсцы не ведалі. Затое ведалі слова *шаха*, называючы ім вялікую пуню для захоўвання сена ды саломы ў суседніх Сташулях, дзе часам улетку, аздобіўшы будынак унутры галінкамі дрэваў, ладзілі вечарыны і прагляды кінафільмаў, якімі зрэдку ашчасліўлівалі вяскоўцаў кінамеханікі (мясц. – кіншчыкі) з райцэнтра.


*Жыхары Міжрэчча Гэнік (справа) і Тадзік. Каля 1968 г.*

Такіх даўнейшых збудаванняў, як свіран ці клець, у Міжрэччы ў паваенным часе не было. І пазначанай на мапе 1932 г. стадолы, адной з дзвюх у ніжнім цячэнні ракі Вяты, маладзейшыя міжрэчанцы не заспелі. Затое заспелі доўгія-доўгія, вокам зар*а*з не ахапіць, аборы і аўчарні і падмурак заменніка гумна – тока (тачк*а*), што знаходзіўся праз ручай на ўскрайку логу.

Грувасткіх гаспадарчых прыстасаванняў кшталту арфы, малатарні або машыны для апрацоўкі лёну, хаця і пры Польшчы вырабамі з яго карысталіся, і пры саветах на калгасных палетках нямала гэтай культуры вырошчвалі, таксама ў Міжрэччы не было. Затое шмат мелася такіх простых прыладаў працы, як саха, ці плуг, ці барана, прыдбанне якіх было і менш выдаткоўным, і больш мэтазгодным, а таксама некалькі жорнаў.

А вось што яшчэ мелася, бадай, у кожнай гаспадарцы, дык гэта самагонны апарат. Людзі застаўлялі ў канках брагу і, як толькі надаралася больш-менш вольная і бяспечная хвіліна, зашчапляліся ў істопцы або лазні і пачыналі цадзіць "змея". Гандляроў самаробным напоем у ваколіцах Міжрэчча было некалькі, іх, як правіла, вяскоўцы недалюблівалі.

На самым высокім узгорку, пры спуску ў прырэчную лагчыну пад назваю Ніз, месца навязвання авечак, туліўся да кустоўя шыхт ямаў для захоўвання ўзімку буракоў, бульбы, морквы. Часам увесну падталыя земляныя стрэшкі гэтых схронаў гароднiны абрынваліся, патрабавалі тэрміновага рамонту. Захоўвалі гародніну і ў капцах.

Мыліся міжрэчанцы спачатку ў панскай лазні, што засталася ад апошняй гаспадыні сядзібы. Затым, схаўрусаваўшыся сем'ямі, – па асабістых. Збіраліся па чарзе асобна мужчыны і жанчыны, плёхаліся, размаўлялі, жартавалі. Такая супольная дзея інтымнага характару, безумоўна, спрыяла мацаванню добрасуседства, духоўнае повязі. Не абыходзілася і без інцыдэнтаў, звязаных, да прыкладу, з прывычкаю аднаго быкаласа* пазбаўляцца ў лазні ад бруду ў час, прызначаны адмыслова для жанчын.

Лазня, якая ў цёплую пару года нярэдка служыла прыстанкам вядомай у наваколлі бяздомнай жабрачцы, бяскрыўднай збіральніцы лялек Яніне па мянушцы Нахінатка**, месцілася на самым беразе ракі Вяты, метраў за пяцьдзясят ад афіцыны. Напрыканцы 60-х гг. мінулага стагоддзя, ужо пасля яе зносу, тут была ўзведзеная земляная дамба. Праіснаваўшы зусім нядоўга, яна, аднак, паспела не толькі нашкодзіць мясцовай флоры ды фаўне, але і незваротна згоршыць выгляд рэчышча Вяты.

Для пераходу на другі, суромскі бераг ракі міжрэчанцам служылі драўляныя кладкі з парэнчамі або бех іх. Выглядалі яны так, як выглядае на здымку справа сённяшняя кладка пры вадаспадзе ў былой фабрычнай асадзе Міжрэчча. У час веснавой паводкі вузенькія хісткія масткі звычайна пад ціскам ільдзін і збытку вады разбураліся, і тады даводзілася на іх месцы будаваць новыя.



*Здымак А. Чаплевай. 2022 г.*

У цёплую пару года, калі ўзровень вады ў Вяце паніжаўся, пераходзілі яе таксама ўброд у самым мелкім месцы пад назваю Прыстань. Яшчэ на пачатку 60-х гг. XX стагоддзя рака была гэтак паўнаводная, што невады (сеткі) падчас лоўлі рыбы закідвалі ў яе віры з лодак.

* Быкалас (мясц.) – асудж. пра падлетка кепскіх паводзінаў.
** Нахінатка (мянушка) – вытв. ад нахінацца (нахіляцца).

І рыбы было так шмат, што ўзімку можна была бачыць яе, скаваную сцюжай, на дне праз тоўшчу празрыстага, бы дагледжанае шкло, лёду.



*Сцежка ад пакояў да афіцыны і Прыстані.*
*Здымак Яна Булгака. 1910 г.*
*Крыніца: radzima.org.*

Асаблівасць міжрэчанскіх краявідаў – сцежкі, дакладней – сцежкі-дарожкі. Іх было некалькі, яны разыходзіліся ў розных накірунках і паводле іх, адпаведна, называліся: на Сташулі, на Варанькоў, на Рыбакі (Лінія), на Навінкі, дзве на Вяту (на Фабрыку і на Чэслава), на Чамяры, на Суромшчыну (праз раку, на Міхася).

Міжрэчча, як і іншыя вёскі мясцовасці, у 2-й палове XX стагоддзя было даволі шматлюдным, таму даходзіць ад яго да суседніх паселішчаў у кожную пару года, апроч зімы і ранняй вясны, можна было не цалкам (мясц. – уцэла), як цяпер, калі наваколле дарэшты спусцела, а збольшага ўтрамбаванай, хаця месцамі і ўтравелай, а часам дарэшты пабітай гусеніцамі ды коламі трактароў каляінай.

Гэта – улетку. Бо, напрыклад, падчас веснавое куламесы абсаджаныя жалівіцамі мясцовыя дарогі станавіліся зусім непраходнымі-непраезнымі. Як было тут, зрэшты, і даўней, скажам, на пачатку 20-х гг. мінулага стагоддзя, калі яны падчас разводдзя рабіліся такія гразкія, што пераезд ад вёскі Узмёны да Міжрэчча, а гэта ўсяго (напрасткі) каля 22 кіламетраў, нават на добрых конях з усімі аб'ездамі займаў, як сцвярджае ў сваёй кнізе М. Задора-Цішэўскі **(Дадатак 1)**, цэлы дзень.

Вялікай нязручнасцю побыту міжрэчанцаў з'яўлялася адсутнасць крамы. Бліжэйшыя знаходзіліся спачатку ў Александрыне, затым у Суромшчыне. Сітуацыя палепшылася з пускам аўталаўкі. Якая, аднак, да Міжрэчча не даходзіла, а спынялася за кіламетр ад яго, у суседніх Сташулях.

Хадзілі вяскоўцы на закупы і ў Латвію – у Патарніекі (Патарнікі) ці нават у больш далёкую Індру, ездзілі ў Краславу або Дзвінск (Даўгаўпілс). На кірмаш з трускалкамі і іншымі ягадамі ды гароднінай (што здаралася рэдка) звычайна выпраўляліся ў Бігосава (даўн. – ст. Георгіеўская) суседняга Верхнядзвінскага (да 1962 г. – Дрысенскага) раёна, перапраўляючыся на другі бок Дзвіны на лодцы ў вёсцы Чурылава.



*Жыхарка Міжрэчча з роварам за хвіліну перад выправаю па хлеб. Каля 1960 г.*

Доўгі час самым важным цэнтрам жыццядзейнасці Міжрэчча і яго наваколля заставалася Друя. У мястэчка ездзілі конна ці хадзілі пешкі на кірмаш, у краму, да нейкага адмыслоўца (напрыклад, да майстра па вырабе надмагільных помнікаў або вупражы), да лекара.

З часам, аднак, Друя пачала страчваць ролю цэнтра мясцовасці, саступіўшы пальму першынства непапулярным дагэтуль Мёрам*. Якія ў параўнанні з Друяй пачалі развівацца з адсталага ў эканамічных і культурных адносінах мястэчка ў горад не так даўно і, напрыклад, у 1927 г., паводле тагачаснага польскага адраснага даведніка, налічвалі ўсяго 422 жыхары.

Першаю прыступкаю ў атрыманні насельнікамі Міжрэчча адукацыі з'яўлялася пачатковая школа. Апроч Міжрэчча, у ніжнім цячэнні ракі Вяты ў розныя (як савецкія, так і дасавецкія) часы такія школы меліся ў вёсках Бабарыкі, Вята, Чамяры, Сташулі, Якужы **(Дадатак 5).** Правучыўшыся чатыры гады ў пачатковай школе, міжрэчанцы працягвалі атрымліваць веды ў дзесяцігодцы ў Павяцці **(Дадатак 13)**. Вучыцца было на прывяцкіх абшарах у паваенным часе модна і прэстыжна.

Урокі ў Міжрэчанскай школе, як і ў згаданых навакольных, праводзіліся "парна": у адным памяшканні – для 1-га і 3-га класаў, у другім, праз так званую танюткую перабойку, – для 2-га і 4-га. Безумоўна, такое "шчыльнае" суіснаванне на мінімальнай плошчы ажно чатырох вучнёўскіх калектываў на карысць як найлепшаму засвойванню ведаў быць не магло. Але і чымсьці фатальным не з'яўлялася.

---

* Мёры – радзіма Марыны Весялухі (нар. у 1987 г.), літаратурнага крытыка, паэткі.

Настаўнічалі ў Міжрэччы ўраджэнец вёскі Бабарыкі (мясц. варыянт – Бубарыкі), выпускнік Друйскай гімназіі імя С. Баторыя 1932 г. выпуску Антон Феліксавіч Пупін (1912–1982), які, з увагі на тутэйшае паходжанне, атрымаць сталае месца працы ў школе пры Польшчы не мог, таму да 1939 г., да прыходу першых саветаў, мусіў займацца прыватным настаўніцтвам або перабівацца нейкімі іншымі заробкамі пры панскіх дварах (**Дадатак 9.1**), і яго жонка Марыя Мікалаеўна (1914–1994), усмешлівая, артыстычная жанчына паходжаннем з Друі, нястомная арганізатарка школьных "маёвак", вандровак да Прудніцкага гарадзішча ды канцэртаў мастацкай самадзейнасці.

Будынак школы, узведзены з перавезенай напрыканцы 1950-х гг. з вёскі Сташулі хаты млынара Судніцкага, складаўся з дзвюх паловаў з двума асобнымі ўваходамі: уласна школы і жытла для сям'і настаўнікаў **(Дадатак 9).**



*Школа ў Міжрэччы. Здымак Янкі Кашкура. 1962 г. Аўтар – 2-гі злева ўверсе.*

Самым строгім пакараннем для вучняў было адбываць за кепскую вучобу ці паводзіны пасля ўрокаў (мясц. – па ўроках). Такі спосаб пакарання, як правіла, практыкаваў Антон Феліксавіч. Марыя Мікалаеўна звычайна строгасць мужа старалася зніверляваць.

Тэрыторыя школы пастаянна добраўпарадкавалася. Абавязкам кожнага вучня было прынесці і пасадзіць на ўзмежку нейкае дрэўца. У выніку

з часам абапал будынка і агародаў узнялася густая сцяна насаджэнняў, а на доле пад ёю з'явіліся, у дадатак да падальховікаў пры старых прысядзібных алеях, россыпы баравікоў і падбярозавікаў (мясц. – сушонікаў). Занесеная разам з саджанцамі грыбніца, быццам стараючыся запаволіць працэс заняпаду вёскі, асабліва шчодраю на ўраджай стала ў апошнія гады яе існавання.

Антон Феліксавіч дасканала ведаў польскую мову і выдатна арыентаваўся ў граматыцы і лексіцы лацінскай. А вось пра тое, што ён атрымліваў адукацыю ў варунках і асяродку, блізкіх да беларушчыны, сведчыла як працоўная яго мова, так і штодзённая – беларуская дыялектная з дамешкам лексікі літаратурнай. І яшчэ – ліставанні з сябрамі юнацтва, пары навучання ў гімназіі.

Напрыклад, з адным з рэдактараў і выдаўцоў выдаванага ў 1934–1936 гг. у Вільні часопіса "Золак", ураджэнцам вёскі Шальціны і колішнім кіраўніком мясцовага гуртка Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры Яўгенам (Аўгенем) Аніськам (1910–1996), арыгінал аднаго з лістоў якога знаходзіцца цяпер у фондзе гісторыка-краязнаўчага музея Мёрскай школы № 3.


значнай устойлівасці псіхічнай,
не паддаецца. Нават сама рэалі-
зуе свае харчовыя [illegible], хоць гэ-
та і не лёгка.
Сардэчнае вітанне Марыі Але-
ксандраўне.
Жадаем Вам і вашым блізкім
добрага здароўя і усялякіх [illegible]
у Новым 1982-ім.
Прывітанне ад Алены.
Калі не [illegible] Гарма-

жэнні," чэркні пару с
шым жыцці-быцці.
А як з мэмуарамі – не закоп-
ваеш таленту ў зямлю?
Ды і манаграфія Бабарык
– удзячная тэма, асабліва на зі-
мовыя вечары.
Бывайце здаровы.
Яўген

*Фрагмент ліста Я. Аніські да А. Пупіна.*
*Перададзены аўтару адрасатам у 1982 г.*

Заняпад Міжрэчча пачаўся са скасавання ў 1958 г. калгаса "1 Мая" і, адпаведна, страты вёскаю статуса яго адміністрацыйнага цэнтра. Пік жа заняпаду акурат супаў з пікам папулярнасці песні пра Кубу. Неўзабаве пакоі былі разбураныя, інфраструктура мясцовасці, і без таго слабая, яшчэ больш згоршаная.

Праўда, к таму часу вёска, якая адышла цяпер да калгаса "Гігант", пабагацела – галоўным чынам праз гадаванне асабістага статку адначасова з працаю на калгасных палетках ці на кароўніку, што патрабавала ад селяніна не абы-якіх высілкаў. На падворках з'явіліся, апроч ровараў, матацыклы (мясц. – марцыклеты) і нават аўто. А разам з імі – імпэт да спазнання іншых

краявідаў ды змены звыклага ладу жыцця. Моладзь пачала ў пошуку больш камфортных мясцін з'язджаць па сканчэнні школы на вучобу ці на працу ў гарады, найчасцей – суседняе Латвіі. Людзі старэйшага веку – адыходзіць у лепшы свет.

Быццам адмыслова ва ўнісон з паводзінамі людзей, пачала паволі занепадаць і неад'емная частка вясковага краявіду – буслянка. Размешчаная на адной з раскідзістых вяршынь надвісленскае таполі, яна спачатку, не вытрымаўшы напору ветру, напалову разбурылася, а затым, пасля гібелі аднаго з буслоў (мясц. – бацяноў), і наогул ператварылася ў нежылую.

На пачатку 2019 г. у Міжрэччы заставалася ўсяго адна жыхарка – ураджэнка вёскі Тараракі 92-гадовая Францішка (Франя) Голуб. Пераехаўшы чатыры гады таму дзеля зручнасці дажываць у суседнія Сташулі, і іх яна вымушаная была ўрэшце пакінуць. За тыдзень да ад'езду ў горад жанчына запрасіла колішніх аднавяскоўцаў, равеснікаў і равесніц сваіх дачок, у апошнія адведзіны.



*Апошнія жыхары Міжрэчча з дажджавымі грыбамі ля руінаў сядзібы. Здымак аўтара. 2007 г.*

Сабраліся дружна, не марудзячы. Пасядзелі, пачаставаліся. Пагаманілі: хто без напругі на роднай мове, хто – на прыдбанай чужой. Пахадзілі, не зважаючы на сляпую імжаку, па зарослых дарагіх мясцінах, памедытавалі ля закінутых бацькоўскіх хат з пустымі аканіцамі. Хтосьці памануўся заспяваць песню пра Кубу, ды і абсекся на паўслове: ці да песень тут… Затое сфатаграфаваліся на памяць. Трымаліся бадзёра, а што дзелася ў кожнага ў душы – аднаму Богу вядома.



*Руіны сядзібы. Здымак аўтара. 2007 г.*

Так згасла, акурат, паводле іроніі лёсу, у абвешчаны ў дзяржаве Год малой радзімы, Міжрэчча. Знікла, наследуючы сумнай пуцявіне соцень тысяч паселішчаў, што зніклі апошнім часам на абшарах Беларусі. І тое, што гэткі ж лёс напаткаў не толькі яго і суседнія Сташулі ды Каснарэўшчыну, але і безліч вёсак і паселішчаў у іншых, часам куды больш развітых за нашу, краінах, да прыкладу, у той жа Францыі, ці Англіі, ці Японіі, ці Італіі, прадстаўнікам апошняга калена міжрэчанцаў, што пакінулі, здраднікі, райскія свае, дадзеныя Стварыцелем ад нараджэння сады, – слабое суцяшэнне. Як і песня, што ўжо ніколі не пабудзіць іх уранні, не пакліча пад шаты немудрагелістае, але такое дарагое, незабыўнае вясковае штодзёншчыны.



*Бывай, Міжрэчча! У дзень развітання з вёскаю. Здымак Т. Альхімовіча. 21 верас. 2019 г.*

На замову інфармацыі пра вёску Міжрэчча Google сярод іншага выдае: "вёска Міжрэчча на мапе". Націснеш на спасылку, ды і схамянешся, агаломшаны, ды і парадуешся міжволі: ды вось жа яно, Міжрэчча, вось, а вы кажаце – няма...

І ўзгадаецца ўвадначас дарагое сэрцу даўняе, і вымкнуцца на свет белы з нетраў памяці, блытаючы ў галаве відарысы мінуўшчыны і явы, знаёмыя з маленства словы жвавай, як рачная плынь увесну, песні: "Куба – любоў мая...".



*Зарослы хмызам крыж у Міжрэччы – сімвал лёсу мясціны.*
*Здымак А. Немянёнак. 2021 г.*

## Літаратура


1. Ермалёнак, В. Чароўных вандровак пярсцёнкі : Краязнаўчыя маршруты па Мёрскаму раёну / В. Ермалёнак. – Мінск : Капитал Принт, 2017. – 202 с.
2. Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае (ЗДА ў г. Глыбокае). – Ф. 1601. Воп. 2. Спр. 5, 7, 29, 30, 44, 45.
3. Лісты з Буэнас-Айрэса // Мёрская даўніна. – 2021. – № 7. – С. 5–6.
4. Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь : Віцеб. вобл. : нар-мат. давед. / У. М. Генкін, І. Л. Капылоў, В. П. Лемцюгова ; пад рэд. В. П. Лемцюговай. – Мінск : Тэхналогія, 2009. – С. 318–333.
5. Памяць : Мёрскі раён : гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэдкал.: Г. М. Маняк [і інш.] ; уклад. Л. А. Матэленак ; маст. Э. Э. Жакевіч. – Мінск : БелЭн, 1998. – 630 с.
6. Разуванава, К. Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры ў Заходняй Беларусі (1926–1936) / К. Разуванава. – Мінск : Бел. навука, 2023. – 248 с.
7. Aftanazy, Roman. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. – Wrocław, 1993. – T. 4: Województwo Wileńskie. – S. 221–224.
8. Danilecka, L. Duszy zabić nie mogą : Marianie na Białorusi i w Mandżurii / L. Danilecka. – Warszawa : Sekretariat misyjny księży marianów, 2000. – S. 61–71, 234.
9. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. – Warszawa, 1885. – T. VI. – S. 337.
10. Zadora-Ciszewski Mirosław. Wspomnienia / Mirosław Zadora-Ciszewski // Pamietniki i listy polskich autorów z Ziem Zabranych 10 BN (BN – Biblioteka Narodowa w Warszawie). – Sygn. akc.12723 – mf. 81347, akc.12786, k. [ok.] 400 + [ok.] 150, pol., 1912–1944. Mps z poprawkami.

# Манерка

Апавяданне

Вады ў фабрычнай асадзе Міжрэчча ў любую пару года са збыткам. Асабліва ўвесну, калі пачынаецца на рацэ паводка і яна, знябыўшыся за зіму пад сцюдзёным лядовым панцырам, весела шугае праз край берага ў прырэчную лагчыну, у так званы Халуй. Дзе надалей і застаецца да радасці спачатку жаб, што з прыходам цёплых дзён аздабляюць чэрава лагчыны звілістымі суплётамі жабурыння, пасля, бліжэй да сярэдзіны лета, – буслоў ды чапляў, што тым жабурыннем, толькі ўжо ў выглядзе порсткіх палонікаў і маладых жвавых жабак, ласуюцца.

Праўда, здараецца ў гэтым раі для цыбатага птаства падтапленне і ўлетку, падчас залеваў. Вады прыбывае тады ў раку з раўчукоў і канавін так шмат і яна такая нястрымна-ваяўнічая, што нават некаторыя драўляныя навакольныя млыны яе ціску не вытрымліваюць, касабочацца, а то і зусім бурацца.

На шчасце, цаглянаму міжрэчанскаму млыну рэзрух з-за лішку вады ў рацэ ні ўвесну, ні ўлетку не пагражае. Падтопіць таліна ці дажджавая вадзіца падмурак ды і схлыне, не даўшы рады змагчы яго каменна-непрабівальнае моцы.

Зрэшты, і без рэзруху млын ужо другі год не працуе. І ці адновіць калі-небудзь працу – невядома. Хутчэй за ўсё, насуперак спадзеву Зімака Самаваронка, сына былога гаспадара асады, што – тыц пахвалёны! – заявіўся сюды, на котлішча прашчураў, следам за немцамі з намерам вярнуць адабранае ў бацькі да вайны саветамі, – не. Прынамсі Дуні і Юзю Нямірам і іх маці Зосечцы такая мроя маладзёна, што і сёння вунь ад ранку раз-пораз мільгае паставаю на сцежцы ад хаты да вадаспада ды цікуе спадцішка за пазапінанымі вокнамі суседзяў, збытнаю не здаецца.

Бо і вада з прымлыннае запруды ўбок адведзеная, і кола ды жорны за час прастою, мабыць, страцілі кандыцыю. Таму адзінае, што яшчэ надае Зімаку аптымізму, – сам будынак млына з вадаспадам наўзбоч. У які таксама, аднак жа, толькі з разлікам на помач Духа Святога, без належнага спрыту ды ўмельства, жыцця не ўдыхнеш. А адкуль узяцца спрыту-ўмельству ў гэткім кволым – хоць ты на пеліну яго, бы таго малёначка, вазьмі ды люляй – інтэлігенціку, як Зімак, і пытацца не выпадае.

Дуня счэквае, калі чарговы раз знікне за рогам хаты Зімакава спіна, выходзіць на ганак. І адразу трапляе ў какафонію гукаў.

Вадаспад, што ўтварыўся пры плаціне наўзбоч млына пасля спынення кола, утрапёна гудзе, поўніць наваколле нязмоўчным, бы скавытанне ветру на гарышчы ў глухую восеньскую непагадзь, гулам. Вада ліецца

праз плаціну без супынку, але асабліва гучным выдае яе грымоцце ўранні, калі яшчэ ўсюды па надрэччы вісіць туман і нічога скрозь яго за два крокі не бачна. Здаецца, выпрастай у такую хвіліну руку, каб датыкнуцца да яго, як і патонеш з галавою ў непранікальнай белавата-шызай гусціні.

Цяпер, аднак, ужо амаль паўдзён, і ўсё навокал вадаспада і хаты пры ім праніцанае пукамі сонечных прамянёў, што прабіваюцца на панадворак паўз камлі асін і спавітыя павуціннем галінкі ніцых яблынь на гліністым узгорку воддаль ад ледзь прыкметнай у траве сцежкі на Халуй. Глеба ў асадзе дрэнь, адзінае, што больш-менш вольна пачуваецца на ёй, – кустоўе. Рабіннік, шыпшыннік, лазняк, маліннік так і пырскаюць атожылкамі ва ўсе бакі, запаўняюць сабою вузкую прастору паміж хатаю і сушарняй. Усё, апроч брукаванкі, якая са спыненнем млына паціху, але таксама няўмольна, як і сцяжына на Халуй, робіцца ўсё больш незаўважнай сярод хмызу.

Палову асадаўскае хаты на два канцы, з асобнымі ўваходамі ў адзін і другі, Няміры занялі пасля таго, як з прыходам саветаў збег з сям’ёю за мяжу, у Польшчу, яе гаспадар, сяржант памежнай стражніцы* Пётра Самаваронак па мянушцы Дзяч. Хата як хата, адно што без догляду паспелі сцены дзе-нідзе па кутах р*а*гамі пабіцца ды павуціннем зарасці. Спехам засяліўшыся, не паспелі, аднак, у ёй навасёлы агледзецца, як Янушака Няміру, Зосеччынага мужа і Дунінага і Юзевага бацьку, забралі ў савецкае войска.

Тут неўзабаве немцы прысунуліся, і зноў усё памянялася з іх прыходам і вяртаннем Зімака. Які, праўда, дзякуй яму, адразу высяляць самазваных жыльцоў з занятай паловы, памятаючы пра іх прыязныя даўнейшыя, дасавецкія яшчэ стасункі з бацькам, не стаў, даў часу хаця б збольшага агледзецца ды падшукаць пад жытло штосьці больш-менш прыстойнае. Вось і аглядаюцца, падшукваюць салдатка Зосечка з сынам і дачкою тое жытло па селішчах паблізу.

Учора досвіткам Зосечка выправілася ў мястэчка ў краму і вырашыла разам паглядзець хутар за пяць вёрст ад асады. І калі яна вернецца цяпер дахаты – невядома. Магчыма, сёння к вечару, магчыма – заўтра. У выпадку няўдалых гледзінаў прылепіцца дзе-небудзь у добрых людзей унаначкі, каб потым не цягнуцца зноў па ліпеньскім сквары на пошукі. Балазе гаспадаркі ў Няміраў пасля таго, як збылі напрадвесні авечак, вобмаль: паўдзясятка курэй ды пара індыкоў. Дык і шаснаццацігадовая Дуня, адмалку нічоганясробленнем не спешчаная, дасць гэткім куртатым хатнім клопатам рады. Такой увішнай дзеўцы курэй з індыкамі накарміць ды суды** вады з ракі прынесці на каромыслах – раз плюнуць.

* Стражніца – застава.

** Суды (абл.) – два вядры.

Баба Люця Вайцюліха выпростваецца ў бурачышчы ля верхняе сушарні з пукам батоўя* ў прыполе нязменнае свае зялёнае шавіётавае спадніцы, глядзіць здаля ў Дунін бок. І хаця адлегласць паміж імі не меней за сотню метраў, Дуня скураю адчувае суседчыну злосць. Адварочваецца, каб не глядзець на зласлівіцу, ды тут жа зноў падымае галаву, агаломшаная не менш сярдзітым за Люцін пагляд знячэўным сабачым брэхам.

З-за рога сушарні выбягае Мармон, шмыгае ў разору паміж градамі. Шчанюком сабаку падабраў бабін мужык Ганэрак дзесьці на шляху з заробкаў у Амерыцы. А назваў Мармонам у гонар нейкага свайго амерыканскага прыяцеля-мармона, што быццам бы апекаваўся ім на чужыне. Хаця, хутчэй за ўсё, быў то не прыяцель, а прыяцелька: нягледзячы на пашанотны век, Ганэрак яшчэ і да нядаўняга лічыўся гулякам будзь-будзь, ніводнае спадніцы ў наваколлі не прапускаў.

Памёр жа Ганэрак Вайцюль на пачатку гэтага лета неяк зусім па-дурному – з завароту кішак, пачаставаўшыся ў Няміраў гарачым лапуном** з вымененым Зосечкай напярэдадні ў Люці на жмут воўны козім маслам. Прыйшоў надвячоркам да суседзяў адбіць на бабцы касу ды і спакусіўся дармоваю пачосткаю з прокіддзю жончынага вырабу.

Пад'еў мужчынка да смаку, а праз два дні памёр. Можа, і не сканаў бы, калі б у пару звярнуўся да доктара. Але ж заўпарціўся і застаўся праз тое без помачы. А калі спахапіўся, доктара на месцы не аказалася. Ляжаў пасля на покуці ў труне з абразікам Маці Божай у складзеных на грудзіне руках, касавурыўся з-пад прыкрытых павек на прысутных кабет.

І хаця не сказаць, каб ужо так перанялася неўспадзеў аўдавелая Люця смерцю мужа ды пачала помсціць за яе суседзям, штосьці ў яе стаўленні да Няміраў усё-такі ад таго часу памянялася.

Што ўроілася кабеціне – Бог ведае, а толькі зусім жанчына іншай стала, як была раней. Асабліва пасля таго, як знікла тыдзень таму яе каза Манюта. Мабыць, драмала-падрэмвала да часу крыўда-непрыязнасць да суседзяў у душы ў Люці з-за смерці мужа, пакуль не вылілася ў рэшце рэшт, падштурхнутая новаю стратаю, у – дай ты рады! – гэткую во страхавітую, нялюдскую злосць.

Такую нялюдскую, што, ёю, мабыць, намоўленая, вунь на якую нечуваную ў тутэйшых краях гідкасць – крадзеж – жанчына наважылася.

Ды каб жа на што вартае паквапілася дурніца! На такую нікчэмную дрэнь пагалілася Люця, што і сказаць сорам – на шчарбатую бляшаную манерку***. Дуня на ўласныя вочы бачыла, як старая, вяртаючыся праз іх

* Батоўе (абл.) – бацвінне.
** Лапун (абл.) – мучны тоўсты блін, сінонім – какора, какорына.
*** Манерка – металічная пляшка.

панадворак ад вадаспада да сваёй хаты ўвечары таго дня, калі прыходзіў у асаду Юзя, захінала над поясам кофту, быццам штосьці хавала пад ёю. Як потым вятрыска знячэўку расхінуў адзежыну, і нешта блішчастае вытыркнулася вонкі з-пад яе.

Што там яшчэ магло быць, апроч манеркі? Якраз курам вады перад гэтым за якую хвіліну падумала Дуня наліць, сюды-туды паткнулася, а манеркі няма, бы карова языком злізала. Канечне, рэч тандэтная*, ды не ў кошце ж справа.

На панадворку задушліва, як у перанапаленай лазні. Здаецца, вусны расшчапі – і ў роце зашашчыць ад гарачыні. Каты і тыя пашыліся ў цень, не чутно іх і не бачна. Затое індыкам – воля. Сядзяць разамлелыя, з растапыранымі крыламі ў пыле на сцежцы наўзбоч гародчыка, не зварухнуцца. Паспрабуеш зрушыць каторага з месца – шыі ў твой бок, упартае стварэнне, не паверне.

Дуня сыходзіць з ганка, узіраецца ў неба. Ведае: з такое спёкі глядзі, каб бяды не нарабілася. Як нарабілася два гады таму, яшчэ пры паляках, акурат во гэткаю парой, перад самым фэстам**. Хмара спадцішка ўвобміг тады насунулася, ды такі жудасны градабой з яе пачаўся – Божа літасцівы! Буслянятам на буслянцы крылы градзінамі пааббівала, а палеткі ды сады наўкола так пашкуматала, што не толькі без яблыкаў з грушамі ды сліваў к зіме, а і без зярнятка да новае сяўбы засталіся. Добра, на запыт гміннага начальства некалькі вагонаў жыта ў мястэчка палякі прыгналі, дык сяк-так пераякылі асадаўцы бясхлебіцу. Цяпер, як што падобнае здарыцца, немцы наўрад пасобяць.

Горача на дварэ, да таго ж і бязветрана, і з-за гэтага, мабыць, гул вадаспада выдае сёння яшчэ больш гучным за звычайны. Аднастайны, як надвечарковае дзвэнканне камара ля вуха, толькі шматкроць гучнейшы, ён сягае па-над прыбярэжным кустоўем, па-над вяршыняю Чырвонае гары, мкнецца далей у накірунку Дзвіны. Далятаць да самай ракі, вядома, не далятае, хаця Янушак і казаў неяк, быццам чуваць яго і аж там, быццам сам неаднойчы на ўласныя вушы чуў яго ад прыстані.

Баба Люцця вылазіць з градак, ідзе да сушарні. Што яна там робіць у сушарні, Дуні не бачна. Але па глухіх згуках сячкарні няцяжка здагадацца: рыхтуе сечку для птаства. Цяпер гэта пасля таго, як прапала Манюта, адзіны клопат старой, якому аддаецца яна даастатку. Так дазвання, бядачка,

* Тандэтны (разм.) – танны.
** Фэст – касцёльнае ці царкоўнае прастольнае свята.

аддаецца, што, здаецца, адбяры ў яе гэты клопат – і жыццё кабецiны цалкам страцiць сэнс.

Сцеражэ Люця адзiную сваю радасць, што засталася па згубе гарэзы Манюты, ды з кожным днём усё больш адгароджваецца ад людзей завесаю суровасцi. Помач прапануеш – наадрэз адмовiцца. На любы зварот адзiн адказ у яе: “гыр!” ды “гыр!”, i слова насуперак, барані Бог, не скажы.

Усё адно як шалёная муха ўкусiла жанчыну, ды праз тое душа мохам незычлiвасцi да ўсяго жывога, апроч курэй, пачала абрастаць.

Куды падзелася тыдзень таму дойная Манюта, нiхто не ведае. Можа, ваўкi ўначы сцягнулi, можа, злодзей якi звёў. Додня, калi ўсе спяць, пад’ехаў да сушарнi, стрыножыў жывёлiну пад грукат вады, у рэдалi* паклаў – i бывайце здаровы. Страта нежартоўная, пад два лiтры малака штодзень каза давала пасля таго, як прадалi Ганэрак i Люця трохмесячнае казляня. I малако ж якое было – праўдзiвы лек. А ўжо колькi радасцi прыносiла Манюта сваiмi свавольствамi ў аднастайнае жыццё не толькi гаспадароў, але i iх суседзяў, – не злiчыць.

I вось на табе – прапала козачка. I ўсё гэтае нялюдскае неяк увадначас апошнiм часам у асадзе здарылася: Юзя знiк, затым каза прапала, потым дробязь гэтая нiкчэмная, пагбаная старая манерка, – цьфу на яе! – быццам бы згубiлася, а насамрэч у сквапныя Люцiны рукi перайшла.

Юзю Дуня бачыла апошнi раз таксама тыдзень таму, калi той прыходзiў дахаты па бялiзну. Сказаў, немцы прычапiлiся, каб цi ў самаахову гэтую iхнюю iшоў, цi ў Нямеччыну збiраўся. Маўляў, такi загад цяпер – выбiраць адно або другое, i не падпарадкавацца яму не выпадае, калi жыць не надакучыла. А хлопцу, вядома справа, нi туды, нi сюды не хочацца, дык перачакаць надумаўся.

Хацеў застацца ў хаце на колькi дзён, ды, як убачыў здаля на сцежцы ля Люцiнай хаты Зiмака, шнiткi** спехам пасёрбаўшы, вандзэлак з бялiзнаю аберуч схапiў i збег. А куды, у якiя прочкi падаўся – Бог адзiн ведае. Бо па сёння анi разу не азваўся.

Бродае Дуня ўначы ля сушарняў у надзеi, што, можа, прыбiўся брат звечара да каторай у пошуку зацiшнейшага-цяплейшага кутка, ды ўсё дарэмна. Як у ваду кануў Юзя.

Сушарняў пры вадаспадзе дзве. Адна, большая, накшталт адрыны, хаваецца ў засенi асiн паблiзу моста. Другая, меншая, у выглядзе звычайнай

* Рэдалi (абл.) – вiд калёсаў.

** Шнiтка – шматгадовая травянiстая расліна сямейства парасонавых, тут – у значэннi страва са шнiткi.

загародкі з адкідным бляшаным дахам на выпадак непагадзі, месціцца на вяршыні пагорка метраў за дзвесце ад Вайцюлёвай хаты. Абедзве – напамін пра кардонную фабрыку, што дзейнічала тут год за пяць да вайны, перад тым, як была перароблена на млын. У абедзвюх кардон даводзілі да ладу перад адпраўкаю ў Вільню. Цяпер першая служыць Нямірам схронам для рознага гаспадарчага начыння, другая, што да нядаўняга з'яўлялася стойлам для Манюты, – катухом для курэй і індыкоў.

Хаця ні шашкоў, ні лісаў у наваколлі не чуваць, заганяюць Няміры курэй і індыкоў у загародку штовечар. Бо, крый Бог, заявіцца ўначы шэры ці руды бандзюк, парэжа птаства. І не гэтулькі зжарэ ён тае індычаціны ці курацiны, колькі пусціць, нягоднік, на зглум. Горла перагрызе няшчаснай ахвяры, два разы кусне і дасць лататы. І бывайце тады і яйкі на снеданне, і пер'е на падушкі. А гэта цяпер, калі пасля збыцця авечак і на цёплыя шкарпэткі ды ісподкі з валёнкамі к зіме надзея ляснула, вунь якая была б бяда.

А найгорай, як прыцягнуцца прыцемкам з кустоўя ды пачнуць шнарыць па падвор'і ліхія людзі. Ад гэтых ужо ніякая загародка не ўратуе. Абскубуць гаспадарку да паўсціны ды яшчэ і зброяй перад носам, шмайсерамі* сваімі, намахаюць. Настрашаць так, што крыкам уласным пасля, узгадаўшы ўсё тое ў сне, захлынешся. Хаця і не чужыя людзі, яшчэ нядаўна плыты з асінавымі качурамі на кардон разам пераймалі ды арэхі ўвосень па кустоўі хаўрусам лушчылі.

І вось – забыта прыяцельства-сяброўства, як яго і не было. Так грунтоўна забыта, што, здаецца, ніколі ўжо яму не адрадзіцца.

Сям'я Няміраў мяшаная. Янушак каталік, Зосечка – праваслаўная. Да шлюбу дзяўчына адгукалася на імя Зоя, ды, пабраўшыся з сімпатычным абыходлівым іншаверцам, дзеля суладдзя ў сям'і згадзілася перарабіцца на Зосю.

А вось дзецям-пагодкам імёны, каб крыўдна ні аднаму, ні другому не было, сужэнцы далі адпаведныя веры кожнага. Дачку, паводле праваслаўнага іменаслову, Дуняю назвалі. Сына, паводле каталіцкага, – Юзем. Хацелі Дзісікам, то бок Здзіславам, хлопца назваць, ды ксёндз-паляк, дзякуй яму, адгаварыў. Маўляў, імя дазвання іншаземнае, тутэйшага адпаведніка не мае, то лепш пры сваім заставайцеся, без вас палякаў хапае. Ужо потым, як касцёл у мястэчку па прыходзе саветаў зачынілі, вядома стала, што гэта пад уплыў мясцовага паходжання святароў гэтак патрапіў той польскі ксёндз, пераняўся справамі тубыльцаў.

За час, пакуль працаваў у асадзе пры паляках млын, кім толькі Янушак пры ім ні набыўся. З раніцы да позняга вечара ў справе, не прадыхнуць.

* Шмайсер – пісталет-кулямёт.

Завознікаў з мяхамі збожжа на падводах ды жыдоў-перакупшчыкаў як наедзе каторы раз – аж цёмна на дварэ ад людскіх паставаў ды ўспацелых конскіх крупаў. А ад лязгання колаў па бруку часам ажно вушы закладвае. А ўжо працы заўсёды – і наогул век свой[*] вышэй галавы. Добра, як да заходу сонца дасі ўсяму рады ды выкраіш хвіліну буч*ы*[**] па вірах павытрасаць.

Малоць, вальцаваць, пытляваць зерне – глузды кругам, не прадыхнуць. А яшчэ ж воўну часаць, што нанясуць-навязуць з усяго наваколля, а яшчэ ж начынне млыноўскае чысціць. Ад пахаў мукі ды воўны так за змену ачмурэеш, так яны цябе з галавы да ног абвалакуць, што ніякіх іншых і адчуваць не дасі рады. Адзінае станоўчае пры гэткай пякельнай мітусні – заробак неблагі. Дык і трываў Янушак: трыццаць пяць злотых на дарозе не валяюцца. Сам трываў і дзецям трывушчасць, як мог і ўмеў, прышчэпліваў. То і нездарма выраслі абое, што сын, што дачка, непапушчы[***] бацька, трывушчымі. Асабліва Юзя.

Хлопец, што з твару, што з паводзінаў, – акурат Янушак. І гэткі ж спраўны ды ўчэпісты, дарма што яшчэ падлетак. Не пусці павалюся. Вось збожжам налаўчыўся гандляваць. Скупляюць на п*а*ру з колішнім аднакласнікам па навакольных хутарах збожжа, возяць прадаваць за Дзвіну, у Латвію. Да ракі на тачцы валакуць мяхі, праз раку на лодцы перавозяць. Здараецца, што і па колькі дзён дахаты з заробкаў увішныя хаўруснікі не вяртаюцца. Начуюць у задзвінскай цёткі-ўдавы, стрыечнай Зосеччынай сястры Лёдзі. Там жа і харчуюцца за сякую-такую – дроў напілаваць-нашчапаць ці ў агародзе што зрабіць – помач па гаспадарцы. Гандаль так сабе, ды, глядзіш, на сякую-такую абнову і наскрабецца. Вунь штаны сабе крамныя картовыя справіў Юзя замест калючых самаробных ільняных. Зосечцы і Дуні па хусце купіў.

Спраўны Юзя, ды матцы з сястрою праз такую ягоную спраўнасць – адны турботы. Па-першае, Дзвіна наравістая, дык ці мала што можа здарыцца на ёй? Віхура каторага разу як заспее пасярод ракі, узляцеўшы знянацку, то адно і глядзі, каб не патанулі мальцы разам з мяхамі. Каму-каму, а Зосечцы не аднойчы такое пагражала.

Апошнім разам – год пяць таму, калі з пошты з латвійскага боку вярталася. Лодка перакулілася, і добра, вецер хутка сціх, дык дагрэбла да берага. Нават лістоў з далоні не выпусціла, так Бог памагаў, а магло ж і іначай стацца. Па-другое, гарнізон нямецкі адразу за ракою, у прыбярэжных Кошкаўцах, месціцца, і чорт ведае, што тым фашыстоўцам у галаў стрэльне. Пачнуць страляць наўздагон, паспрабуй тады ўнікнуць іхніх дурных куляў.

---

* Век свой (мясц. фразеал.) – увесь час.

** Буч – рыбалоўная снасць у выглядзе круглага каша з лейкападобным уваходам.

*** Непапушчы (абл.) – акурат, якраз.

Неаднойчы чула Дуня, як Зосечка намаўляла Юзю кідаць небяспечнае гэтае гандлярства ды заставацца дома. Дзе там! Паслухаць паслухаў, а зрабіў усё адно па-свойму. Бо наравісты акурат не менш за тую страхавітую дзвінскую ваду.

Дахаты вярнуўся, каб перачакаць у надзеі, што, можа, забудуцца немцы на яго, аж тут – Зімак. Спужаўся, мабыць, што ўдасць чужынец, і знік. От дурань, мог бы ж і застацца. Няўжо ж яна, Дуня, калі што якое, не знайшла б куды брата схаваць? Вунь хаця б у гроце на вадаспадзе можна было б. А то во яшчэ лепш – у будане, што з маткаю збудавалі.

На грот у вадаспадзе Дуня натрапіла выпадкова, падчас вуджання акунёў. Замест акуня трапіў на зазуб мянтуз, хвастом матлянуў у празрыстай вадзе і даў лататы пад плаціну. Панізу плаціны камяні, дык, мабыць, вырашыў, хітраван, сярод іх паратунку шукаць. Залёг, цешыцца, што надзейна схаваўся.

Дуня боўць у ваду, рукою шмаргель па муры ў пошуку лёсы – чуе, быццам выемка нейкая пад вадой. Вымыла яе струменямі, тую выемку, ці то праз недагляд будаўнікоў яна тут з'явілася – невядома, але ладны такі, з паўметра ўшыркі, закуток пад патокам вады ўтварыўся. Як след сціснешся, дык акурат цалкам, усім целам і змесцішся ў ім, прыхінуўшыся грудзьмі ці, наадварот, спінаю да аблепленага цінай і багавіннем каменя. Так дазвання зліешся з ім, што і не ўгледзіць ніхто цябе звонку па-за воднаю завесаю. А ты, наадварот, усё, што па-за ёю дзеецца, будзеш са схрону свайго бачыць.

Лёсу намацаўшы, ментуза, аднак, тым разам рады не дала ўтрымаць Дуня: адарваўся, слізняка, разам з зазубам, калі таргала з-пад каменя. Засталася з папсаванаю вудаю руках, без рыбіны, затое вось куды больш цікавае нешта – грот – неўспадзеў апышкала. Хіснулася зноў пад халаднаватыя струмені, ускулілася ніцма на мур. Праўда, зусім нядоўга так стаяла, бо сцюдзёна зрабілася.

Вымкнулася вонкі. Глядзь угору, а там на мосце… Зімак з папяросінай у зубах спінаю да яе стаіць. Дымам пыхкае ды з нагі на нагу, бы тое цяля ў чаканні матчынай цыцкі, раз-пораз пераступае.

І так раптам захацелася Дуні азвацца, каб павярнуўся тварам ды падзівіўся з яе нечаканага з'яўлення, што ажно дыханне ёй перахапіла. Так штосьці неўспадзеў абудзілася ў ёй дагэтуль нязнанае, мройліва-зваблівае, так закарцела ёй ступіць насустрач невядомаму раней пачуццю, што ледзь не ўскрыкнула яна ад абурэння на саму сябе.

Ці не таму, ледзь сцепануўся Зімак, каб памяняць, мабыць, позу, зноў яна шмыганула ў нагледжаны закуток за вадзяною завесай. І вылезла з яго толькі тады, калі ён прэч пайшоў.

Сонца вісіць колькі часу на адным месцы, боўтаецца ў пройміну паміж вяршыняю Чырвонае гары і шыхтам дубоў наўзбоч яе. Вечарэе, і спякота, як заўсёды, калі цень накрывае асаду, адразу саступае прахалодзе, што спачатку нясмелымі хвалямі, а затым усё больш рашуча павявае ад вады. Той доўгачаканай свежасці, якой так бракуе ў гэткія во, як сёння, задушлівыя летнія дні абгароджанай з усіх бакоў узгоркамі і кустоўем асадзе. Але гэта – тут, у лагчыне побач з вадаспадам. На гары ж, дзе нават Мармона штосьці не бачна, па-ранейшаму сонечна.

Зімак выходзіць са сваёй паловы хаты на двор, сунецца да вадаспада. Але доўга пры вадзе не бавіцца, адразу ж зварочвае ўлева, ідзе берагам ракі ў накірунку Закуцця, нешырокай лыткі папасу наўзбоч лазовага зарасніку пры Халуі метраў за трыста ад хаты. Акурат да таго зацішнага, недасяжнага староннямy воку тупіка паміж берагам ракі і пагоркам, дзе месяц таму Дуня з Зосечкай, напалоханыя ледзь не штодзённымі візітамі немцаў, зладавалі ў хмызе з аполкаў і фабрычных кардонін, што знайшлі на гарышчы, буданчык.

Перанеслі цішком, употай ад бабы Люці кардоніны ў Закуцце, прымацавалі пругкімі вырасткамі хмелю адну да адной ды, склаўшы стрэшкаю, сціснулі звонку і з ісподу аполкамі і камлямі арэшын, прыкрылі зверху кавалкам цыраты – і зусім прыстойны атрымаўся схоў. Можа, і не такі надзейны, як хацелася б, а ўсё ж схоў. Галоўнае, наводшыбе, не як у той сушарні, дзе сядзіш, бы на дозарках, і не тое што крох ступіць – варухнуцца баішся. Зручны сховік: ад хаты блізка, а паспрабуй знайдзі яго... Нават і ўголас гаманіць у ім можна, бо з-за грукату вады на вадаспадзе ні гуку там не пачуеш. І вось акурат туды, да таго самага схрону, і пасунуўся цяпер Зімак.

Зразумела, нічога там цікавага, апроч камар’я ці іншага якога гнюсу, што, мабыць, натачыўся ў будан, хаваючыся ад сонца да пары, як з’явіцца шанц наталіць смагу, джгнуўшы каго-небудзь у скуру, няма, ды ўсё адно нядобра. Як любіў казаць нападпітку падчас сваркі з Люцяй нябожчык Ганэрак, благое вока і за самы дурны язык горш. Ды і ці мала што можа быць наўме ў гэнага прывабнага, ды ўсё-такі чужынца Дзячка?

Дуня прыспешвае хаду, каб не прапусціць момант, калі Зімак паверне з Халуя на Закуцце, але дарэмна. Маладзён абмінае прыбярэжную касу, крочыць далей, у накірунку броду на другі бераг. Крочыць хутка, ледзь не подбегам, ажно кашуля ўздымаецца пухіром у яго на спіне. Так што пакуль Дуня дапінае следам за хлопцам да касы, ён ужо, напалохаўшы бусла, што ашываецца тут у пошуку харчу, хаваецца ў хмызе на тым беразе.

“Ну, дзякуй Богу”, – думае яна і зварочвае на ледзь бачны ў траве пасак прыбітае травы ў накірунку будана.

Будан на месцы. На месцы і ўсе прычындалы, што яны з маткаю пры ім пакінулі, калі, стомленыя, пакідалі мясціну, прыкрыўшы збольшага схоў галінамі хмызу.

Усё гэтаксама, як і было, але сёе-тое і вельмі нават не гэтак. Купка бэбахаў, што невядома якім ветрам сюды занесла, на доле ў пуку святла паміж камлямі будана... Відэлец з лыжкаю ў шчэлцы паміж галінкамі...

А гэта што? Спражка ад рэменя, акурат такая, як тая, што яна, Дуня, у перадапошні братаў надвячоркавы прыход дадому па ягонай просьбе да рэменя прышывала. Яшчэ голкі тады, памятаецца, не знайшла, дык шаршаткаю давялося прычэпліваць да тканіны, чыста пальцы скалола ў прыцемку без напарстка.

А самае дзіва – дай рады! – манерка наўзбоч увахода, акурат тым месцам, да якога лёгка ад разасланых на доле бэбахаў рукою дацягнуцца. І – ні душы. А галоўнае, да радасці Дунінай, – ні следу барацьбы нідзе. Быццам вось проста так сабе падняўся чалавек вольна ўранні з месца, папіў з манеркі вадзіцы (а лепш, вядома, – малачка ад казы Манюты), выслізнуў са схрону ды і растварыўся ў прырэчным тумане.

Быў – і не стала яго. А што за чалавек, і як імя ягонае – ніколі, пакуль на ўласныя вочы не ўбачыш, не даведаешся. Убачыць жа – справа нялёгкая. Бо як раптам малады ды на ногі спрытны, паспрабуй ты яго ўпалюй.

Дуня падхоплівае манерку, вылазіць з будана, ідзе кустоўем да Халуя. Адтуль, прыхоўваючыся па-за густымі зараснікамі арэшніку, – да асады. І толькі паспявае збольшага аддыхацца ля хаты пасля хуткае – подбегам ды подбегам – хады, як і Зімак ступае на панадворак. Акурат туды, дзе ўжо падчэквае іх абаіх, лушчыць у прыпол набраныя падчас двухдзённае вандроўкі па наваколлі струкі гароху Зосечка.

– Баба Люцця... Люцына гэтая ваша, халера яе, якая лютая кабеціна, – кажа Зімак. – Іду гэта берагам, глядзь: валачэ праз Халуй казу на вяроўчыне. Тая ўпіраецца, а яна тузае нябогу штосілы, ды лаецца, ды розгаю па баках лупцуе. Запытаўся жартам, дзе хавала гэтулькі дзён жывёліну, дык так на мяне глянула – усё адно як варам абліла. Лепш бы не чапаў...

– Анягож, так табе Люцця і паспяшаецца праўду сказаць... З Люцяй не толькі староннняму, а і свайму хіба што ў маўчанку адно гуляць. А калі яшчэ і занатурыцца бабця, дык хоць страляй тады яе – не адгукнецца. Ну, але затое і кашалёў розных, як іншыя, не напляце. Вунь як ужо ні дапытвалі яе немцы наконт Янушака – каб слова лішняе прамовіла, – кажа Зосечка і глядзіць здзіўлена на манерку ў Дуніных руках. – Во, бач, і пасудзіна

знайшлася. А грашыла, дачка, надоечы на старую: скрала, маўляў… Аж, бачыш, адшукалася твая бляшанка. Дзень цудаў, далібог.

– Дзень цудаў, ага, – кажа Дуня і глядзіць у кірунку верхняе сушарні, дзе бавіцца з Мармонам – то падскокне, матляючы набраклымі дойкамі*, гарэзліва ўгору, то ўпадзе на пярэднія ногі, то хіснецца ўбок – шчаслівая Люціна знаходка – каза.

Баба Люця выходзіць з рэзгінамі ў руцэ з сушарні, абрываючы раз-пораз вокрыкам вясёлыя Манюціны шалы, сунецца на ўскраек агарода па скошаную два дні таму атаву. Сена, мабыць, яшчэ ваглаватае, ды старажыхарку асады гэта не бянтэжыць: у сушарні на скразняку яно нават хутчэй, як дзе-небудзь на прыпёку, дойдзе.

* Дойкі (абл.) – цыцкі.

# Праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі жыхароў паўночна-ўсходняй Віцебшчыны і прылеглых да яе тэрыторый у сшытках выдавецкай серыі “Нашы касцёлы” Д. Банчкоўскага і Я. Жыскара

Першы польскамоўны сшытак выдавецкай серыі “Нашы касцёлы” Дыянізія Банчкоўскага (1868–1953) і Фрыдэрыка Язафата (Юзафата) Жыскара (1868–1919), прысвечаны касцёлам і парафіям* Магілёўскай архідыяцэзіі**, убачыў свет у 1912 г. Як пішуць самі выдаўцы ў прадмове да серыі, апроч сшыткаў пра згаданыя святыні і іх супольнасці, мелася на мэце яшчэ і выданне сшыткаў пра касцёлы і парафіі Віленскай і Луцка-Жытомірскай дыяцэзій, а таксама пра касцёлы Паўночнай Амерыкі.

І хаця, як бачна з той жа прадмовы, праект павінен быў нагадаць усім палякам пра іх “агульнасць і еднасць” (тут і далей цытаты падаюцца па-беларуску ў перакладзе аўтара з польскай мовы. – *Ф. С.*), яго вартасць і ў плане рэпрэзентацыі рэлігійнага, гаспадарчага ды культурнага жыцця тагачаснага аўтахтоннага (беларускага) насельніцтва паўночна-ўсходняй часткі нашага краю таксама не падлягае сумневу.

Бо пададзены ўсе згаданыя сферы бытавання нашых продкаў даволі дэталёва і, што важна, без уласцівага некаторым тагачасным і пазнейшым навукоўцам памкнення рабіць гэта выключна ў святле калі не наўпроставага, дык ускоснага, і часам надта ж безапеляцыйнага, прылічэння тубыльцаў да чужога – расійскага або польскага – этнасу. Таму пры ўсёй польскацэнтрычнасці выдання для нас, беларусаў, яно з’яўляецца каштоўнаю крыніцай звестак і менавіта пра нашу айчынную, беларускую мінуўшчыну.

Пакінуўшы па-за межамі гэтага нарыса спрэчныя пытанні адносна аўтарства асобных частак працы і яе будовы, якія падрабязна выкладзены аўтарамі ўводзінаў да рэпрынтнага выдання “Нашых касцёлаў” 2001 года, а таксама закіды некаторых сучасных айчынных палітолагаў пра жаданне дзеячаў кшталту таго ж Я. Жыскара выдаць сябе за гарачых добразычліўцаў і абаронцаў беларусаў, у той час, як насамрэч яны такімі, маўляў, не з’яўляліся, засяродзімся на яе змесце.

---

* Парафія – акруга, тэрыторыя, якая адносіцца да аднаго касцёла; прыход.

** Архідыяцэзія, архіепархія (грэч.: αρχή – галоўны, старэйшы і грэч. – ἐπαρχία) – царкоўная тэрытарыяльна-адміністрацыйная адзінка; епархія, узначаленая архібіскупам.




*Вокладка 3-й часткі 1-га тома рэпрынтнага выдання серыі “Нашы касцёлы” 2001 г., прысвечанай касцёлам і парафіям Віцебшчыны.*

Першае, што адразу кідаецца ў вочы пры чытанні сшыткаў, – насычанасць іх старонак лексікай (зразумела, у напісанні па-польску) з прыкметамі “тутэйшасці”: Беларусь, Белая Русь, Віцебшчына беларуская, беларус, беларусін і інш.

Другая, не менш важная акалічнасць, – грунтоўнасць апісанняў касцёльнага жыцця ў цеснай сувязі з гэткім жа грунтоўным адлюстраваннем жыццядзейнасці насельнікаў архідыяцэзіі, што ў немалой ступені стала магчымым праз набыццё адным з аўтараў, Я. Жыскарам, пэўнага досведу на гэты конт падчас яго вандровак па Беларусі ў часы праследу тут уніятаў і душпастырскай працы вікарыем у мястэчку Сянно на Магілёўшчыне (цяпер райцэнтр* Віцебскай вобласці).

Праца “Архідыяцэзія Магілёўская” з тэрыторый сённяшняй Віцебшчыны ахоплівае яе ўсходнюю частку, якая адносілася на час выхаду сшыткаў не да Віцебшчыны, а да Магілёўшчыны (Аршанскі і Сенненскі дэканаты**, і ўласна Віцебшчыну, да якой, апроч сённяшніх віцебскіх земляў, аднесеныя, паводле тагачаснага тэрытарыяльнага падзелу, Прыдруйск (тады – Дрысенска-Себежскі дэканат, сёння – Піедруя, Краслаўскі край,




*Пліта на сімвалічнай магіле ксяндза Аляксандра Астрамовіча (Андрэя Зязюлі) на могілках у Сянне. Здымак В. Мядзюхі. 2022 г.*

* Апошні з раённых гарадоў Віцебшчыны, дзе да нядаўняга часу не было сталай каталіцкай святыні. Новы касцёл Святой Тройцы, пабудаваны тут на месцы разбуранага ў 1962 г. даўнейшага, кансэкраваны 17 вер. 2022 г. У 1919–1921 гг. пробашчам тутэйшай парафіі з’яўляўся ксёндз Аляксандр Астрамовіч (нар. у 1878 г., псеўд. Андрэй Зязюля), які памёр у 1921 г. і пахаваны на мясцовых могілках.

** Дэканат – частка касцёльнай дыяцэзіі (епархіі), якая аб’ядноўвае размешчаныя побач парафіі (прыходы).

Латвія), Себеж, Невель, Веліж (сёння раённыя цэнтры адпаведна Пскоўскай і Смаленскай губерняў Расійскай Федэрацыі).

Да касцёлаў Мінскай дыяцэзіі, якая на вокладцы арыгінала памылкова названая архідыяцэзіяй, з касцёлаў сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі аднесены касцёл у Докшыцах (частка гэтага мястэчка адносілася тады да Барысаўскага дэканата, частка – да Параф'янаўскага). У якасці гістарычных месцаў кампактнага пражывання беларусаў, апроч пералічаных, аўтарамі згадваюцца часткі Віленскай і Валынскай губерняў.

Найбольш поўнае апісанне рэлігійнага і ў цеснай лучнасці з ім – штодзённага свецкага жыцця беларусаў чытач знойдзе ў адмысловым раздзеле (частцы) “Беларусь” (Białoruś). Паводле яго, беларусы цёмныя і неадукаваныя, пастаянная іх спадарожніца – беднасць, якую аўтары тлумачаць, сярод іншага, спрадвечнаю залежнасцю тутэйшага люду ад больш моцных і не заўсёды прыязных ды зычлівых, што нават “не хочуць дазволіць народам звацца”, суседзяў. Курная хата без коміна, сярмяга, кажух, саматканая кашуля, лапці – такім паўстае беларус перад вачыма вандроўніка або іншаземца.

“Шэра, шэра і шэра на беднай Беларусі… Шэра, бо і ўсё жыццё шэрае” – гучыць лейтматывам напрыканцы першай часткі працы ў раздзеле-падсумаванні “Агульны погляд на Магілёўшчыну”. І зноў каторы раз называецца прычына “шэрасці”: геаграфічнае становішча, вынік якога – пастаянная залежнасць ад больш моцных суседзяў, нішчанне ўмоў для развіцця матэрыяльнага, культурнага, нацыянальнага жыцця беларуса.

У раздзеле “Беларусь” шмат месца займаюць развагі пра тое, што найперш рэпрэзентуе насельніцтва як народ, нацыю, – беларускую мову. Ці гэта мова самастойная, ці, можа, як некаторыя даводзяць, – сапсаваная расейская?

Шукаючы адказу на такое пытанне, аўтары працы звяртаюцца да гісторыі часоў Вялікага княства Літоўскага, дзе яна з'яўлялася дзяржаўнай, і да тых абставінаў, што паспрыялі яе пазнейшаму заняпаду. Пры гэтым не абмінаюць даследчыкі і такога пытання, як дзіўнае стаўленне саміх беларусаў да ўласнае мовы ў касцёле, напрыклад, ва ўзаемадачыненнях паміж вернікам і святаром.

“Заўсёды ў штодзённым жыцці беларус карыстаецца роднаю мовай, але толькі не ў касцёле. Там ён і моліцца, і спавядаецца, і хоча слухаць казанне па-польску. (…) З ксяндзом беларус жадае размаўляць па-польску і жадае, каб ксёндз да яго па-польску прамаўляў, іначай абражаецца”. (…) “Каталікі, якія размаўляюць па-беларуску і нават мала разумеюць па-польску, хочуць кніжку польскую. Адчуваюць у ёй штосьці сваё, каталіцкае, а беларуская кніжка здаецца ім чымсьці штучным, падробным, некаталіцкім”.

І так – шмат дзе на беларускіх абшарах. Выключэнне, паводле аўтараў, складаюць дзве парафіі – Фашчаўка* (польск. – Faszczówka, у сучасных спісах па-беларуску з націскам на першым складзе. – *Ф. С.*) і Ула**, дзе здаўна навука (казанне) у касцёле прамаўляецца па-беларуску.

Вось як піша, напрыклад, Я. Жыскар пра жыхароў вёскі Фашчаўкі: “Люд вакол не гаворыць па-польску, а захаваў чыстую сваю беларускую мову. Вялікія намаганні прыклалі езуіты***, каб не страціў ён сваёй мовы. Выдалі беларускі катэхізм, прамаўлялі да народу казанні ў ягонай мове, у касцёле вялі беларускія спевы. І сёння яшчэ кожны селянін дасканала ўмее спяваць беларускую песню “Ах, мой Божа! Веру Табе”, і … велічнае ўражанне робіць, калі аграмадная сціжма**** народу, ідучы на фэст, як бы адною груддзю заспявае, і гэтая прыгожая мелодыя поўніць і могілкі, і святыню. Фашчаўка да такой ступені захавала свой нацыянальны беларускі характар, што па сёння яе жыхары апранаюцца ў беларускі строй. Спадніца з простай саматканкі, белая кашуля з вышыванкай, адмысловы спосаб павязвання хусткі на галаве – вось тыповы строй кабеты з Фашчаўкі…”

Адзначаючы незразумелае стаўленне тутэйшых людзей да роднае мовы ў касцёле, аўтары разам з тым фіксуюць яе, так бы мовіць, канкурэнтаздольнасць у стасунках з носьбітамі іншых моў. Так, аналізуючы касцёльнае жыццё ў памежнай парафіі Замошша***** Дрысенска-Себежскага дэканата, яны пішуць: “Дзіўную з’яву можам назіраць на мяжы з Латвіяй. Хаця латыш матэрыяльна і культурна знаходзіцца вышэй за беларуса, бачым, аднак, пэўную перавагу беларусаў. Латыш мае і сваю літаратуру, і казанні ў роднай мове, і сваіх святароў, што прамаўляюць на яго мове, а беднаму беларусу ўсяго таго бракуе, аднак, ён мае перавагу, і ўсё больш і мова яго і перавага сягаюць клінам за межы Белай Русі ў Латвію. Чым гэта можна вытлумачыць? Можа, тым, што, хаця не надта вялікая культура беларуса, мае ён за сабою ў пэўным сэнсе культуру гістарычную…” Гістарычную – гэта значыць культуру пары ўваходжання спрадвечных беларускіх земляў у склад усё таго ж Вялікага княства Літоўскага.

Не абыходзіцца ў гэтай частцы апісанняў і без кампліментаў на адрас непасрэдных носьбітаў мовы: “Звычайна так дзеецца той працэс: беларускія дзяўчаты прыгажэйшыя і лепш выхаваныя… Латышы ахвотна бяруць іх у жонкі, а тады ўжо ў хату ўваходзіць мова беларуская (часцей польская), а латышская нікне. Тое самае можна сказаць і пра хлопцаў:

---

* Фашчаўка – цяпер аграгарадок у Шклоўскім раёне Магілёўскай вобласці.

** Ула – цяпер Лепельскі дэканат Віцебскай дыяцэзіі.

*** Езуіт – манах каталіцкага ордэна “Таварыства Езуса”.

**** Сціжма (разм.) – вялікая колькасць, мноства.

***** Замошша – вёска, цэнтр Замашанскай воласці, цяпер у складзе вёскі Савейкі.

лепш апранаюцца, маюць пэўны шык, пэўную перавагу перад латышом, таму ахвотней глядзяць на яго латышскія дзяўчаты”.

Аднак стасункамі беларусаў толькі з латышамі (ці літоўцамі) у месцах кампактнага пражывання апошніх справа не абмяжоўваецца. Вялікую частку насельніцтва (часам больш за палову, а, напрыклад, у Бешанковічах і яшчэ больш – чатыры тысячы з пяці) мястэчак, гарадоў і нават вёсак Магілёўскай архідыяцэзіі складаюць яўрэі. І іх устойлівасць да асіміляцыі ў спалучэнні з паўсюдным галавенствам у такой важнай сферы жыцця, як гандаль, развіццю беларушчыны, канечне, не спрыяе.

Галоўная ж праблема – традыцыйна больш высокае становішча ў касцёле польскай мовы. Так, тыя ж замошскія вернікі, ахвотна ўжываючы дома беларускую, у касцёле аддаюць перавагу польскай. Свойчас замошскі пробашч* Багдановіч зрабіў спробу абеларусіць парафіяльнае жыццё, ды новаўвядзенне трывала нядоўга. Бо і самога пробашча, на жаль, ненадоўга хапіла, і парафіянаў – таксама.

Кволы прамень надзеі, аднак, канчаткова не згаснуў. У тым жа выніковым раздзеле 1-й часткі “Нашых касцёлаў” аўтары заўважаюць: “Беларуская мова толькі ў апошнія гады пачынае развівацца (у сэнсе здабываць належныя пазіцыі ў касцёльным жыцці. – *Ф. С.*), беларуская кніга пачынае знаходзіць месца на паліцах бібліятэкі, але толькі сярод людзей заможных, абываццеляў і інтэлігенцыі – няма яе яшчэ ў хаце вяскоўца”.

І гэта пры тым, заўважым, што абсалютную большасць вернікаў-каталікаў у архідыяцэзіі (32633 з 50159) складаюць менавіта беларусы.

Што да тэмы ўзроўню адукаванасці (граматнасці) нашых продкаў, дык, паводле аўтараў “Нашых касцёлаў”, самымі граматнымі з вясковых парафіянаў на абшарах Магілёўскай архідыяцэзіі з’яўляліся вернікі памежнага Прыдруйска. “Усе тут умеюць чытаць. Жанчыны ўсе, а з мужчын – пераважная большасць”. Зразумела, не на апошнім месцы ў гэтым плане і католікі буйных гарадоў: Віцебска, Полацка, Оршы.

А вось, да прыкладу, у Лепельскім дэканаце, быццам насуперак наяўнасці тут дыхтоўных касцёлаў, “траціна дзяцей ледзь умее чытаць…” Выключэнне – усё тая ж Ула, дзе становішча нашмат лепшае дзякуючы стараннням пробашчаў Юрыя (польск. – Ежы) Мотуза**, які асабіста вучыў парафіянаў чытаць, пазней – Уладзіслава Мяжвінскага*** і куды, паводле ксяндза Адама Станкевіча (ст. ст. 1891, н. ст. 1892–1949), любіў прыязджаць з Полацка з беларускімі казаннямі ксёндз Францішак Будзька (1884–1920),

* Пробашч – кіраўнік парафіі, настаяцель.

** Працаваў у Уле ў 1856 і 1864 гг. Паводле аўтараў “Нашых касцёлаў”, пахаваны пры фундаменце касцёла святой Барбары ў Віцебску.

*** Працаваў у Уле ў 1901 г., даты нар. і смерці аўтарамі не падаюцца.

спадкаемца справы знакамітага беларусізатара касцёла мяжы XIX–XX стагоддзяў, біскупа-суфрагана* Магілёўскай архідыяцэзіі Стафана Дзенісевіча (1836, пав. інш. зв. 1834–1913).





*Ксёндз Юры (Ежы) Мотуз і яго захаванне пры фундаменце касцёла святой Барбары ў Віцебску. Крыніца: Nasze Kościoły.*

Калі ж параўноўваць узровень адукаванасці тагачасных католікаў з узроўнем праваслаўных, што, безумоўна, на тутэйшых абшарах колькасна пераважаюць, то, на думку тых жа аўтараў, вышэйшым ён, канечне, будзе сярод першых.

Асобна варта сказаць пра прысутнасць на старонках выдання ўласна беларушчыны, якая прадстаўлена тут у той ступені, якой дастаткова, каб толькі збольшага зразумець, пра які край ідзе размова.

Гэта, па-першае, вытрымкі з выказванняў жыхароў пэўных мясцін пра родную мову.

Па-другое, передрук лацінкаю беларускай народнай песні “Цераз двор зялёненькі” з нотамі Грыневіча са збору “Беларускія песні” ў якасці ілюстрацыі да тэмы беларускага жыцця ў раздзеле “Беларусь”. І там жа, мабыць, з мэтаю праілюстраваць адметнасць нашай мовы, – пара сказаў з “Пана Тадэвуша” А. Міцкевіча.

* Біскуп-суфраган – біскуп дыяцэзіі ў складзе архідыяцэзіі.

Па-трэцяе, абвестка пра выданне ў 1913 г. у Вільні беларускамоўнай газеты для беларусаў-католікаў "Biełarus" і пра магчымасць набыць пры рэдакцыі беларускія каталіцкія (лацінкаю) выданні "Кароткая гісторыя святая", "Кароткі Катэхізм", "Бл. Андрэй Баболя" і інш.


Od początku 1913 roku w Wilnie wychodzi tygodniowa katolicka gazeta w języku białoruskim p. t.:

„BIEŁARUS"

mająca na celu nieść słowa porady, pociechy i oświaty Białorusinom katolikom.
Prenumerata: rocznie 1 rb. 50 kop., półr. 80 kop.
Adres Redakcji: **Wilno, ul. Wileńska 18—6.**

Tamże można dostać białoruskie katolickie książeczki: 1. Karotkaja Historyja Świataja. 2. Karotki Katechizm. 3. Bł. Andrej Babola. 4. Rady dla matok. 5. Alkahol.

*Рэклама газеты "Беларус" і іншых беларускіх выданняў на адной са старонак сшыткаў серыі "Нашы касцёлы". 1913 г.*

Праблема нацыянальнай самаідэнтыфікацыі нашых продкаў аўтарамі серыі "Нашы касцёлы" наўпрост не разглядаецца. Але і тых ускосных фактычных прыкладаў, што яе выяўляюць і адлюстроўваюць, дастаткова, каб скласці меркаванне, як бачылася яна аўтарам выдання больш за 110 год таму. І меркаванне скласці, і, магчыма, на ўласны актыўны, дзейсны ўдзел у працы на ніве айчыннага нацыябудаўніцтва натхніцца.

## Літаратура


1. Баркоўскі, А. Беларусь ксяндза Жыскара / А. Баркоўскі // Наша вера. – 2006. – № 3 (37). – С. 67–68.
2. Станкевіч, А. Беларуская мова ў святынях ад пачатку XX веку да расейскай рэвалюцыі 1917 г. : выбранае / А. Станкевіч. – Мінск : Кнігазбор, 2008. – С. 146–154.
3. Nasze Kościoły. – T. I, część 1 :Archidiecezja Mohylowska : Mohylowszczyzna / opracowanie red. L. Paluszkiewicz-Horubała ; skanowanie oryginału A. Dybowski. – Repr. wyd. 1913 r. Nasze Kościoły : Archidjecezja Mohylowska / ułożyli i wydali ks. D. Bąezkowski, ks. J. Źyskar. – Warszawa : Biblioteka narodowa, 2001. – Wprowadzenie; s. 30–32; 101–120.
4. Nasze Kościoły. – T. I, część 2 : Diecezja Mińska / opracowanie red. L. Paluszkiewicz-Horubała ; skanowanie oryginału A. Dybowski. – Repr. wyd. 1913 r. Nasze Kościoły : Archidjecezja Mińska / pod red. ks. J. Źyskara. – Warszawa : Biblioteka narodowa, 2001. – S. 208–212.
5. Nasze Kościoły. – T. I, część 3 : Archidiecezja Mohylowska : Witebszczyzna / opracowanie red. L. Paluszkiewicz-Horubała ; skanowanie oryginału A. Dybowski. – Repr. wyd. 1913 r. Nasze Kościoły : Archidjecezja Mohylowska / pod red. ks. J. Źyskara. – Warszawa : Biblioteka narodowa, 2001. – S. 357–444.

# Эпізоды з кнігі М. Задоры-Цішэўскага “Мае ўспаміны з Браслаўшчыны. 1918-1939 гг.", прысвечаныя яго гаспадарчай дзейнасці ў фальварку Навіна і маёнтках Міжрэчча, Узмёны




*Міраслаў Уладзімір Эпіфан Задора-Цішэўскі нарадзіўся ў 1889 г. у Кракаве. Скончыў Ягелонскі ўніверсітэт. У 1913 г. пабраўся шлюбам з Марыяй Аскеркай з маёнтка Міжрэчча*. На сталае жыццё на радзіме жонкі перабраўся ў 1918 г. Пэўны час сям’я жыла ў фальварку Навіна** паблізу Міжрэчча. Пасля пераходу ва ўласнасць Аскеркаў маёнтка ва Узмёнах пераехаў туды на пастаяннае арандатарства. У 1927 г. асеў у маёнтку Бірукі на Новапагостчыне. Быў адным з лепшых сельскіх гаспадароў рэгіёна. Жыў некаторы час у Літве, у Друі, зноў у Літве. Пасля вайны, страціўшы падчас яе ў Катыні аднаго сына і дачакаўшыся з нямецкага канцлагера з падарваным здароўем другога, з’ехаў у Польшчу, дзе і памёр у 1964 г. Многія старонкі яго кнігі – цікавае пісьмовае сведчанне жыцця Прывяцця першай трэці ХХ стагоддзя.*

Па сканчэнні сваіх сакавіцкіх прац вырашылі мы зноў заняцца земляробствам, натуральна, там, куды вабіў сантымент і дзе праца была б найцяжэйшай, г. зн. на найдалейшай паўночна-ўсходняй мяжы краю. …наважыліся на падарожжа ў Дзісенскі павет на Віленшчыне, дзе мелі з жонкаю маленькі, дагэтуль здадзены ў арэнду фальварачак Навіна. Так увесну 1921 г. вырушылі з Кцыні*** ў далёкую вандроўку. (…) Здабылі таварны вагон, куды змясцілі маці жонкі, сястру, швагерку з дзіцем, пяцярых сябе (цяжарная жонка, я, трое дзяцей, з якіх старэйшаму 6 год). Я – адзіны мужчына. Дзяўчына Лёня са Свянцяншчыны. Апроч таго – карова, 10 авечак, 10 курэй, 100 кг насення канюшыны, аўса і ячменю, корм для каровы.

* Паводле аўтараў прадмовы да выдання, Міжрэчча месціцца па-над Дзвіною. Гэтаксама памылкова пададзена месцазнаходжанне маёнтка і ў нарысе пра жыццё і творчасць Яна Булгака ў кнізе яго ўспамінаў “Край дзіцячых гадоў” (Мінск : Беларусь, 2004. – С. 407).

** Навіна – фальварак прыкладна за кіламетр ад хутара Навінкі ў накірунку вёскі Чамяры. У паваенным часе месцажыхарства яго насельнікаў падавалася ў дакументах не як Навіна, а як Навінкі.

*** Кцыня – горад, цэнтр гміны ў Польшчы, у цяперашнім Куяўска-Паморскім ваяводстве.

(…) На трэці дзень святаў (Вялікадня. – *Ф. С.*) прыехалі па нас (у Каменполле ля Мёраў, куды мы трапілі дзякуючы гасціннасці гаспадара тамтэйшай сядзібы. – *Ф. С.*), дзве падводы з Міжрэчча, і памалу пад вечар дапалі мы да мэты нашага падарожжа.

Дом у Міжрэччы заспелі мы пусты, без мэблі, без начыння. Гаспадарка без коней, кароў, свіней і без ніякага насення. Толькі некалькі даўнейшых запашнікаў, якія пасеялі крыху жыта. У Навінах (так, у множным ліку, у тэксце. – *Ф. С.*) яшчэ горш, бо аказалася, што адзін з арандатараў Галімскі мае яшчэ на 1921 г. дамову на палову фальварка, а другі абяцае выехаць з яго, але толькі тады, калі знойдзе [іншае] месца. Жыта пасеяна каля 3 га і то позна. Знаходжу свой плуг і рэшткі воза ды санкі. Праз наваколле ў мінулым годзе тройчы праходзіў фронт.

З-за немагчымасці затрымання ў Навінах, бо дом пад жытло – хата на два канцы, абодва заселеныя, вырашыў гаспадарыць на вольнай частцы, а жыць у адлеглым адсюль за 1,5 км Міжрэччы.

Варункі гаспадарчыя былі вельмі кепскія, інвентара ў наваколлі вобмаль і то нявартага. Бліжэйшае мястэчка Друя за 12 км. Пошта – нерэгулярная, 1–2 разы на тыдзень. (…) Апроч усяго іншага, трэба было думаць пра забеспячэнне цяглавай сілай. (...) Нарэшце праблема з цяглавай сілай была вырашаная, нават кляч саступіў цешчы (Ядвізе Аскерцы. – *Ф. С.*), якая ў міжчассе прыехала ў Міжрэчча. Яна парупілася пра хамут, воз я направіў, бароны пазычыў. У абмен на насенне канюшыны здабыў крыху насення аўса, ячменю і лёну, бульбы і жыта на хлеб і 3 траўня прыступіў да запашкі.

Працы меў ажно занадта, бо наняць работніка не было магчымасці і мусіў сам пры помачы жонкі прывучаць кавалерыйскіх коней да плуга, каб заараць ды засеяць 10 га. Асабліва невыгодныя былі пастаянныя вяртанні ў Міжрэчча на харчаванне, а таксама пасадка бульбы на пачатку чэрвеня, калі я араў, Лёня гной трэсла, а цяжарная Марыськаю жонка садзіла пад плуг бульбу. І развядзенне гародніны далося нам у знакі, і тым горш, што не дало вынікаў.

Цяжкая фізічная праца пакідала нам мала часу на завязанне знаёмстваў. З сельскай інтэлігенцыі ў Міжрэччы жыла Я. Аскерчына (так у тэксце. – *Ф. С.*), удава В. [Вацлава] Аскеркі, кабета вялікага сэрца і гумору (і мая цешча), ва Устжэжы – радня суддзі В. Мірскага з Друі, яго жонка Тэрэса, сапраўдная гаспадыня двара, нястомная агародніца, якая ўласнаручна пасадзіла 7 га гародніны найлепшых гатункаў. Прыгожая і аж занадта энергічная ў фрывольных рамантычных схільнасцях дачка яе Фэля, якая тады ўжо была ў фазе скасавання шлюбу з першым мужам. Добры і вельмі музыкальны сын-калека Юзаф, які ездзіў па вёсках і дварах з гармонікам і якога ўсюды любілі за кам-

панейскасць. Уладальнікам паперні і млына ва Устжэжы быў стары кавалер ex Arkon Уладыслаў Козелл-Паклеўскі, культурны, зласліва-дасціпны. Працавалі ў яго працавітыя і вельмі пачцівыя ўраджэнцы Віцебшчыны Шадзеўскія і Грыневіч, якія належалі да заможнай засцянковай шляхты.

(…) Па сканчэнні веснавых прац я атрымаў прапанову В. [Вікторыі] Агінскай стаць адміністратарам яе маёнтка Узмёны, што знаходзіцца за 20 км на поўнач ад Міжрэчча. (…) Карыстаючыся вольным часам, паехаў страшною дарогай ва Узмёны і зрабіў там, што магчыма было. (…) Наняў за надзорцу старога, як свет, але вельмі самавітага з выгляду Валентага.

Жніво ў Навінах мы скончылі самі, я касіў, жонка з Лёняй вязалі, а па звозцы сціплага ўраджаю ўдалося мне наняць на нятанных умовах тэрмінам на месяц работніка Цыпрука, які распачаў ворыва пад жыта (гной я яшчэ сам вывозіў). Ураджай быў сярэдні – ледзь на пражыццё і больш на насенне на наступны год. Але добра пайшла стрыжка авечак, на жаль, воўны шляхетнай, якую нельга было часаць. Гародніна, асабліва цыбуля, якой пасеяў шмат на запустазеленай, малаўгноенай глебе, насуперак укладзенай у яе працы, прапала.

Стасункі з сялянамі складваліся добра, на падставе кампрамісу паміж дваром і вёскаю. Забраную мэблю сяляне вярталі добраахвотна. Двары не звярталіся ў суд або паліцыю.

(…) Наша матэрыяльнае становішча не было добрым. Мэблі не мелі зусім, ані ложка, ані стала, ані крэсла, адзення і бялізны. (…) У лістападзе з'явілася на свет Марыська, і брат Тадэвуш прыехаў з Варшавы на яе ксціны. У швагроў адбылося паразуменне і адпрэчанне думкі аб разводзе, цешча задумалася аб распачацці гаспадаркі сынам Ольдзем (Альгердам Аскеркам. – *Ф. С.*).

(…) Зіму 1921–22 гг. я прабавіў на лясных працах ва Узмёнах і за адзін з першых прыбыткаў купіў сабе дубальтоўку, бо значная колькасць зверыны дазваляла заняцца паляваннем. Каля Міжрэчча было шмат зайцоў і лісіц, але то была дзялянка Ю. Мірскага і Шадзеўскага. Затое каля Узмёнаў было шмат ваўкоў, лісіц, цецерукоў і слонак.

Увесну 1922 г. вырашылі мы перабрацца на месца большых магчымасцяў адносна працы – ва Узмёны, а ў Навінах … пакінуць дэпутата Эльяша са Сташулёў за 100 пудоў з арэнды зямлі пад запашку. Галоўнаю падставай такога рашэння была немагчымасць пражывання ў Навінах нашай сям'і з 6 асобаў, а на пабудову дома мы не мелі грошай.

(…) Мы мелі шмат працы (ва Узмёнах. – *Ф. С.*), жонка з чатырма дзецьмі, з якіх двое старэйшых ужо трэба было вучыць, а самую меншую яшчэ карміць. Лёня, якая доўга ёй памагала, выйшла ў Міжрэччы замуж

за Сауця, а тут дапамагала толькі старая Валентава, а апроч дзяцей мела (жонка. – *Ф. С.*) на сабе ўвесь дом, птаства і харчаванне. Я – вялікі маёнтак, лес, клопаты парцэляцыйныя* і даезды да Навінаў. Адно толькі зведанне лесу і якое-ніякое яго ўпарадкаванне займала шмат часу. У лесе расшукаў даволі шмат добрых лужкоў, якімі зацікавіў сялян з ваколіц Міжрэчча і штогод ім іх выдзяляў, ствараючы тым самым і для маёнтка, і для сябе крыніцу прыбытку. Трэба было туды ўвесь час хадзіць ды гандлявацца з кліентамі.

(…) Жытло, якое складалася з трох пакойчыкаў са збітымі сталамі і крэселкамі і сумеснай з Валентым кухні ў другім канцы дома, мы займалі ва ўрослай у зямлю афіцыне. Даўнейшы жылы дом быў знішчаны так, што трэба было чакаць яго адрамантавання да лепшых часоў.

(…) Тут было суседства інтэлігентных людзей. Па цяжкой працы не мелі мы іншых магчымасцяў баўлення часу, як спатканне раз на месяц з кімсьці з іх (суседзяў. – *Ф. С.*). Стасункі з прыродаю, для жонкі – выезд раз у месяц да маці ў Міжрэчча. Словам, дзікі Усход, але прыгожы. Газеты даходзілі не часцей, як адзін раз на дэкаду, крыху купленых кніжак, … а ўвосень, увесну і ўзімку цудоўнае паляванне.

Позна ўвосень п. В. Агінская выйшла замуж за Юзафа Лапацінскага з Устроні, які шмат разоў прыязджаў ва Узмёны. Але неўзабаве, праз паўгода, памерла, а Узмёны атрымала ў спадчыну сястра памерлай Я. Аскерчына.

(…) Ва Узмёнах тым часам гаспадарка ішла шторазу лепей, бо і зямля плададайная, і лукі (пожні. – *Ф. С.*) ладныя, адзіная цяжкасць была – з работнікамі… На сенакосы нават дзеля арэнды трэба было клікаць з ваколіц Міжрэчча. Тое самае наконт ірвання лёну ці парадкавання збожжа.

(…) Мы выязджалі на святы ў Міжрэчча, а як прыклад стану тадышніх дарог падам выпадак, калі на Вялікдзень тыя 20 км (ад Узмёнаў да Міжрэчча. – *Ф. С.*) ехалі ад усходу сонца да заходу.

(…) Па пераходзе Узмёнаў ва ўласнасць Я. Аскерчыны … я ўзяў Узмёны ў арэнду… Інвентар, які быў уласнасцю п. Аскерчыны, адаслаў у Балтуп (маёнтак на Ашмяншчыне. – *Ф. С.*), а сам ужо мог дакупліваць уласны.

*Пераклад з польскай мовы Ф. Дубраўскага.*

*Эпізоды пададзеныя ў якасці ілюстрацый да тэмы жыцця і тапанімікі паселішчаў рэгіёна ў першай трэці XX стагоддзя, а таксама дзеля папулярызацыі ўспамінаў М. Задоры-Цішэўскага як каштоўнай крыніцы іх даследавання і асэнсавання. Асобнік рэпрынтнага выдання 1996 г., з якога зроблены пераклад, знаходзіцца ў фондзе Браслаўскага гісторыка-краязнаўчага музея. Аўтар дзякуе калектыву ўстановы і асабіста яго супрацоўніцы Ірыне Макарэвіч за спрыянне ў падрыхтоўцы публікацыі.*

* Парцэляцыйны – ад парцэляваць, г. зн. дзяліць зямлю на дзялянкі, напрыклад, з мэтаю паляпшэння севазвароту.

# Да гісторыі двароў Міжрэчча, Устжэжа

(урыўкі з рукапісу ўспамінаў М. Задоры-Цішэўскага*)

*Паводле аўтара ўспамінаў, першым уладальнікам Міжрэчча з роду Святаполк-Мірскіх быў Тамаш Святаполк-Мірскі (1788–1852**). Пасля яго спадчынным мужчынскім імем гаспадароў маёнтка гэтай лініі сваяцтва стала імя Віктар. Так, М. Задора-Цішэўскі ўзгадвае Віктара I (1820–1892), яго сына Віктара II (нар. у 1845), унука Віктара III (нар. у 1860?), праўнука Віктара IV (1890–1939).*



*Сядзіба ў Міжрэччы. Уваход з боку ракі Вяты. Здымак да 1939 г. Крыніца: Aftanazy, R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej / Roman Aftanazy. – Wrocław, 1993. – T. 4 : Województwo Wileńskie. – С. 222.*

Віктар I пакінуў сыну толькі частку Міжрэчча, на якой Віктар II выбудаваў асобны двор з усімі будынкамі і назваў яго Устжэжам. Пры тым меў яшчэ фальварак Чамяры з цудоўнымі наддзвінскімі сенажацямі.

Рэшта Міжрэчча разам са старым дваром, пабудовамі і часткаю лесу была прызначаная пяці дочкам [Віктара I] і, мабыць, [яго] сыну Мечыславу, які ў распараджэнні аб надзяленні зямлёю абыдзены. Міжрэчча адышло (у канцы XIX стагоддзя. – *Ф. С.*) [яго] дачцэ Ядвізе Аскерчыне (Аск. з вадовіцкай*** лініі), якая наяўнымі грашыма мужа (Вацлава Аскеркі. – *Ф. С.*) сплаціла сёстрам кошты іх частак і самастойна ў Міжрэччы гаспадарыла.

---

* Zadora-Ciszewski Mirosław. Wspomnienia. Rolnictwo. Dwory, dworki i wsie pow. dziśnieńskiego i brasławskiego w latach 1921–1944 / Mirosław Zadora-Ciszewski // Pamietniki i listy polskich autorów z Ziem Zabranych 10 BN (BN – Biblioteka Narodowa w Warszawie). – sygn. akc. 12723.

** Даты паводле Генеалогіі нашчадкаў Вялікага сейма М. Мінакоўскага.

*** Вадовіцкая лінія – лінія паходжаннем з Навагрудчыны.

(…) 50 га Устжэжа сталі ўласнасцю ўдавы (Віктара ІІ. – *Ф. С.*) Тэрэсы Козелл-Паклеўскай і [яе] дачкі  Ядвігі Мірскай-Ліхтаровіч.

(,,,) Ва Устжэжы быў цудоўны сад 10 га са шляхетнымі яблынькамі, пасаджаны знакамітай агародніцай і надзвычай спраўнай і працавітай кабетай Тэрэсай. Яе таварышкай у працы была дачка, Ягудка Мірская-Ліхтаровіч (нар. у 1890 г., жонка падпалкоўніка Ліхтаровіча. – *Ф. С.*).

*У тэксце рукапісу змешчаны два вершы Ядвігі (Ягудкі) Ліхтаровіч, дасланыя аўтару ўспамінаў ёю самой. Першы прысвечаны хараству маёнтка Устжэжа і настальгіі па днях, там пражытых:*

Устжэж… гучыць як загад альбо просьба здалёк
Маленькі кавалак зямлі ахоўваць ад гібелі
Захаваць у сэрцы ўсё, што чаруе прыгажосцю.
Зрабіць так, каб як калісьці зацвілі там сады
Няхай напоўніцца зноў жыццём нізкі драўляны двор
Рытмам працы і песень няхай загамоняць сцены
Гаворкай птушынага шчэбету загучыць страха.

*Пераклад з польскай мовы Ф. Шкіранды.*

*Другі верш – апастрофа**, *зварот аўтаркі да сваёй маці Тэрэсы, якая не толькі распрацавала план саду, але і самаруч пасадзіла ў ім амаль кожнае дрэва:*

Між шыхтоў прыгожых яблынь жывыя кладуцца цені
Гэты сад, маці, справа тваіх рук
Сэрца задума, што яваю стала дзякуючы тваёй працы
Кожнае дрэва, кожны куст – гэта справа тваёй рукі
І цёмныя ліпы, і бярозы, ствалы якіх бялеюць,
Шумяць вакол дома згукамі падзякі
І вядуць у поле прасцюткай алеяй
Кожная сцежка пазначана тваімі слядамі
І кожная справа адзначана любоўю да бліжняга
З ваенных спусташэнняў – гэта твае плечы
Гняздо будавалі зноў, ствараючы яго з нічога
Я бачу цябе ў летнім змроку, калі закончана жніво:
Са сваёю лагоднай усмешкай выходзіш на ганак
Каб прыняць з рук сялян, што вяжуць
Дарунак зямлі тваёй – важкіх каласоў вянок.

*Пераклад*** *з польскай мовы Ф. Шкіранды.*

* Апастрофа – рытарычная фігура мовы, калі яе аўтар звяртаецца да адсутнае асобы як да прысутнай.

** У перакладах абодвух вершаў захаваная пунктуацыя арыгінала.

(…) Доктар Вацлаў [Аскерка] займаўся толькі медыцынай. Практыкаваў у Друі, затым у Міжрэччы. Здабыў вялікую папулярнасць сярод пацыентаў, мабыць, таму, што бяднейшых лячыў бясплатна, а найбяднейшым даваў бясплатна лекі са сваёй аптэчкі. Памёр, заразіўшыся тыфусам ад пацыентаў, у 1905 г. Навакольныя сяляне яшчэ і ў часе нямецкай акупацыі ў гады Другой [сусветнай] вайны ўзгадвалі, якім лекарам быў доктар Аскерка.

(…) …па 1-й (Першай сусветнай. – *Ф. С.*) вайне гаспадарыла [у Міжрэччы] Ядвіга Аскерчына, а па вяртанні з войска [яе] сын Альгерд Аскерка, які гаспадарыў з запалам і развіваў гаспадарку, меў добрую стайню пародзістых коней.

(…) …напрадвесні 40 г. уся сям'я (апроч Альгерда, які ў гэты час знаходзіўся ў вязніцы ў Полацку. – *Ф. С.*) разам з 78-гадоваю маці (Ядвігаю. – *Ф. С.*) была вывезена на поўнач Казахстана. Праз некалькі месяцаў па прыездзе п. Я. Аскерчына памерла і была там жа пахавана.

(…) Па выбуху нямецка-рускай вайны Альгерд (разам з сынам Юрыем, польск. – Ежы. – *Ф. С.*) дапаў да аддзелаў польскага войска генерала Андэрса*.

(…) Маёнтак Устжэжа разам з фальваркам Чамяры ўтвараў адзінае цэлае.

*Далей у якасці доказу дбайнасці Тэрэсы Козелл-Паклеўскай (Мірскай) падаецца факт, што калі ў час вельмі сцюдзёнай зімы 1939–1940 гг. сады ўсюды, у тым ліку ў Міжрэччы, павымярзалі, ва Устжэжы, дзякуючы ўвішнасці і ўмельству гаспадыні, – былі ўратаваныя.*

*Пераклад з польскай мовы Ф. Дубраўскага.*

*Урыўкі ў перакладзе пададзеныя ў той жа чарговасці, што і ў арыгінале. Апроч апісання маёнткаў у Міжрэччы і Устжэжы, у рукапісе маюцца таксама апісанні двароў і фальваркаў у Аблятове, Шчоўне, Дзедзінцы, Багудзеньках, Забалоцці, Каменполлі, Біруках і іншых мясцовасцях тагачаснай Дзісеншчыны.*




*Двор Устжэжа на мапе 1932 г. з недакладна пададзеным на ёй месцазнаходжаннем крыжа, які насамрэч месціўся на пачатку, а не напрыканцы бярозавай алеі, што цягнулася ад сядзібы да дарогі на Вяту. Рэшткі зараслага бэзам падмурка сядзібы, крыж і пабітая гусеніцамі трактароў і коламі падводаў алея захоўваліся да канца 1960-х гг.*

---

* Умоўная назва фарміраванняў узброеных сіл Польскай Рэспублікі, створаных у 1941 г. з ліку польскіх грамадзян, якія знаходзіліся на тэрыторыі СССР, паводле дамовы паміж савецкім урадам і польскім урадам у выгнанні.

# Гаспадары маёнткаў Міжрэчча і Устжэжа ў спісе парафіянаў ідолтаўскага касцёла (каля 1930 г.)

*Міжрэчча. Ядвіга Аскерка (Святаполк-Мірская), яе сын Альгерд, нявестка Францішка і ўнукі Ізабэла, Ежы і Марыя.*

*Устжэжа. Тэрэса Святаполк-Мірская (Козелл-Паклеўская), яе дачка Ядвіга і ўнучка Тэрэса Каткова (дачка дачкі Фэлі). Апошняя ў спісе – 19-гадовая служанка Юзэфа Лакотка.*

# Двор Аблятова

(паводле рукапісу ўспамінаў М. Задоры-Цішэўскага)

За Міжрэччам і вёскаю Сташулі знаходзіўся таксама невялікі, 100–150 га, маёнтак, уласнасць пп. Фларантына і Станіслава Марціноўскіх са здаўна аселага тут роду, з недалёкім Міжрэччам, нягледзячы на розніцу [неразб. – фартунаў? – *Ф. С.*], запрыязнены. У Аблятове была не толькі добрая зямля, а і размешчаны на добрым водным ісподзе млын*. Марціноўскія былі інтэлігентныя людзі, мелі бібліятэчку, але старэйшы дзівачыў, і штоpазу ўсё болей.

(…) Па смерці Фларантына Аблятова купіў п. Зыгмунт Абранпальскі** з даўно аселай на землях паміж Полацкам і Дзісною сям'і, спецыяліст па будоўлі вадзяных млыноў. Ён разбудаваў і асучасніў даўнейшы аблятоўскі млын да стану найлепшага ў наваколлі, нават паставіў начынне для апрацоўкі воўны і вырабу сукна. Жыў Абранпальскі ў Вільні, дзе меў уласнаае прадпрыемства, а ў Аблятова прыязджаў толькі ўлетку, адрамантаваў стары двор, клапатліва апекаваўся садам і агародам, праца ж на зямлі была яму нецікавая, перавёў яе на запашку.

*Пераклад з польскай мовы Ф. Дубраўскага.*



*Сядзіба ў Аблятове. Здымак 1942 г. са збору музейнага аб'яднання сярэдняй школы № 3 г. Мёры.*

---

* Закладзены ксяндзом Ю. Бародзічам. Паводле Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства – фабрыка па вырабе паперы з асіны.

** У стасунках з мясцовымі жыхарамі быў дэмакратычны. Так, запрашаў у госці ў маёнтак студэнта-медыка Я. Малецкага з сям'і беднага селяніна з блізкіх Якужаў, што было вельмі не даспадобы ксяндзу Ю. Бародзічу.

З фотаздымкаў уладальнікаў маёнтка Аблятова два – маці і дачкі – таксама знаходзяцца ў музейным аб’яднанні мёрскай школы № 3.






***Злева:*** *Галена Абранпальская, жонка Зыгмунта Абранпальскага.*
*Здымак зроблены, магчыма, у Варшаве, дзе сям’я таксама мела маёмасць.*
***Справа:*** *дачка Галены і Зыгмунта, выпускніца Друйскай гімназіі.*
*Здымак 1937 г. Перададзены ў музей нашчадкамі кухаркі Абранпальскіх Браніславы Альхімовіч.*

Паводле Геаграфічнага слоўніка Польскага каралеўства, да ўладанняў двара Аблятова належалі вёска Ракшнева (цяпер – Рачнёва-I і Рачнёва-2) і засценак Краснарэўшчына (цяпер – Каснарэўшчына). Цэнтрам гаспадарчага жыцця Аблятова з’яўляўся млын. У склад вёскі Аблятова, апроч хат на правым беразе ракі Вяты, уваходзілі дзве хаты на левым. Далей за імі, прыкладна на палове шляху ад млына да вёскі Чарнілава, знаходзілася асада Пагулянка (у 2-м перыядзе Рэчы Паспалітай – карчма з сямю асобамі яўрэйскага паходжання).

Млын месціўся пры аснове дугападобнага выгібу ракі Вяты, з пагорка да яго вяла брукаванка. Пры вяршыні выгібу на супрацьлеглы ад млына бераг ракі быў перакінуты мост, наўзбоч якога знаходзіўся будынак для захоўвання прывезенай на апрацоўку і ўжо абчасанай воўны. Ад моста ў розныя бакі разбягаліся тры нешырокія дарогі: на Якужы, на Павяцце (праз ручай і лес), на Пагулянку (Чарнілова, Рачнёва). Спраўна паслужыўшы людзям наваколля, млын у першай палове 1960-х гг. спыніў працу.



*Рэшткі млына ў Аблятове. Здымак Д. Росала. 2023 г.*

Бліжэйшым да аблятоўскага на правым беразе ракі Вяты з’яўляўся млын у Рачнёве. А менш за кіламетр ад аблятоўскага ніжэй па цячэнні Вяты, на ўскрайку вёскі Сташулі паблізу могілак знаходзіўся яшчэ адзін – Антона і Анці Судніцкіх. Так што канкурэнцыя паміж мясцовымі мукамольнымі прадпрыемствамі за ўвагу кліентаў у сярэдзіне ніжняга цячэння ракі Вяты ў першай палове XX стагоддзя была нежартоўная.



*Зарослыя прырэчным быльнягом рэшткі млына Судніцкіх у Сташулях.*
*Здымак Д. Росала. 2023 г.*

# Калісьці ў вёсцы Сташулі...



*Жыхары в. Сташулі, Аблятова, Каснарэўшчына на здымку 2-й паловы 1950-х гг.*



# Пачатковая школа ў вёсцы Якужы



*Справа – настаўніца Аляксандра Ануфрыеўна Якімчык (Найдзёнак), якая па закрыцці школы ў Якужах настаўнічала ў Міжрэчанскай пачатковай. Здымак са збору Г. Вішнеўскай. Каля 1957 г.*

# Вёска Вята: тады і цяпер



*Група моладзі вёскі Вяты ля капліцы Святога Яна Хрысціцеля. Каля 1949 г.*



*Апошнія жыхары вёскі Вяты ў капліцы Святога Яна Хрысціцеля. Здымак аўтара. 2002 г.*

# Варыянты мясцовага гучання камонімаў ніжніх цячэнняў рэк Вяты і Мёрыцы

Александрына – Аліксандрына, Ліксандрына

Бабарыкі – Бъбарыкі, Бубарыкі

Каснарэўшчына (паводле спісаў 1950 г. – Краснарэўшчына) – Късна-рэўшчъна (Кръснарэўшчъна)

Лупаўшчына – Лупуўшчъна, Лупъўшчъна

Мёрыца – Мёръца

Міжрэчча (паводле спісаў 1950 г. – Міжырэчча) – Мізарэча (Міжырэча)

Навіна – Нъвіна

Надмірэчча – Нъдмірэча

Надрэчча – Надрэча

Павяцце – Пувяця, Пъвяця

Пагулянка – Пугулянка, Пъгулянка

Паршэлева (даўн. – Пяршэлева) – Паршэліва (даўн. – Пяршэліва)

Паташня – Пъташня

Рыбакі – Ръбакі

Сташулі – Стушулі, Стъшулі

Суромшчына – Суромшчъна

Тараракі – Търъракі

Устжэжа (паводле спісаў 1950 г. – Устрэж, Усцеж) – Устшэжа

Чамяры – Чъмяры

Чарнілова – Чърнілова

Чурылава – Чурылъва

Юзэфова – Юзъфова

Вымаўленне назваў са знакам ъ на месцы галоснага гука [а] няпоўнага ўтварэння – прыклады з’явы, якая называецца ў дыялекталогіі дысімілятыўным аканнем і часта сустракаецца ў паўночна-ўсходніх гаворках Віцебшчыны. Падрабязней пра яе ў выданні: Мяцельская, Е. С., Блінава, Э. Д. Беларуская дыялекталогія : Практыкум. – Мн.: Выш. шк., 1991. – С. 64.

## Экскурсія на электрастанцыю

Яшчэ ў другой чвэрці навучальнага года мы пачалі вывучаць раздзел фізікі электрычнасць. Мы пазнаёміліся з генератарамі пастаяннага і пераменнага току, з прыборамі, якімі вымяраецца сіла току і напружанне. Каб замацаваць набытыя тэарэтычныя веды, выкладчыца фізікі Марыя Андрэеўна Запольская арганізавала экскурсію вучняў на электрастанцыю, якая знаходзіцца недалёку ад нашай школы.

На электрастанцыі мы з цікавасцю разглядалі генератар пастаяннага і пераменнага току, рамённыя перадачы, пры дапамозе якіх генератар злучан з турбінай і іншае.

Экскурсія прайшла вельмі цікава. Набытыя веды па тэме „Электрычнасць" мы замацавалі на практыцы.

**З. Варонька, Л. Меніцкі,**
вучні Чурылаўскай сямігадовай школы.

*Допіс пра экскурсію школьнікаў на Міжрэчанскую электрастанцыю. "Бальшавіцкая трыбуна" за 10 красавіка 1952 г.*

## Не можам мірыцца з беспарадкамі

Дзе б ні працавалі хлебаробы нашай сельгасарцелі: на палявых работах або ў жывёлагадоўлі, на трактары або на рыштаваннях узводзімых будынкаў — ва ўсіх адно імкненне — датэрмінова выканаць сямігадовы план, парадаваць Радзіму сваімі працоўнымі падарункамі. І поспехі ў працы ў нас нядрэнныя. Жывём заможна. У адным толькі нам не шанцуе. Раённы аддзел культуры дрэнна задавальняе нашы духоўныя запатрабаванні. Фільмы ў калгасе дэманструюцца раз у 2—3 месяцы. Згодна графіка кінаабслугоўвання, у вёсках нашага калгаса павінна дэманстравацца штомесячна па 4—5 кінафільмаў. Аднак гэта толькі па графіку.

Няма ў калгасе і медыцынскага пункта. Хворым прыходзіцца звяртацца за ўрачэбнай дапамогай за 8 кіламетраў у Ляонпаль.

Не задавальняе нас і работа Александрынскага паштовага аддзялення, бо распарадак рабочага дня тут сістэматычна не выконваецца. Прыдзеш іншы раз на пошту купіць канвертаў або здаць пасылку — на дзвярах замок. І так бывае часта.

**Сіўко, Белавус, Пятроўская, Угоднікава** —
члены сельгасарцелі „Светлы шлях".

*Допіс работнікаў сельгасарцелі "Светлы шлях", цэнтр якой месціўся ў в. Александрына. "Зара камунізму" за 11 лістапада 1961 г.*

# Сям'я настаўнікаў Пупінаў




***Злева:*** *Марыя Мікалаеўна і Антон Феліксавіч Пупіны з сынам і дачкой. Міжрэчча. 1950 г.*
***Справа:*** *з унукамі. Міжрэчча, спартыўная пляцоўка пры школе. 1976 г.*
*Здымкі са збору В. Шчая-Зубравай.*

## Цікавы канцэрт

Нядаўна пятую брыгаду сельгасарцелі «Гігант» наведалі самадзейныя артысты—работнікі жывёлагадоўчай фермы з вёскі Міжрэчча—і паказалі хлебаробам цікавы канцэрт. У праграме канцэрта былі аднаактныя п'есы, вакальныя нумары, дэкламацыі. Танцавальная група выканала беларускі народны танец «Лявоніху».

Калгаснікі пятай брыгады культурна і весела правялі свой адпачынак. Яны выражаюць падзяку самадзейным артыстам і іх мастацкаму кіраўніку — настаўніцы Міжрэчанскай пачатковай школы Марыі Мікалаеўне Пупінай і просяць не забываць дарогі ў Орцы.

**П. Багдановіч,**
жыхар вёскі Орцы.

*Допіс у мёрскай раённай газеце “Зара камунізму” пра артыстаў з в. Міжрэчча за 5 ліпеня 1961 г.*

# Адысея настаўніка Антона Пупіна



А.Ф. Пупін. 1962 г.

*Антон Феліксавіч Пупін – інтэлігент у першым калене. Адукацыю атрымаў дзякуючы высілкам бацькоў і ўласнай волі. Пра час навучання ў Друйскай гімназіі імя Стафана Баторыя і перыпетыі працаўладкавання па яе сканчэнні ён распавёў незадоўга да сваёй смерці ў 1982 г. Змест аповеду падаецца ў выглядзе апісання.*

У прыватную школу кляштара айцоў марыянаў у Друі (ад 1930 г. – гімназія імя Стафана Баторыя) адзінаццацігадовы Антон Пупін паступіў у год яе адкрыцця. А скончыў пры тэрміне навучання 6 год толькі ў 1932-м. Такое расцягненне вучобы ў часе атрымалася з-за абставінаў матэрыяльнага характару.

Заняткі ў школе (далей – гімназія. – *Ф. С.*) пачаліся на пачатку новага, 1923 г. * На розных умовах (за поўную плату, якая складала 300 злотых за год, ці – па беднасці – за яе палову) на вучобу было прынята, паводле аповеду А. Пупіна, 80 дзяцей (паводле іншых крыніц, напрыклад, выдання Л. Данілецкай**, – 120). Гімназія была каадукацыйнай, гэта значыць у ёй маглі вучыцца разам хлопцы і дзяўчаты***.

З настаўнікаў **(Дадатак 9.2)** падчас размовы А. Пупін узгадваў заснавальніка гімназіі, доктара тэалогіі Андрэя Цікоту****, які выкладаў Закон Божы і латынь, матэматыка Антона Зянкевіча, настаўніцу польскай мовы і першую дырэктарку ўстановы Ванду Еўтэ, настаўніцу нямецкай мовы – акуратную, якая, да засмучэння гімназістаў, ніколі не хварэла, – Адэлаіду Фрэйнатэг, настаўніцу прыроды Эльвіру Пінскевіч.

Паводле вынікаў навучальнага года ў гімназіі праводзіліся экзамены па мовах, матэматыцы, хіміі, логіцы і іншых прадметах – у залежнасці ад года навучання. На іспыты прыязджалі куратары з Вільні. Якія і наогул, з перасцярожлівае ўвагі на прабеларускія настроі многіх друйскіх святароў і выкладчыкаў, завітвалі сюды даволі часта.



*Друя. Кляштар айцоў марыянаў (раней – бернардзінцаў), у якім месцілася гімназія. 1929 г.*

Спачатку гімназісты жылі па прыватных кватэрах, пазней – у інтэрнаце, па 40 асобаў у адным пакоі. Апраналіся адпаведна ўзроўню дабрабыту бацькоў. Элементы строю хлопцаў – самаробная, фарбаваная хімічным алоўкам кашуля, юхтавыя***** чаравікі, дзяўчат – спадніца не карацей за 30 см ад долу, сіняя ваўняная блузка, шапачка, боцікі.

---

* Паводле іншых крыніц, напрыклад, даследаванняў айца А. Надсана, – у 1924 г.

** Danilecka, L. Duszy zabić nie mogą. – Warszawa, 2000. – S. 150–153.

*** Сумеснае навучанне было забаронена ў 1938 г., за год да зачынення гімназіі.

**** Андрэй Цікота (1891–1952) – рэлігійны і грамадскі дзеяч, святар. Быў старшынёй гімназічнай рады, узначаліў гімназію ў 1928 г. па звальненні з пасады В. Еўтэ.

***** Юхт – гатунак скуры з адмыслова апрацаваных конскіх, каровіных, свіных шкур.

Нягледзячы на сумеснае навучанне, з заняткаў хлопцы і дзяўчаты мусілі ісці паасобку. Тых, што парушалі такую завядзёнку, каралі падстрыганнем.



*Айцец А. Цікота (чацвёрты **злева**) з марыянамі К. Смулькам, В. Хамёнкам, Ф. Абрантовічам, Я. Германовічам, Я. Дашутам. Здымак да 1929 г. са збору кс. С. Сурыновіча.*

Пры гімназіі меўся самадзейны тэатр. Улюбёным спосабам баўлення вольнага часу ў гімназістаў старэйшых класаў быў удзел у вечарынках.

Правізіяй для сталоўкі гімназістаў раз на месяц забяспечвалі бацькі. У распарадак дня, апроч вучобы, уваходзіў удзел у касцёльных службах, а таксама праца фізічная, напрыклад, дзяжурства ў сталоўцы ці пілаванне і шчапанне дроў.

Друйская гімназія з’яўлялася асяродкам беларушчыны, і стаўленне польскіх службоўцаў да яе вучняў і выпускнікоў тутэйшага паходжання было не надта прыязным. Што зведаў на сабе і ўраджэнец Бабарык Антон Пупін. Напрыклад, калі яго заяву аб уладкаванні на працу ў дзяржаўную ўстанову разглядала гмінная рада ў Лявонпалі, з рэзкім “не” на падставе, што гэта, маўляў, памежжа, а тым часам прэтэндэнт на пасаду мясцовага паходжання, выступіў ксёндз Ян Завістоўскі, і шлях да дзяржслужбы маладому чалавеку быў закрыты.

Ад восені 1932 г. да вясны 1933 г. Антон Пупін зарабляў на жыццё прыватным настаўніцтвам у пана Цішэўскага ў маёнтку Міжрэчча, у 1933–1934 гг. – настаўніцтвам ды службаю кіраўніком справаў пры іншых дварах. Затым выкладаў латынь дзецям барона Клейста з Латвіі. Пасля падвышэння ўзроўню адукацыі ў Вільні спрабаваў уладкавацца на пасаду брокершчыка (ацэншчыка якасці лёну), але на падставе надуманага падазрэння, што, маўляў, мае слабыя лёгкія, яго заява была адхілена. Працаваў адміністратарам зямельнай часткі маёнтка графа Плятара ў Бяльмонтах, загадчыкам млына ў фабрычнай асадзе Міжрэчча. Ажаніўся з Марыяй Леановіч з Друі, разам з якой затым настаўнічаў у Міжрэчанскай пачатковай школе. Шмат чытаў, цікавіўся навінымі ў свеце. Марыў напісаць манаграфію роднай вёскі Бабарыкі, што, аднак, не здзейсніў. Памёр у 1982 г. Марыя Мікалаеўна па смерці мужа пераехала дажываць да сястры ў Друю.



*Марыя Леановіч (справа) з сёстрамі. Друя. 1930 г.*

# Дошка з прозвішчамі настаўнікаў гімназіі імя С. Баторыя Друйскага кляштара марыянаў у капліцы ўшанавання ў Ліхені




***Унізе справа*** *– агульны выгляд капліцы. Адчынена ў 1989 г.*
*Трэцяя ў пераліку настаўнікаў – Адэлаіда Фрэйнат (паводле ўспамінаў А. Пупіна – Фрэйнатэг); у адзінаццатым радку – сёстры Эльвіра і Эрнестына Плясневіч (паводле ўспамінаў А. Пупіна – Пінскевіч).*
*Калаж са здымкаў кс. Я. Цупрынскага. 2023 г.*

# Іменаслоў і канфесійны склад жыхароў вёскі Міжрэчча паваеннага часу

## 1
## Іменаслоў
## (афіцыйны і побытавы варыянты з улікам запісаў у пагаспадарчых кнігах)

### Мужчынскі

Андрэй (Ендрусь), Антон (Антоні), Баляслаў (Болюсь, Болісь), Бярнард (Барнась), Віктар, Вільгельм (Вілюсь), Генадзь (Гэнік), Данат (Донат, Донька), Іван (Янак, Янка, Яська, Янусь, Янушак), Іосіф (Юзік, Юзюк), Мечыслаў (Мечык), Пётр (Пятрок, Пётра), Сцяпан (Стэфан), Станіслаў (Стась), Тадэвуш (Тадзік), Уладзімір (Уладзюк, Уладак), Фе(э)лікс (Фэлька), Франц (Франак), Ча(э)слаў (Чэсік), Юльян (Юлісь).

Самае распаўсюджанае мужчынскае імя – Станіслаў (6 асобаў).

### Жаночы

Аліна (Ліна), Альжбета, Анеля, Антаніна (Толя), Вікторыя (Віця), Валянціна (Валя), Вольга (Оля), Галена (Глена), Галіна, Ганна (Анця), Дуня, Зоф’я (Зося), Ірына (Ірэна), Кацярына (Каця), Леакадзія (Люкада), Лілія (Ліля), Любоў (Люба), Людвіга, Марыя (Маня, Маруся, Марылька, Марыся), Марта (Мартуся), Рамуальда (Ромця), Рэгіна (Рэня), Станіслава (Стася),Стафанія (Стэфця), Тарэса, Та(э)рэня, Францішка (Франя), Хрысціна (Крыся), Юлія (Юля), Ядвіга (Ядзя, Ядзвіня), Яніна.

Самае распаўсюджанае жаночае імя – Марыя (11 асобаў).

## 2
## Склад паводле канфесійнай прыналежнасці
## (стан на 1970 г.)

Праваслаўнага веравызнання – 6 асобаў.
Каталіцкага веравызнання – каля 50 асобаў.
Змешаных (каталіцка-праваслаўных) сем’яў – 3.

# Выпіскі з метрычнай кнігі* ідолтаўскага рыма-каталіцкага касцёла** за 1919 г.

(аформлена на бланку друкарні
М. Трэбелева ў г. Дзісне 336 – 16)

Аб узяцці шлюбу жыхаром вёскі Сташулі Іосіфам Бабіновічам і жыхаркай вёскі Паршэлева Марыяй Францкевіч:

| № | Число вѣнчанія | Когда? гдѣ? кто? и по коликратномъ оглашеніи вѣнчалъ бракъ? | Какихъ именно новобрачныхъ, какого состоянія, званія, возраста и прихода? | Кто по имени и прозванію родители новобрачныхъ и кто поручители или свидѣтели? |
|---|---|---|---|---|
| 21. Бабиновичей. | 23. | Тысяча девятьсот девятнадцатаго года Ноября двадцать третьяго дня въ Идолтовскомъ римско-католическомъ филіальномъ костелѣ Ксендзъ Ильдефонсъ Бобичъ Настоятель сего костела по трехкратномъ оглашеніи сдѣланномъ предъ совершившеюся на Литургію народомъ изъ коихъ первое было 1 второе 9 и третье 16 ноября. | Іосифа Бабиновича холостаго 23 года изъ деревни Сташули съ Маріею Францкевичъ дѣвицею 22 года изъ деревни Паршялево обоихъ сего прихода по сдѣланіи предварительно строгаго съ обѣихъ сторонъ на письмѣ изъясненнаго изслѣдованія о препятствіяхъ къ бракосочетанію и по открытіи никакихъ а равно по изъявленному отъ обоихъ сторонъ взаимному согласію бывшимъ знакомыми обнаруженнаго посему. | Граждан Маркама Павлины изъ Зайдевской Бабиновичей законныхъ супруговъ сына съ гражданъ Казимира и Францишки изъ Барковскихъ Францкевичей законныхъ супруговъ дочерью бракомъ сочетанъ въ лицѣ костела торжественно подлежащимъ въ присутствіи вѣродостойныхъ свидѣтелей: Ивана Тишкевича О. Бѣлевича Другихъ |

* Метрычная кніга ідолтаўскага касцёла за 1919 г. – адзін з рукапісных збораў парафіяльных актаў, знойдзеных краязнаўцам В. Ермалёнкам улетку 2023 г. у закінутай хаце ў в. Мілашова. Адзіны з усіх – на рускай мове, іншыя (запісы пра ўдзяленне сакрамантаў хросту і бежмавання станам да 1939 г.) аформленыя па-польску. Ад 1 студзеня да верасня 1919 г. мясцовасць уваходзіла ў склад БССР.

** Цяпер – касцёл Маці Божай Шкаплернай у в. Ідолта. Пабудаваны ў 1939 г. У 1949–1953 гг. быў зачынены.

Аб узяцці шлюбу жыхаром вёскі Ракшнёва Карлам Кашкурам і жыхаркай фальварка Узгон* Марыяй Нікалаёнак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4. | 29. | Тысяча девятьсотъ девятнадцатаго года iюня двадцать девятаго дня въ Идолтовскомъ римско-католическомъ филiальномъ костелѣ ксендзъ Ильдефонсъ Бобичъ, настоятель сего костела по троекратномъ оглашенiи, сдѣланномъ предъ собравшимся на Литургiю народомъ, изъ коихъ первое было 15, второе 19, а третье 22 iюня. | Карла Кашкура, холостого 35 лѣтъ изъ деревни Ракшнёво Идолтовскаго прихода съ Марiей Николаенокъ дѣвицей 27 лѣтъ изъ фольварка Узгонъ Мiорскаго прихода по сдѣланiи предварительно строгаго съ обѣихъ сторонъ на [illegible] изъясненнаго изслѣдованiя о препятствiяхъ къ бракосочетанiю и по неоткрытiи никакихъ а равно по изъявленному отъ обоихъ лицъ взаимному согласiю внѣшними знаками обнаруженному. | Граждан Фаддея и Терезiи изъ Марковичей Кашкуровъ законныхъ супруговъ сына съ гражданъ Викентiя и Татьяны изъ Борейковъ Николаенковъ законныхъ супруговъ дочерью бракомъ сочеталъ и въ лицѣ костела торжественно поблагословилъ въ присутствiи благородостойныхъ свидѣтелей: Стефана Соколовскаго, Венедикта Невяровскаго, Генриха Немиро и другихъ. |

Кашкуровъ

...белева, г. Дисна № 336—16

Сведчанне сапраўднасці шлюбных актаў Ідолтаўскай парафіі 1919 г. яе пробашчам ксяндзом Ільдэфансам Бобічам** ад 2 снежня 1920 г.:

Вѣрность сихъ двадцати трехъ (23) метрическихъ актовъ о бракосочетавшихся удостовѣряю. — м. Идолта, 2 Декабря 1920 г.
Настоятель Идолтовскаго Р.К. фил. прихода
Кс. И. Бобичъ

...cclesiae Idolten...

* Узгон (Узгонь) – урочышча справа на палове шляху ад в. Папкі да в. Сочнева.
** Ільдэфанс Бобіч (1890–1944) – каталіцкі святар, багаслоў, адзін з пачынальнікаў беларускага руху ў пачатку XX ст. Нарадзіўся ў в. Дзедзіна Дзісенскага павета (цяпер Мёрскі раён). Вядомы як перакладчык, публіцыст і пісьменнік пад псеўданімам Пётра Просты. У Ідолце выконваў святарскую паслугу ў 1917–1920 гг. Згадкі пра яго грамадскую і святарскую дзейнасць маюцца ў працах кс. Адама Станкевіча і а. Аляксандра Надсана.

# Кароткі тлумачальны слоўнік дзеясловаў эмацыйна-саркастычнай афарбоўкі гаворак ніжняга цячэння ракі Вяты

*Вараяціцца* – паводзіць сябе несур'ёзна, дурэць
*Ва(ы)ранджацца* – сваволіць без меры, дурэць
*Гавыліць (іран., з выбухн. "г")* – плакаць напаказ
*Дастаўляцца* – брыдкасловіць, лаяцца
*Дашыцца* – гарэзнічаць, свавольнічаць, дурэць
*Дрэнчыцца* – настойліва, несупынна ныць
*Зяваць* (асудж.) – крычаць
*Карапужыцца* – удаваць з сябе, выхваляцца
*Кнюрыць* – высочваць, выглядаць, цікаваць
*Магавацца* – намагацца, імкнуцца, спрабаваць
*Момніць* – есці (тое, што ўплятаць)
*Мудуравацца* – дурніцца, вараяціцца, сваволіць
*Надаражвацца* – наўмысна дражніцца, кпіць
*Наругацца* – наўмысна рабіць (ці казаць) насуперак
*Наўрэць* – займець непрыемнасць у выніку неразумных дзеянняў
*Нэмнуць* – квэцнуць, ударыць
*Няўрымставаць* – выказваць нецярпенне
*Падсуклечваць* – падгаворваць, намаўляць
*Перадкаваць* – імкнуцца быць паперадзе ўсіх
*Перастарэкваць* – перагаворваць, дражніць
*Псюрыць* – біць
*Пурзацца (пурзоліцца)* – рабіць занадта марудна
*Раззявацца* – раскрычацца
*Распасорваць* – расходаваць без меры, абы-як
*Слібізаваць** – мітусіцца перад вачамі
*Страбесаваць* – зглуміць (згубіць), страціць
*Успратвацца* – улазіць, уціскацца
*Успянцёрвацца* – узлазіць (туды, дзе не чакалі)
*Устурвацца* – рана прачынацца, падымацца
*Ушкурваць* – рабіць наўмысную шкоду
*Уюшвацца* – раніць сябе, прычыняць сабе верад

* Паводле Тлум. слоўніка бел. мовы пад рэд. К. К. Атраховіча – марудна, па складах чытаць.

# Сярэдняя агульнаадукацыйная школа ў вёсцы Павяцце



*Трэцяя злева ўнізе – старэйшы педагог школы, настаўніца беларускай мовы і літаратуры (у 1952–1955 гг. – дырэктар) Марыя Дзямідаўна Васільева. Справа ад яе – настаўніца матэматыкі, шматгадовы намеснік дырэктара Алена Іванаўна Рачыцкая. 1969 г.*



*Група настаўнікаў школы падчас урачыстай лінейкі з нагоды заканчэння 1969–1970 навучальнага года. Здымак зроблены на пляцы наўзбоч аднаго з трох тагачасных аднапавярховых школьных будынкаў (новы цагляны двухпавярховы быў узведзены ў 1973 г.). Здымкі са збору Тамары Мікалаеўны Шаховіч (першая справа).*

# Маўклівыя сведкі мінуўшчыны





***Уверсе:*** *надкамелле срэбналістае надвісленскае таполі, пасаджанай аўтарам 55 год таму на бацькоўскай сядзібе ў Міжрэччы.* ***Унізе:*** *капліца Святога Яна Хрысціцеля ў Вяце. Здымкі аўтара. 2023 г.*




## СЛОВА ПРА АЎТАРА
### і яго працу

Франц Сіўко з’явіўся на свет у Друі, месцам яго нараджэння ў дакументах значыцца памежная вёска Вята. Той яе маляўнічы куток пры ўтоку ракі Вяты ў Заходнюю Дзвіну, што завецца Кухальшчынай і дзе знайшлі прытулак на кароткі час па шлюбе яго бацькі. Дзяцінства ж і юнацтва будучага літаратара прамінулі ў вёсцы Міжрэчча. Там жа былі адоленыя ім і першыя навукі ў пачатковай школе, адтуль пралеглі шляхі-сцяжыны да ўдасканалення ведаў ды гартавання характару ў адлеглай за шэсць кіламетраў дзесяцігодцы ў вёсцы Павяцце.

У маладосці Франц Сіўко зведаў роднае наваколле ўздоўж-упоперак, так што з’яўленне ў друку гэтых нарысаў не выпадковае. Яны, як бы ні выглядалі такія словы збіта ці, наадварот, пафасна, – даніна памяці мясцовасці і людзям, што сустракалі тут кожны свой новы (а многія і апошні тут сустрэлі) дзень. І дзякуй Богу, што аўтару ва ўзросце, калі, як сам ён кажа, руіны роднай старонкі пачынаюць уяўляцца куды больш значнымі за руіны рымскага Форума, імпэту звярнуцца да занатавання іх даўнейшых абрысаў сталася дастаткова.

